Дэпартамент па архівах і справаводстве
Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь

Установа «Беларускі дзяржаўны архіў-музей
літаратуры і мастацтва»

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

*Даведнік*

Выпуск 3
Паступлепні 2010–2021 гг.

*Рэкамендавана Вучоным саветам*
*Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва*
*(пратакол ад )*

Мінск
«СтройМедиаПроект»
2023

УДК [82+7]:069 (476)(035)
ББК 83лб(4Беи)
Б43

Навуковы рэдактар:
Ганаровы архівіст Беларусі Г. В. Запартыка

Укладальнікі:
В. Я. Данекіна, Г. В. Запартыка



**Беларускі** дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва :
Б43 даведнік. Вып. 3. Паступленні 2010–2022 гг. / Дэпартамент па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Установа «Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва» ; уклад.: В. Я. Данекіна, Г. В. Запартыка ; рэдкал.: Г. В. Запартыка [і інш.]. — Мінск : «Строймедиа-Проект», 2023. — 576 с.
ISBN 978-985-7296-16-3.

Трэці выпуск Даведніка па фондах БДАМЛМ уключае 156 анатацый на фонды асабістага паходжання, дзяржаўных і грамадскіх устаноў, якія паступілі ў 2010–2022 гг. Даведнік забяспечаны імянным і прадметным паказальнікамі, спісам фондаў БДАМЛМ на 01.01.2022.

**УДК [82+7]:069 (476)(035)**
**ББК 83лб(4Беи)**

**ISBN 978-985-7296-16-3**

# Прадмова

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва за дзесяцігоддзе, вынікам працы якога з'яўляюцца анатаваныя ў дадзеным даведніку фонды, доказна пацвердзіў свой статус аднаго з буйнейшых сховішчаў дакументальных крыніц па гісторыі літаратуры і мастацтва Беларусі. На 01.01.2022 архіў-музей налічваў 521 фонд, створаны на аснове асабістых архіваў пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, рэжысёраў, акцёраў, а таксама на аснове дакументаў творчых саюзаў, тэатраў, выдавецтваў, рэдакцый часопісаў, кінастудыі «Беларусьфільм», Белдзяржфілармоніі, Беларускай акадэміі музыкі і інш. Большую частку фондаў БДАМЛМ, звыш 80 %, складаюць фонды асабістага паходжання дзеячаў літаратуры і мастацтва, з іх найбольшую колькасць — фонды пісьменнікаў. У рукапісах і дакументах, якія яны захоўваюць, адлюстравана жыццё, дзейнасць іх стваральнікаў і галоўнае — іх творчая лабараторыя. Асабістыя фонды дзеячаў літаратуры і мастацтва сталі крыніцай навуковых адкрыццяў, асновай для стварэння збораў твораў класікаў беларускай літаратуры, дакументальных выданняў аб жыцці і дзейнасці кампазітараў, акцёраў, мастакоў і інш.

Як і ў папярэднія дзесяцігоддзі, дзейнасць БДАМЛМ у гэты перыяд адзначана высокай актыўнасцю камплектавання фондаў асабістага паходжання. Архіў-музей быў і застаецца адным з унікальных аб'ектаў навуковых інтарэсаў літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, гісторыкаў культуры і даследчыкаў яшчэ цэлага шэрагу гуманітарных дысцыплін. БДАМЛМ у 2010–2021 гг. было створана звыш ста тэматычных і персанальных выстаў, падрыхтавана і выдадзена

дзевяць зборнікаў дакументаў і матэрыялаў канферэнцый, апублікавана ў зборніках, часопісах і газетах каля трохсот артыкулаў, арганізаваны многія творчыя вечарыны і прэзентацыі. Важную ролю ў пашырэнні ведаў грамадства аб архіве і яго фондах адыграў удзел супрацоўнікаў БДАМЛМ у міжнародных і рэспубліканскіх навуковых і практычных канферэнцыях. Для гэтага перыяду было характэрным таксама цеснае супрацоўніцтва з музеямі, бібліятэкамі, архівамі. Як і раней, пачынаючы з 2001 года, архівам-музеем ладзіліся літаратуразнаўчыя «Узвышаўскія чытанні», а з 2003 года — архівазнаўчыя «Архіўныя чытанні». Карыстальніку дакументаў архіва-музея важна ведаць, што значная частка яго працы была скіравана на паскоранае стварэнне імяннога і сістэматычнага каталогаў, распрацоўку і ўкараненне аўтаматызаваных архіўных тэхналогій, забеспячэнне «ААТ — імянны каталог» чытальнай залы.

Трэці выпуск Даведніка па фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва раскрывае змест і склад фондаў, якія паступілі і прайшлі навукова-тэхнічную апрацоўку ў 2010–2021 гг. Апошні вынік працы архіва-музея па ўзбагачэнні Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусі дакументамі па гісторыі літаратуры і мастацтва складаюць асабістыя фонды дзеячаў літаратуры: П. І. Бітэля, Д. І. Бічэль-Загнетавай, Я. Брыля, Г. М. Бураўкіна, В. У. Быкава, С. І. Грахоўскага, У. М. Дамашэвіча, Язэпа Дылы, Х. Дз. Жычкі, У. А. Калесніка, А. П. Капусціна, У. С. Караткевіча, В. М. Коўтун, А. М. Кулакоўскага, У. С. Ліпскага, У. І. Мархеля, М. Я. Матукоўскага, Р. Д. Мурашкі, І. Я. Навуменкі, П. Е. Панчанкі, А. Л. Петрашкевіча, Э. М. Скобелева, Максіма Танка, Х. М. Чэрні і інш.; вядомых рэжысёраў і акцёраў: сямейны фонд С. С. Бірылы, З. Я. Ліцкай і А. І. Сянько, сямейны фонд Я. Э. Віцінга і Т. І. Лук'янавай, В. Ф. Валчанецкай, Э. М. Гарачага, Л. Р. Ганеставай, С. Я. Гурыч, П. В. Кармуніна, сямейны фонд П. С. Малчанава і Л. І. Мазалеўскай, А. С. Падабеда, Г. К. Някрасава, сямейны фонд Я. М. Палосіна і Л. С. Весніной (Ядзіткінай), С. М. Станюты, сямейны фонд Уладамірскіх У. І., Б. У., Г. І., А. Б. і К. В. Замешынай-Малейкі, Ф. І. Шмакава і інш.; музычных дзеячаў і кампазітараў: С. С. Аксакава,

А. В. Багатырова, Ю. М. Дрэйзіна, П. П. Падкавырава, С. У. Палонскага, Дз. Б. Смольскага, Г. І. Цітовіча; мастакоў і мастацтвазнаўцаў: З. А. Астаповіч-Бачаровай, С. П. Геруса, А. М. Кашкурэвіча, Я. С. Куліка, І. І. Пешкура, А. М. Чуркіна і інш.; вучоных: музыказнаўца, доктара мастацтвазнаўства В. А. Антаневіч, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара М. Р. Ларчанкі, гісторыка-архівіста В. У. Скалабана, фалькларыста І. К. Цішчанкі, мовазнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара БДУ Л. М. Шакуна, вучонага-лінгвіста Ф. М. Янкоўскага і інш.

Значнае месца ў Даведніку займаюць анатацыі на калекцыі і зборы, якія паступілі ад калекцыянераў ці сфарміраваліся ў архіве-музеі з малаколькасных паступленняў прыватных архіваў. Да іх адносяцца «Збор дакументаў дзеячаў літаратуры», «Збор матэрыялаў Якуба Коласа», «Калекцыя дакументаў па гісторыі культуры, сабраная Я. Ю. Раманоўскай», «Калекцыя дакументаў, сабраная У. І. Кулікоўскім», «Калекцыя фатаграфій дзеячаў літаратуры і мастацтва, сабраная П. К. Панамарэнкам», «Калекцыя дакументаў Міністэрства культуры БССР».

У трэцім выпуску Даведніка працягнута анатаванне фондаў дзяржаўных і недзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый, якія папоўніліся за ўказаны перыяд новымі паступленнямі. Да іх адносяцца выдавецкія ўстановы і рэдакцыі часопісаў і газет: рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і мастацтва», установы «Рэдакцыя часопіса «Алеся», «Рэдакцыя часопіса «Вожык», «Рэдакцыя часопіса «Вясёлка», «Рэдакцыя часопіса «Мастацтва Беларусі», «Рэдакцыя часопіса «Роднае слова»; грамадскія арганізацыі і прадпрыемствы: выставачныя ўнітарныя прадпрыемствы «Мастацкая галерэя «Беларт» і «Рэспубліканская мастацкая галерэя» грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў», грамадскія аб'яднанні «Беларускі літаратурны фонд», «Беларускі саюз журналістаў», «Беларускі саюз мастакоў», «Беларускі саюз тэатральных дзеячаў» і інш.; тэатральна-відовішчныя ўстановы: дзяржаўная ўстанова «Палац рэспублікі» Упраўлення справамі Прэзідэнта

Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа, Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Маладзёжны тэатр эстрады, Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр, Беларускі дзяржаўны тэатр лялек, Беларускі дзяржаўны музычны тэатр, Беларускі дзяржаўны цырк і інш.; установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі», «Інстытут культуры Беларусі»; дзяржаўная ўстанова «Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур» (РЦНК); прадпрыемствы кінавытворчасці: рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм», вытворча-творчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Беларускі відэацэнтр»; «Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга філармонія», творчыя калектывы «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі», «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь «Нацыянальны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь» імя М. Я. Фінберга.

Усяго ў трэці выпуск Даведніка па фондах БДАМЛМ уключана 158 анатацый.

Пры распрацоўцы схемы Даведніка ўлічвалася профільная спецыфіка і склад фондаў архіва-музея: на першае месца вылучаны фонды дзеячаў літаратуры і мастацтва, за імі самастойным раздзелам — зборы і калекцыі, пасля фонды дзяржаўных і недзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый. Апісальныя артыкулы Даведніка падаюць агульныя звесткі пра фонд, біяграфічныя звесткі пра фондаўтваральнікаў, гістарычныя даведкі дзяржаўных і недзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый і анатацыю дакументаў. Для найбольш каштоўных дакументаў, а таксама пісем, фатаграфій, альбомаў, блакнотаў і інш. указваецца іх колькасць. Размяшчэнне інфармацыі ў анатацыях адпавядае арганізацыі дакументаў у фондзе (схеме сістэматызацыі).

Даведнік па фондах БДАМЛМ забяспечаны імянным і прадметным паказальнікам, спісам фондаў БДАМЛМ на 01.01.2022, зместам.

Усе анатацыі на фонды асабістага паходжання, а таксама зборы і калекцыі былі напісаны адразу пасля іх навукова-тэхнічнай апрацоўкі супрацоўнікамі аддзела навуковага апісання дакументаў асабістага паходжання, якія непасрэдна ажыццяўлялі НТА архіваў (Г. Б. Багамолава, В. Я. Данекіна, І. А Евенка, Н. П. Прынько, В. Ф. Шаталава і інш.). Анатацыі на фонды дзяржаўных і недзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый былі падрыхтаваны Г. В. Запартыка ў працэсе працы па падрыхтоўцы Даведніка да выдання.

Ганаровы архівіст Беларусі
Г. В. Запартыка

## АКРУЖНАЯ С. А.

**Ф. 337. Воп. 1, 19 адз. зах., 68 дак., 1969–1990 гг.**

***Акружная Святлана Арцёмаўна*** *(нар. 1947) — актрыса, народная артыстка Беларусі (1991)*

Дакументы С. А. Акружной. Фота ў ролях, сцэнах са спектакляў, сыграных у тэатры імя Я. Коласа: «Улада цемры» Л. М. Талстога, «А світанкі тут ціхія…» Б. Л. Васільева, «Зацюканы апостал» А. Я. Макаёнка, «Матухна Кураж і яе дзеці» Б. Брэхта, «Восем закаханых жанчын» Р. Тама, «Скорыя цягнікі» А. Г. Паповай, «Пяты дзесятак» А. А. Бялінскага, «Развітанне ў чэрвені» А. В. Вампілава, «Радавыя» А. А. Дударава, «Ах, які пасаж!» У. А. Салагуба, «Беласнежка і сем гномаў», «Я — жанчына» В. І. Мярэжкі з удзелам Л. А. Антосевай, В. Г. Грушова, Г. П. Маркінай, Б. І. Сяўко, А. М. Труса, Л. І. Трушко, Ф. І. Шмакава 20 (1969–1987).

Артыкулы пра С. А. Акружную (1971–1990); рэцэнзіі на спектаклі тэатра імя Я. Коласа (1969–1990).

Фотапартрэты С. А. Акружной 2 (1977, 1982).

## АКСАКАЎ С. С.

**Ф. 95. Воп. 2, 27 адз. зах., 45 дак., [1850-я]–1961, 2009 гг.**[1]

***Аксакаў Сяргей Сяргеевіч*** *(1891–1968) — кампазітар*

Рукапісы-ноты С. С. Аксакава. П’еса для фп. — выр. з друкав. выд. з праўкай С. С. Аксакава [1928–1945], рамансы і песні для голасу з фп. (1929–1961) на сл. А. М. Пляшчэева і П. Ф. Прыходзькі — аўт. перапісчыка з праўкай С. С. Аксакава. Усяго 6 рук.

Пісьмо С. С. Аксакаву ад В. М. Аргамакава (г. Масква) (1957).

Асабістыя дакументы С. С. Аксакава. Копіі метрычнага пасведчання аб хрышчэнні (1900), пасведчанняў аб сканчэнні праграмы Маскоўскай кансерваторыі за 1904–1911 гг., аб працы ў Шанхай-

[1]Анатацыю на воп. 1 (1870–1957) гл. Вып. 1. С. 27.

скай дзяржаўнай кансерваторыі ў 1929–1945 гг. (Кітай), паведамлення Дзярж. консульства СССР у г. Шанхай аб дазволе на выезд у СССР (1954).

Праграма канцэрта з удзелам С. С. Аксакава (Кітай) (1935).

А. С. Куляшоў. «Сергей Сергеевич Аксаков — русский советский композитор». Глава кнігі — выдрук (2009).

Выпіскі С. С. Аксакава пра вядомых дзеячаў беларускай культуры і навукі XIX – пач. XX ст. [пасля 1955 года] — рук.

Фота С. С. Аксакава ў групах са сваякамі 2 ([кан.1890-х], 1959), з выкладчыкамі і студэнтамі Шанхайскай дзяржаўнай кансерваторыі (1935), з С. І. Машынскім, М. П. Пахомавым і інш. (г. Масква) (1959), М. І. Аладавым, Л. С. Мухарынскай, Я. К. Цікоцкім, Р. К. Пукстам, Г. І. Цітовічам (1960).

Фота С. С. Аксакава з доктарам права А. А. Алёхіным, піяністам Б. С. Захаравым і інш. (г. Петраград) — рэпрадукцыя (1916).

Фота паэта М. [М.] Аненкава (г. Пецярбург) [1870-я–1880-я], С. Капніста (праўнука паэта і драматурга В. В. Капніста, г. Масква) (1905) і неўст. асобы [пач. XX ст.].

Фота цэнтра г. Масквы ў час паводкі 2 (1908).

Дакументы сваякоў С. С. Аксакава: В. М. Аргамакава (*савецкі піяніст, педагог і кампазітар*) — альбом з уласнымі творамі (балада, байкі, вершы, эпіграмы і інш.) за 1893– 1959 гг.; М. С. Аксакавай (сястры) — пісьмо маскоўскай знаёмай да яе (1910); прадметная кніжка Маскоўскіх вышэйшых жаночых курсаў на імя М. С. Аксакавай (1908).

Фота С. Р. Аксакава (бацькі) [кан. 1890-х], С. І. Аксакавай (маці) з унучкай Верай — дачкой С. Аксакава (1916), М. С. Аксакавай (сястры) 2 (1910–1914), К. С. Аксакава (брата) [1920-я], В. Р. (рус. Ольга Григорьевна) Аксакавай у дзяцінстве (цёткі і хроснай С. С. Аксакава) [1850-я], С. А. Аксакавай (нар. Шышкова, дачка пісьменніка А. С. Шышкова) — жонкі Р. С. Аксакава (дзядзькі) [да 1883].

Фота пейзажаў: сажалка ў садзе ў в. Кураедава Уфімскай губерні (1904), сад і ставок ў в. Аксакава Самарскай губерні 3 (1906–1908) — фамільных уладаннях Аксакавых.

Дакументы А. Ц. Грачанінава. Сімфонія H-Moll — партытура, друкав. выд. з дароўным надпісам А. Ц. Грачанінава С. С. Аксакаву (1932); рамансы для голасу з фп. на сл. Ш. Бадлера, Г. Галінай і N. N. на рус. м., на сл. Ш. Бадлера і М. Кальвакарэсі на фр. м. [1911 – да 1938] — выр. з друкав. выд.; фота А. Ц. Грачанінава з жонкай (г. Парыж) (1912), індывідуальнае фота А. Ц. Грачанінава з дароўным надпісам С. С. Аксакаву (г. Парыж) (1931).

## АНТАНЕВІЧ В. А.

**Ф. 491. Воп. 1, 78 адз. зах., 214 дак., 1951–2005 гг.**

***Антаневіч Валянціна Аляксееўна*** *(1951–2004) — музыказнавец, доктар мастацтвазнаўства*

Рукапісы В. А. Антаневіч. Даследаванні: «О некоторых особенностях использования фольклора в творчестве белорусских композиторов конца 50-х – начала 70-х гг.» — дыпломная праца — маш. (1974), «Особенности претворения музыкального фольклора в творчестве русских советских композиторов конца 50-х – начала 70-х гг.» — рэферат — маш. (1971), «Творчество композиторов Советской Белоруссии в его связях с национальным музыкальным фольклором (конец 50-х – 70-я гг.)» — кандыдацкая дысертацыя — маш. з нязн. аўт. праўкай (1981) і аўтарэферат дысертацыі — брашура (1982), «Белорусское композиторское творчество в его связях с фольклором: Историко-методологическое исследование» — доктарская дысертацыя — маш. з нязначн. аўт. праўкай і аўтарэферат — брашура (1999), «Беларуская кампазітарская творчасць у яе сувязях з фальклорам» — даклад на пасяджэнні савета па абароне дысертацый — няпоўны тэкст — аўтарыз. маш. (1999), «Из “генной памяти” народа (Владимир Мулявин)» — даследаванне — аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай, маш. ([2000]–2003); артыкулы: «Три тура музыки» — выр. з газ. (1972), «Звонкая песенная река» — выр. з газ. (1973), «Поёт “Трембита”» — выр. з газ. (1973), «Фольклор и творчество молодых» — ксеракоп.,

выр. з часоп. (1981), «Беларускі музычны шлях: гістарычны фактар і кампазітарская творчасць» — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, маш. з праўкай [2000–2002], пра кампазітараў В. А. Войціка, В. А. Капыцько, В. У. Кузняцова, А. Ю. Мдзівані, У. Я. Солтана, Л. К. Шлег для энцыклапедыі «The New Grove Dictionary of Music and Musicians» — маш. (1996, 1999), А. В. Багатырова — маш. [2002–2003] і інш. Усяго 33 рук.

Пісьмо В. А. Антаневіч прэзідэнту Амерыканскага біяграфічнага інстытута Дж. М. Эвансу — прыкладзена анкета са звесткамі пра яе на англ. м. (2004).

Пісьмы да В. А. Антаневіч: выд. «Grove» 9 (1996–2004), American Biographical Institute 2 (2003), біяграфічнага даведніка «The Contemporary Who's Who» 5 (2004-2005), Беларускага дзярж. універсітэта культуры 3 (2001–2004).

Дароўны надпіс піяніста Іосіфа Сяргея В. А. Антаневіч на праграме «Koncert laureatów Międzynarodowego konkursu pianistycznego–Mińsk-96» (1997).

Дакументы да біяграфіі В. А. Антаневіч (1951–2004). Пасведчанне і атэстат аб васьмігадовай і сярэдняй адукацыі (1966, 1969), пісьмы Белдзяржкансерваторыі да дырэктара Музфонду БССР (1973), Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (2003), дыплом аб заканчэнні Белдзяржкансерваторыі (1974); дак-ты аб вучобе ў аспірантуры Дзярж. музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных (1974–1981); дак-ты аб абароне дысертацыі на суісканне вучонай ступені кандыдата мастацтвазнаўства (1981–1982); дыпломы кандыдата і доктара мастацтвазнаўства (1982, 2000), спісы навуковых прац (1986–2003); дак-ты аб наданні вучонага звання дацэнта (1986), атэстат дацэнта кафедры гісторыі музыкі (1987); справаздачы аб вучэбнай, навукова-метадычнай і навукова-даследчай працы за 1988–2002 гг.; дак-ты аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Малдовы пры ЮНЕСКА; дак-ты аб абароне дысертацыі на суісканне вучонай ступені доктара мастацтвазнаўства (1997–2000); аўтабіяграфія, асабовы лісток па ўліку кадраў, анкета навуковага работніка (1999–

[2000]), характарыстыкі (2000–2003); дак-ты аб вылучэнні на атрыманне стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і на ўстанаўленне персанальнай надбаўкі (2000–2003); загад рэктара Беларускай акадэміі музыкі М. А. Казінца аб падрыхт. энцыклапедычнага даведніка «Белорусская государственная академия музыки. 1932–2002. Профессора и преподаватели» (аўтары-укладальнікі В. А. Антаневіч і Р. І. Сергіенка) (2002); праграмы навуковых канферэнцый «Беларусь і музычная спадчына XX стагоддзя: пошукі і здабыткі», «Беларускае музыказнаўства: новыя далягляды (XIII Навуковыя чытанні памяці Л. С. Мухарынскай (1906–1987)» (2001, 2004); дак-ты аб наданні вучонага звання прафесара (2003); водгукі В. А. Антаневіч (афіцыйнага апанента) на аўтарэфераты кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый Н. А. Аруцюнавай, Л. А. Волкавай, Л. А. Густавай, А. В. Лісавай, Т. У. Ліхач, В. У. Мазанік, Г. С. Мішурава, В. П. Пракапцовай, Н. П. Яканюка і інш. (2000–2004); рэцэнзіі на кандыдацкую дысертацыю В. А. Чарняк (1998), на тэзісы лекцый вучэбна-факультатыўнага курса «Теоретические проблемы белорусской музыки XX века» (2001), заключэнні на праект працы на тэму «Архетипы культуры в белорусском экранном искусстве» (кіраўнік праекта В. Ф. Нячай); аўтарэфераты дысертацый (брашуры) В. А. Чарняк (1998), Н. А. Аруцюнавай, Л. А. Волкавай, А. А. Галкіна, В. У. Мазанік (2001), Не На (Кітай, 2002) і інш.

Дакументы, сабраныя В. А. Антаневіч. Артыкулы пра вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» — ксеракоп. выр. з паметамі В. А. Антаневіч ([1977]–2003); У. К. Сарокін «Валянціна» — песня для голасу на сл. А. М. Бадака — выр. з газ. (2000); «Статут беларускай каталіцкай грамады» (1991); часоп. «Унія» № 2 за 1990 г.; «Музыкальный лицей Белорусской государственной консерватории им. А. В. Луначарского» — друкав. выд. (1992); «Беларуская арганная культура ў кантэксце еўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу» — аўтарэферат дысертацыі У. В. Неўдаха на суісканне навуковай ступені кандыдата мастацтвазнаўства — брашура (1999); рэферат Л. М. Іконнікавай «Культура интерпретации в хоровом исполнительстве» — маш. (2002).

Фота В. А. Антаневіч, індывідуальнае і з А. і Л. Д. Антаневічамі (бацькамі), 2 [1956, 1958], у групах з вучнямі і выкладчыкамі Мінскай сярэдняй музычнай школы пры Белдзяржкансерваторыі А. І. Германам, І. А. Цвятаевай і інш., хору музычнай школы ў піянерскім лагеры «Артек», на адкрыцці новага будынка Белдзяржфілармоніі з І. Г. Германам, Дз. Б. Кабалеўскім, М. Ф. Маславым і інш. 9 (1960–1969), у групах са студэнтамі Белдзяржкансерваторыі І. М. Казанцавай, Н. М. Перкас, М. С. Старчаус, Н. Цвятковай, Т. А. Цітовай 2 (1969, 1970), выкладчыкамі Белдзяржкансерваторыі Р. М. Аладавай, Т. А. Бярковіч, Г. С. Глушчанкам, В. У. Дадзёмавай, К. М. Дулавай, С. Г. Нісневіч, К. І. Сцепанцэвіч, Т. А. Шчарбаковай, В. Л. Яканюком і інш. 15 ([1978]–2002).

## АСТАПОВІЧ-БАЧАРОВА З. А.

**Ф. 448. Воп. 1, 317 адз. зах., 933 дак., [кан. 1890-х]–2008 гг.**

***Астаповіч-Бачарова Зінаіда Антонаўна** (1898–1993) — мастачка*

Малюнкі З. А. Астаповіч-Бачаровай. Пейзажы [1960-я–1980-я]; кампазіцыі [1980-я–1990]; партрэты, замалёўкі і накіды фігур і галоў людзей [1980-я–1990]; нацюрморты [1980-я–1990]; ілюстрацыі да кніг [1980-я–1990]; арнаменты [1980-я–1990] і інш. Усяго 602 мал.

Альбомы і сшыткі (4) з эцюдамі і накідамі пейзажаў, партрэтаў і тэатральных персанажаў (1978–[1980-я–1990]).

Пісьмы і паштоўкі З. А. Астаповіч-Бачаровай: А. А. Астаповічу 2 (1920), М. І. Астаповіч 2 (1920), В. Ф. Шматаву [1970] — ксеракоп., Н. М. Усавай 26 (1988–1991); дырэктару Дзярж. мастацкага музея БССР Ю. А. Карачуну (1990) — усяго 5 адр.

Пісьмы і паштоўкі да З. А. Астаповіч-Бачаровай: А. А. Астаповіча 38 (1915–1941) — арыгіналы і ксеракоп., І. А. Бачарова 4 (1960–1965), Н. І. Смірновай 3 (1968–1976), В. Ф. Шматава 5 (1970–1975), І. Т. Нярсэсавай 4 ([1970-я]–1989), Н. М. Усавай 15 (1986–[1993]), В. У. Вайцэхоўскай 8 (1988–1990), А. Дз. Смірновай (1989) і інш.; су-

працоўнікаў Музея-сядзібы М. К. Рэрыха ў Ізвары (1993) — усяго 13 кар.

Дакументы да біяграфіі З. А. Астаповіч-Бачаровай (1927–1993). Пасведчанні аб нараджэнні (1906) — ксеракоп., аб шлюбе (1928) — ксеракоп., атэстат Аляксандраўскай жаночай гімназіі г. Петраграда (1915) — ксеракоп., пасведчанне вучаніцы Школы ўсерасійскага таварыства заахвочвання мастацтваў (1918) — ксеракоп. і інш. , асабістая кніжка ўдзельніка аднаўлення гарадской гаспадаркі г. Ленінграда, разліковая кніжка і інш. (1927–1962), членскі білет прафсаюза працаўнікоў мастацтваў СССР (ВСЕРАБИС) і ўліковы талон Цэнтральнага пасрэдніцкага бюро па найме работнікаў мастацтваў г. Ленінграда (1929–1930); аўтабіяграфія (1988); дак-ты аб супрацоўніцтве З. А. Астаповіч-Бачаровай з Дзярж. мастацкім музеем БССР: дак-ты аб набыцці яе графічных і жывапісных прац, запрашэнне на адкрыццё яе выстаўкі і інш. (1988–1989); афіша выстаўкі З. А. Астаповіч-Бачаровай (1993).

Артыкулы і нататкі Н. М. Усавай і А. Дз. Смірновай пра З. А. Астаповіч-Бачарову (1988–1998); артыкулы І. М. Куркова і інш. (1997, 2008), паштоўкі М. І. Астаповіч да Н. Р. Якубовіч [1912] і В. А. Астаповіча да Н. М. Усавай з упам. З. А. Астаповіч-Бачаровай (1987, 1980).

Фота і рэпрадукцыя фота З. А. Астаповіч-Бачаровай, індывідуальныя 3 (1932–1978), рэпрадукцыі фота з каталога «Аркадзь Антонавіч Астаповіч (1896–1941). Зінаіда Антонаўна Астаповіч-Бачарова (1898–1993)» 4 (1996); афіша выстаўкі З. А. Астаповіч-Бачаровай у Віцебскім мастацкім музеі (1993).

Паштоўкі выд-ваў: «I.D.M.», « Контрагентъ», « Р. Голике и А. Вильборгъ», «Разсвет», «Ришаръ» і інш. з рэпрадукцыямі карцін М. П. Бялыніцкага-Бірулі, В. Я. Волкава, В. А. Катарбінскага, І. І. Левітана, П. А. Леўчанкі, І. Я. Рэпіна, К. Ф. Юона і інш. 26 ([кан. 1890-х ]–1948).

Дакументы А. А. Астаповіча (брата, мастака). Пейзажы — акв., алов. 8 (1935–1941), пейзаж — алей [1930-я–1941]; пісьмы да Н. Р. Якубовіч (будучай жонкі) 4 ([1911]–1912), М. І. Астаповіч (маці)

(1931), пісьмы ад Ант. А. Астаповіча (бацькі) 6 (1908–1908); пасведчанне аб членстве ў Саюзе работнікаў асветы (1931), паведамленне аб гібелі (1941) — коп. і інш.; запрашэнне на адкрыццё выстаўкі, прысвеч. 100-годдзю з дня нараджэння А. А. Астаповіча ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь (1996).

Дакументы іншых членаў сям'і З. А. Астаповіч-Бачаровай. Выпіскі аб нараджэнні М. І. Казловай (маці, 1875), аб шлюбе бацькоў (1893) — коп. і інш.; пісьмы Ант. А. Астаповічу ад сваякоў і знаёмых 6 (1912–1913), Н. Р. Якубовіч ад сяброў і знаёмых 17 (1910–[др. пал. 1920-х]) і інш.; фота Н. Р. Якубовіч, індывідуальныя 3, ў групе са сваякамі [1920-я–1940-я], фота А. А. і В. А. Астаповічаў (сыноў А. А. Астаповіча) 8 [1920-я–1950-я] і інш.

## БАГАТЫРОЎ А. В.

**Ф. 190. Воп. 2, 538 адз. зах., 2299 дак., 1913–2003 гг., асобн. дак. 1895–1910-я гг., 2004 г.**

***Багатыроў Анатоль Васільевіч*** *(1913–2003) — кампазітар, народны артыст Беларусі, прафесар*

Рукапісы-ноты А. В. Багатырова. Оперы: «У пушчах Палесся» па Я. Коласу, лібрэта Я. С. Рамановіча — клавір і партытура [1939–1970-я], «Надежда Дурова», лібрэта І. І. Келера — клавір і партытура (1942–1956); музыка да пастановак п'ес: «Заложнікі» А. Е. Кучара (1944), «Маскарад» М. Ю. Лермантава (1965–1966), «Лёнушка» Л. М. Лявонава (1974); музыка да фільма «Константин Заслонов» У. У. Корша-Сабліна (1949); інструментальныя творы: сімфоніі №1 — партытура, клавір, аркестровыя партыі (1946) і №2 — клавір (1947), сюіты на тэмы беларускіх народных песень (1948) і для аркестра народных інструментаў (1963), святочная ўверцюра (1960–1961), канцэрты з аркестрам — для віяланчэлі (1962, 1986) і кантрабаса (1963–1971); санаты: для віяланчэлі з фп. (1950), для трамбона з фп. (1964), для кантрабаса з фп. (1965); п'есы: для віяланчэлі з фп. (1948, 1968), скрыпкі з фп. (1963), балалайкі з фп. (1970), фагота

з фп. (1972), тубы з фп. (1977–1988), флейты з фп. (1978), кантрабаса з фп. (1980–1981, 1985), цымбал з фп. (1981), для альта з фп. (1984); творы для фп.: «Весенняя песня», «Этюд-картинка», «Вальс-каприс», «Фантастический танец» (1964–1965), два экспромта (1971–1982), прэлюдыі (1991–1999); маналогі для баса з сімф. аркестрам — партытура, клавір (1969); вакальная творы — кантаты для салістаў, хору і сімф. аркестра «Паэма «Сказ о Медведихе» — партытура (1937), «Ленинградцы» — партытура, клавір (1941–1948), «Беларускія партызаны» — клавір (1942–1943), «Беларусь» — партытура (1948) і інш. на сл. П. У. Броўкі, Н. С. Гілевіча, Дж. Джабаева, Я. Коласа, Я. Купалы, А. С. Пушкіна; араторыі для салістаў хору і сімф. аркестра — «Бітва за Беларусь» — партытура, клавір (1984–1986) на сл. Г. М. Бураўкіна, Н. С. Гілевіча, А. А. Куляшова; творы для хору, песні і рамансы на сл. Э. Агняцвет, А. П. Астрэйкі, А. Л. Барто, А. А. Блока, П. У. Броўкі, А. П. Бялевіча, Н. Варцапава, Н. С. Гілевіча, П. У. Глебкі, С. І. Грахоўскага, У. І. Карызны, Я. Коласа, М. Лужаніна, С. М. Новіка-Пяюна, А. А. Суркова, М. Танка, П. А. Труса, Т. Р. Шаўчэнкі і інш. (1933–2000), «Гімн беларускага народа» на сл. К. Крапівы, П. У. Броўкі (1944); апрацоўкі беларускіх народных песень і танцаў (1934–1974); апрацоўкі твораў А. Р. Аруцюняна, Н. Ф. Сакалоўскага, Ф. Шапэна ([1950-я]–1963). Усяго 229 рук.

Опуснік А. В. Багатырова за [1940]–2000 гг. — блакнот.

Рукапісы А. В. Багатырова. Артыкулы: «Что такое введение в специальность?», пра гісторыю Белдзяржкансерваторыі, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Р. Шырмы [1960-я–1992], нататкі, водгук на дысертацыю А. Н. Дзмітрыева «Полифония как фактор формообразования» (1967), рэцэнзіі на навукова-метадычную працу С. І. Бялькевіча (1971–1981), кнігу Т. А. Дубковай «Белорусская симфония» (1974), зб-кі п’ес, песень і інш. ([1960-я]–1983); даклады і выступленні пра становішча ў сучаснай савецкай музыцы (1948), пра выхаванне і падрыхт. кампазітарскіх кадраў, масавую музычную культуру, Дз. Дз. Шастаковіча, Я. К. Цікоцкага, Р. Р. Шырму (1959–1986) і інш., успаміны пра І. І. Жыновіча, Я. Коласа, Б. М. Ляташынскага, Г. Г. Нэйгаўза, П. П. Падкавырава, І. П. Яўнзем

і інш. (1948–[1985]); дзённікавыя запісы падчас замежных паездак (1961–1982) і інш. Усяго 67 рук.

Пісьмы А. В. Багатырова: Л. В. Багатыровай 3 (1974–1987), В. Р. Гліэр 4 ([1980]–1993), П. Н. Кавалёву (1942), Э. Шцёклю 2 (1977). Усяго 4 адр.

Пісьмы А В. Багатырову: з Беларусі — Л. А. Айзенберг 2 (1942), М. І. Аладава 2 (1942), Л. П. Александроўскай (1951), Л. М. і І. У. Алоўнікавых (2002), П. П. Альхімовіча (1990), М. А. і Б. М. Бергераў (1968), В. В. Войціка (1970), Я. К. Вайтовіча (1991), [В.] Дворавай (1986), І. А. Гітгарца (1965), К. В. Замешынай 2 ([1965], 1967), Л. К. Захлеўнага 2 (1970, 1973), П. Н. Кавалёва (1990), М. А. Казінца (1984), І. І. Келера (1943), М. Крука 2 (1941), М. К. Літвіна (1998), Дз. А. Лукаса (1943), І. М. Лучанка 2 (1985, 1990), Л. С. Мухарынскай (1974), Л. Мурашкі (1992), С. Г. Нісневіч [1970], С. У. Палонскага 3 (1942–1944), І. С. Папова (1975), Р. К. Пукста (1947), В. У. Роўды 2 (1969, 1992), У. Ф. Савіцкага 6 (1991–2000), Н. Ф. Сакалоўскага (1942), Ю. У. Семянякі (1970), Дз. Б. Смольскага 2 (1978, 1991), М. Стомы (1993), Р. Ф. Суруса 2 (1973, 1776), У. У. Уладзімірскага 3 (1967–1970), І. А. Цвятаевай 2 (1967, 1977), У. М. Шахрая (1942), Р. Р. Шырмы 18 (1944–1970), В. А. Яфімава 8 (1941–1945) і інш.; Расіі — Я. А. Акулава 37 (1938–1994), Л. Ф. Аляксеевай 3 (1941–1942, 1977), У. Баташова [1964], В. А. Белага 6 (1953–1982), Дз. Дз. Благога 2 (1977, 1978), Л. М. Буціра [1975], А. К. Буцкога (1953), І. Ф. Бэлзы 2 (1970, 1976), А. М. Вепрыка (1942), М. С. Галаванава 2 (1944, 1955), У. Гітліца (1990), В. Р. Гліер 33 (1982–1993), Р. М. Гліэра 3 (1950–1955), А. Б. Гольдэнвейзера (1957), А. А. Грошавай 5 (1976–1984), А. Н. Дзмітрыева і Т. П. Дзмітрыевай 25 (1959–1981), В. А. Залатарова 46 (1941–1960), А. А. Іконнікава 3 (1973–1992), А. М. Кавалёва 4 (1948–1991), Ю. А. Крамлёва 7 (1954–1969), І. У. Ліхачовай 6 (1982–1986), Л. М. Лебядзінскага 4 ([1972]–1980), Р. С. Ледзянеева (1989), Б. Я. Магаліфа 5 (1963–1993), Л. М. Маталаева 7 ([1960-я]–1984), А. С. Міхайлава 4 (1967–1970), С. П. і Г. М. Нікалаевых 9 (1967–1970,1988), І. Я. Палфёрава 20 (1952–1970), М. І. Пяйко 15 (1969–1995), У. В. Пратапопава 8 (1970–1997), С. А. Прохарава 8 (1966–1981), Л. У. Ракава 3 (1988), Л. А. Рудэнкі-

Крэйн 2 [кан. 1950-х], М. Дз. Сабініна 8 (1982–1992) В. І. Садоўнікава 4 (1956–1962), А. В. Свешнікава (1962), Г. В. Свірыдава 6 (1968–1991), С. М. Слонімскага 6 ([кан.1960-х]–1993), А. П. і Н. Б. Стагорскіх 22 (1952–1992), В. М. Трамбіцкага 3 (1966), У. У. Хаменкі 7 (1971–1992), А. І. Хачатурана (1963), С. М. Хентавай 9 (1972–1993), Ц. М. і К. Хрэнікавых 3 (1941, 1953), В. Я. Чорнага і А. С. Чорнай-Берлянд 15 (1961–[1983]), М. І. Чулакі [1981], Дз. Дз. Шастаковіча 5 (1960–1981) і інш.; Украіны — П. К. Бацюка 3 (1956–1969), М. В. Дрэмлюгі 6 (1964–1994), В. Дз. Кірэйкі 9 (1969–1993), Л. М. Каладуба (1984), А. І. Кос-Анатольскага 5 (1973–1976), Р. А. Лысенкі 12 ([1950–1986]), Б. М. і М. Ляташынскіх 11 (1952–1975), Г. І. Майбарады 5 (1963–1991), Н. Р. Рахліна 5 [1970-я], А. У. Ражскай 7 (1972–1975) і інш.; Айзербайджана — А. Б. Бадалбэйлі 4 (1964–1978); Грузіі — Р. Лагідзэ (1979), Г. Тарадзэ 3 (1986–1987), Л. Храпіцкай (1976); Вялікабрытаніі — Г. Пікарды 18 (1991–1996); ГДР — Э. Шцёкля 4 (1957–1958); Латвіі — [Р. С. Грынблата] (1964), Д. М. Кулькова 4 (1970); Літвы — К. В. Кавяцкага (1987), П. П. Тамалюнаса (1965), Ю. А. Юзэлюнаса 3 (1977–1986); Малдовы — П. А. Аксёнавай 8 (1970–1975), М. Л. Біешу 9 (1967–[1973]), В. Г. Загорскага (1985), Г. Д. Юшкевіча 3 (1947–1983) В. М. Янку 9 (1967–[1973]); Казахстана — М. Ф. Арлова (1954), Я. Р. Брусілоўскага (1969); Узбекістана — Б. І. Зэйдмана (1981); Эстоніі — Х. Куло (1986) і інш. Усяго 145 кар. Пісьмы сваякоў (1942–1994), знаёмых, прыхільнікаў таленту (1943–1992).

Пісьмы А. В. Багатырову ад ўстаноў: Вакальна-творчага кабінета імя А. В. Няжданавай 5 (1940, 1952), кіраўнікоў оперных тэатраў А. А. Гантмана (Куйбышаў) 2, Маргаліка (Свярдлоўск) 2, М. В. Сулоева (Горкі) 2 аб пастаноўцы оперы «Надежда Дурова» (1946), СП БССР, Дзярж. акадэмічнага рускага хору СССР, выд-ва «Советский композитор» 3 ([1980]–1987).

Дароўныя надпісы А. В. Багатырову Р. А. Анчыкава, Г. М. Вагнера, К. М. Галкоўскага і інш. (1948–1989).

Дакументы да біяграфіі А. В. Багатырова. Пасведчанне аб шлюбе з Н. С. Навіцкай (1938), ордэнскія кніжкі 7 (1940–1998), пасведчанні засл. і народнага артыста БССР (1940, 1968), даведка меды-

цынскай ваеннай камісіі (1941), пасведчанні: аргкамітэта ССК СССР (1942), Свярдлоўскай кансерваторыі (1942), засл. дзеяча мастацтва БССР (1945), да медаля, нагруднага знака «175 лет Большого театра СССР», юбілейнага знака «30 лет Советской гвардии» («Первогвардеец») (1946–1981); дыплом (дублікат) і даведка аб заканчэнні Белдзяржкансерваторыі (1948, 1960), характарыстыка ГУУЗ Камітэта па справах мастацтваў пры СМ СССР на А. В. Багатырова і выпіскі з пратаколаў аб прысваенні звання дацэнта і прафесара (1948–1960), мандаты і запрашэнні на з'езды СК СССР (1948–1991), атэстаты дацэнта і прафесара (1949, 1960), членскія білеты СК СССР (1960, 1964), аўтабіяграфія [1996], дыплом Міжнароднай Славянскай акадэміі аб абранні акадэмікам (1996); запрашальныя білеты на канцэрты, творчыя вечары, пасяджэнні і інш. (1945–1998); дэпутацкія білеты і мандат (1938–1955); пасведчанне аб смерці А. В. Багатырова (2003). План навукова-даследчай працы Свярдлоўскай кансерваторыі (1941), праграмы Усесаюзных аглядаў-конкурсаў творчасці студэнтаў-кампазітараў з удзелам вучняў А. В. Багатырова (1956–1980); дак-ты аб працы А. В. Багатырова ў Белдзяржкансерваторыі (1948–[1989]), СК СССР (1943–1988), Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, экспертнай камісіі ВАК (1960–1973); справаздачы па кафедры кампазіцыі Белдзяржкансерваторыі (1977–1992), характарыстыкі А. В. Багатырова: на выпускнікоў Белдзяржкансерваторыі (1970–1982), кандыдатаў на ўступленне ў члены СК БССР, СК СССР, Музфонд СССР (1979–1991), для надання звання дацэнта, прафесара — Я. А. Глебаву, М. А. Казінцу, А. Ю. Мдзівані (1982–[1990-я]); праграмы музычных гурткоў, вучылішчаў (1974), Дзён літаратуры і мастацтва БССР, Літоўскай ССР (1975), Аб'яднанага пленума праўлення СК ЛітССР і СК БССР (1977), канцэртаў VII з'езда (1985–1986) з удзелам і выкананнем твораў А. В. Багатырова; афішы і праграмы канцэртаў з удзелам студэнтаў А. В. Багатырова, выкананнем яго твораў (1942–2001).

Пастанова СНК СССР аб прысуджэнні Сталінскай прэміі, у т. л. А. В. Багатырову (1941) — часоп. «Искусство и жизнь»; дыпломы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР за оперу «В пущах Полесья»

(1962, прысвоена ў 1941), Дзяржаўнай прэміі БССР за кантату «Белорусские песни» (1970); ганаровыя граматы (1958–1998); віншавальныя адрасы, тэлеграмы і паштоўкі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Беларускай Акадэміі музыкі, Белдзяржфілармоніі, Віцебскага гарвыканкама, выд-ва «Советский композитор», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Украінскага аддзялення музфонду СССР, НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь, СК СССР, СК Беларусі і інш. (1963–2003). Віншавальныя тэлеграмы і паштоўкі Л. А. Айзенберга, У. У. Алоўнікава, В. А. Белага, Л. Р. Бергер, М. Л. Біешу, Г. М. Бураўкіна, Д. Р. Гершфельда, Н. С. Гілевіча, І. А. Гітгарца, В. С. Галаванавай, І. І. Жыновіча, С. А. Картэса, І. М. Лучанка, Д. К. Міцкевіча, А. Ю. Мдзівані, Л. С. Мухарынскай, П. П. Падкавырава, В. У. Роўды, М. Я. Фінберга, Ц. М. Хрэннікава, Р. Р. Шырмы, Дз. Дз. Шастаковіча і інш. у сувязі з юбілеямі (1949–2003), артыкулы (1963–1998) і афішы юбілейных канцэртаў і вечароў (1983–1998).

С. І. Бялькевіч «Вокальный цикл А. Богатырёва на стихи М. Богдановича» — маш. у пераплёце (1980), Б. М. Бергер «Изучение фортепианных произведений А. В. Богатырёва в ДМШ и музыкальных училищах» (1987) — маш., друк.; артыкулы, нататкі пра А. В. Багатырова і з упам. пра яго (1938, 1951–1973), артыкулы і рэцэнзіі на оперу «У пушчах Палесся» (1939, 1947–1980); артыкулы, нататкі, інфармацыя, рэцэнзіі на оперу «Надежда Дурова», прыкладзены водгук А. Я. Туранкова (1947–1957) і інш., спіс публікацый А. В. Багатырова (1999). Тэлеграма са спачуваннямі родным А. В. Багатырова (2003), праграмы канцэртаў і навуковай канферэнцыі памяці А. В. Багатырова (2003, 2004), пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Об увековечении памяти народного артиста Беларуси Богатырёва А. В.» (2004) і інш.

Рукапісы-ноты: М. І. Аладаў «Ты не будзеш сіратой» — песня для голасу з фп. (1944), А. В. Аляксандраў «Гімн Савецкага Саюза» на сл. С. В. Міхалкова і Г. А. Эль-Рэгістана [1944], П. К. Бацюк «Тихо над річкою» — песня для дуэта ці хору з фп. (1961), Г. М. Вагнер «Песня дружбы» — песня для хору з фп. (1951), Г. Галавасцікаў «Ёсць Мікіта-хлопец» — песня для голасу [1940-я–1950-я], В. А. Залатароў

«Музыкальные картинки», «Люд наш беларускі», «Сокол и вороны», «На вуліцы скрыпкі, дудкі» [1950-я] — песні для хору, голасу з фп., А. А. Каламіец «Вечірня Пісня» (1966) — песня для голасу з фп., В. Дз. Кірэйка «Веснян і води», «Чим пісня жива» (1956, 1958) — песні для змеш. хору а-капэла, сярэдняга голасу з фп., Э. Р. Пілеман-Зубковіч «Vier Lieder nach Worten von Anna Achmatowa» (Чатыры песні на сл. Г. А. Ахматавай) — песні для голасу з фп., Р. К. Пукст «Лугам зялёным», «Не судзіла доля», «Шоўкавыя травы» — песні для голасу з фп. [1944], Л. М. Рагоўскі «А хто там ідзе?» — песня для голасу з фп. — газета «Наша Ніва» № 15 за 1910 год, Н. Ф. Сакалоўскі «Мы, беларусы», «Шуміць наша слава» — песні для хору а-капэла (1944), А. Я. Туранкоў «Калыханка» — песня для голасу з фп. — рук. перапісчыка [1940-я], Я. К. Цікоцкі арыя «Песня Алесі» з оперы «Алеся» (1944), — аўтогр., рук., друк.; брашуры з духоўнымі песнямі М. М. Куліковіча (Шчаглова) — ксеракоп. (1938–1939); Г. Пікарда «Мікола Куліковіч-Шчаглоў» — брашура з дароўным надпісам А. В. Багатырову (1989), «Жыровіцкі ірмалой», «Супрасльскі ірмалой» (1990) — друк. Беларускія народныя песні ў запісах А. А. Багатырова, Э. Ледаховіча, Г. І. Цітовіча, Р. Р. Шырмы і інш. (1927–1967). Тэксты вершаў П. У. Броўкі, К. А. Буйло, Н. С. Гілевіча, У. М. Дубоўкі, А. А. Куляшова, П. Е. Панчанкі і інш. да твораў А. В. Багатырова [1941–1985]; Г. І. Цітовіч «Па Тарасавых слядах» — успаміны аб выступленні хору беларускай народнай песні вёскі Вялікае Падлессе на конкурсе-аглядзе ў Маскве — газ. «ЛіМ» № 21 за 22.10.1945; дак-ты да біяграфіі І. П. Яўнзем (1953, 1963, 1981) і інш.

Фота бюста А. В. Багатырова работы З. І. Азгура з дароўным надпісам скульптара (1966), фота А. В. Багатырова і яго сваякоў, індывідуальныя і ў групах, 53 ([1910-я]–2001); у групах з В. А. Залатаровым, Дз. Б. Кабалеўскім, Дз. Р. Камінскім, Ц. Я. Кісялёвым, А. Б. Ладыгінай, П. М. Машэравым, П. П. Падкавыравым, Р. К. Пукстам, Дз. Дз. Шастаковічам, Р. Р. Шырмам і інш. на з'ездах і творчых сустрэчах СК БССР (1947–[1950-я]) і СК СССР 8 (1948–1979); З. І. Азгурам, А. А. Бембелем, П. У. Броўкам, Г. М. Бураўкіным і інш. на мерапрыемствах да 1000-годдзя г. Віцебска 6 (1972); Э. А. Язерскай, Т. В. Міянсаравай,

Ю. У. Семянякам, Н. А. Ткачэнкай і інш. на вечары ў Белдзяржфілармоніі 5 (1975); А. А. Алоўнікавым, М. Я. Аўрамчыкам, У. С. Караткевічам, А. А. Куляшовым, І. Я. Навуменкам, Л. Дз. Шчамялёвым і інш. на розных мерапрыемствах (1960-я–2001); з членамі дэлегацыі ў час паездкі ў Венгрыю 4 (1979); ў час пасяджэння журы Усесаюзнага конкурсу маладых кампазітараў 2 (1980); фестывалю маладых музыкантаў Беларусі «Сымон-музыка» 4 (1991) і інш.; з выкладчыкамі і выпускнікамі Белдзяржкансерваторыі 15 (1950–[пач. 1980-х]).

Фота сцэн з опер А. В. Багатырова «В пущах Полесья» 2 [1939–1940], «Надежда Дурова» (у час запісу на студыі мінскага тэлебачання,1957), паст. у тэатры оперы і балета БССР.

Фота з дароўнымі надпісамі А. В. Багатырову: М. Л. Біешу 3 (1969), М. С. Галаванава і А. В. Няжданавай 2 (1951), І. А. Гітгарца (1949), Г. І. Майбарады (1967), С. П. і Г. М. Нікалаевых (1968), Н. А. Ткачэнкі, У. І. Уладамірскага і К. В. Замешынай 2 ([1960-я], 1961) і інш.

Дакументы Н. С. Навіцкай. Пераклады Н. С. Навіцкай на рус. м. беларус. народных песен [1939–1940-я]; пісьмо Н. С. Навіцкай да І. П. Яўнзем (1962); пісьмы да Н. С. Навіцкай: Л. Акулавай 4 (1941–1966), Н. Р. Гліэр (1950), А. М. і І. П. Дзмітрыевых 3 (1960, 1963), С. Ю. Друкер 2 (1941), А. В. Лысенкі, А. М. Новікавай 18 (1943, 1946, [1960-я]), М. Разоўскай (1943), Стагорскіх А. П. і Н. Б. 4 (1966–1968), І. П. Яўнзем 3 (1942, 1954, 1962); дароўныя надпісы Р. М. Гліэра (1944), М. С. Галаванава (1952); афішы канцэртаў студэнтаў Белдзяржкансерваторыі па класу Н. С. Навіцкай (1960-1962); фота Н. С. Навіцкай з выкладчыкамі і выпускнікамі Белмузтэхнікума (1933); пісьмо Н. Е. Багатыровай (маці А. В. Багатырова) да Л. М. Навіцкай (маці Н. С. Навіцкай) (1947).

* * *

Дароўныя надпісы А. В. Багатырову на кнігах: Э. Агняцвет (1972), Р. І. Барадуліна (1966), П. К. Бацюка (1963). Н. С. Гілевіча (1972), С. І. Грахоўскага (1978), В. Д. Даўжэнкі 2 (1954, 1957), М. В. Дрэмлюгі 3 (1954, 1963, 1985), Т. А. Дубковай (1972), В. А. Залатарова (1957), У. І. Карызны (1988), А. М. Кулакоўскага (1981), Ф. І. Куляшова (1988),

І. М. Лучанка 4 (1962, 1964, 1971, 1981), П. П. Падкавырава (1969), П. С. Пестрака (1951), А. Г. Русака (1960), У. М. Скарынкіна (1993), К. І. Сцепанцэвіч (1967), М. Танка (1948), Л. М. Турбіной (1981), С. М. Хентавай 2 (1971, 1972), В. Я. Чорнага 4 (1953, 1959, 1963, 1970), Р. Р. Шырмы 3 (1947, 1959, 1960), І. П. Яўнзем (1968). Усяго 91.

## БІРЫЛА С. С., ЛІЦКАЯ З. Я., СЯНЬКО А. І.

**Ф. 238. Воп. 2, 28 адз. зах., 75 дак., 1930-я–1975 гг.**[2]

***Бірыла Сцяпан Сцяпанавіч*** *(1903–1978) — акцёр, народны артыст БССР; першая жонка —* ***Ліцкая Зіновія Якаўлеўна*** *(1904–1970) — актрыса; другая жонка —* ***Сянько Алена Ігнатаўна*** *(1913–1984) — актрыса*

Фота С. С. Бірылы ў ролях, сцэнах са спектакляў тэатра імя Я. Купалы: [«Таленты і паклоннікі»] А. М. Астроўскага (1950), «Залп «Аўроры» М. Бальшынцова, М. Чыяўрэлі (1952), «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы (1964), «Зацюканы апостал» А. Я. Макаёнка (1971) з удзелам Г. П. Глебава, Л. Р. Рахленкі. Усяго 4 фота.

Дакументы да біяграфіі С. С. Бірылы (1940–1983).

Фота С. С. Бірылы, індывідуальныя, 8 [1930-я–1970-я], у групах з А. Ф. Андросікам, Т. Н. Аляксеевай, З. І. Браварскай, Г. П. Глебавым, І. Ф. Ждановіч, Р. М. Кашэльнікавай, С. А. Некіпелавай, П. А. Пекурам, Л. Р. Рахленкам, Э. П. Шапко, І. Б. Шацілам і інш. 29 (1948–1975).

Фота В. У. Галіны [1950-я], набор фотапаштовак з Л. П. Александроўскай, З. І. Браварскай, М. Дз. Ворвулевым, Г. П. Глебавым, А. Ф. Кіставым, Б. В. Платонавым, Л. І. Ржэцкай 7 (1955), фотабуклет сцэн і дзеючых асоб са спектакля тэатра імя Я. Купалы «Забыты ўсімі» Н. Хікмета: Т. Н. Аляксеевай, З. І. Браварскай, Г. С. Ваксман (Талкачовай), П. С. Малчанава, А. В. Рынковіч і інш. 16 (1958).

[2] Анатацыю на воп. 1. (1914–1978) гл. Вып. 1. С. 56–57.

## БІТЭЛЬ П. І.

**Ф. 497. Воп. 1, 187 адз. зах., 1423 дак., [1911]–2013 гг.**
***Бітэль Пётр Іванавіч** (1912–1991) — паэт, перакладчык*

Рукапісы П. І. Бітэля. Паэмы: «Трыццаць дзевяты» — аўтогр., маш. з аўт. і рэд. праўкай (1963), «Замкі і людзі» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1964–1965), «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага» [1983]; вершаваныя аповесці: «Баруны» — маш. з аўт. праўкай [кан. 1970-х], «Дзве вайны» — аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай, маш. з аўт. праўкай і ўстаўкамі (1983–1985); вершы (1955–[1980-я]), вершаваныя казкі [1970-я], нарыс «Вішнева і вішнеўцы» — выр. з газ. з аўт. праўкай (1975), артыкулы (1956, 1980), даклады [пач. 1970-х], апавяданні (1960, 1967), рэцэнзіі (1964–[1980]), аўтабіяграфіі (1946–1981), успаміны [1969], дзённікавыя запісы — блакнот (1945); пераклады: паэм А. Міцкевіча «Пан Тадэуш» — аўт. маш., маш. з аўт. праўкай ([кан. 1970-х]–1982), «Дзяды» — аўтогр., аўтарыз. маш., маш. (1982–1984), «Гражына» — маш. з праўкай перакладчыка [1983], цыкла «Крымскія санеты» — маш. з аўт. праўкай [1970-я], верша «Блыха і Рабін» [1960-я], паэмы Ю. Славацкага «Бацька зачумленых» (1962), паэм А. Т. Твардоўскага «За даллю — даль», «Цёркін на тым свеце» (1961, 1963), вершаў М. М. Асеева, Г. Гейнэ, В. М. Інбер, А. С. Пушкіна, Т. Р. Шаўчэнкі і інш. (1954–1985). Усяго каля 252 рук.

Малюнкі П. І. Бітэля. (1929–[1930-я]). Усяго 4 мал.

Пісьмы П. І. Бітэля: М. М. Арочку (1983), С. Нічыпаровіч (1987), А. С. Ставеру (1989), Я. Я. Янушкевічу (1989) і інш. Усяго 13 адр.

Пісьмы П. І. Бітэлю: М. М. Арочкі (1983), А. Ц. Бажко 4 (1964–1971), Я. Брыля (1987), А. А. Лойкі (1967), У. І. Мархеля (1989), М. М. Казлоўскага 3 (1982–1990), Г. А. Каханоўскага 9 (1986–1989), Э. Кунавіч 12 (1968–1986), А. С. Ліса (1984), Я. У. Паплаўскага (1988), А. М. Пяткевіча 3 (1987), В. П. Рагойшы 2 (1987, 1988), У. І. Содаля (1989), В. А. Трыгубовіч 9 (1977–1988), Дз. Ц. Чаркасавай (1988), Г. В. Шаблінскай 11 (1982–1991), В. А. Шніпа 17 (1982–1989), С. П. Шушкевіча 31 (1967–1988), К. Р. Шэрмана (1988), Я. Я. Янушкевіча

14 (1986–1990) і інш.; пісьмы сваякоў, знаёмых, сяброў, настаўнікаў і вучняў 296 (1965–1993). Усяго 82 кар.

Пісьмы П. І. Бітэлю ад устаноў: рэд. газет «Працоўная слава» (г. Валожын) 70 (1965–1990), «Мінская праўда» 2 (1965), «Святло камунізма» 2 (1964, 1965), СП БССР 4 (1986–1990), выд-ваў «Мастацкая літаратура» 2 (1986, 1989), Бел СЭ 2 (1983,1984), «Новости» (1988), Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР (1989) і інш.

Дароўныя надпісы П. І. Бітэлю А. А. Бембеля (Зніча), К. Побаль, Т. Сасноўскай на с. з вершамі (1987).

Дакументы да біяграфіі П. І. Бітэля (1924–1991). Дыпломы, пасведчанні аб вучобе і заканчэнні Барунскай настаўніцкай семінарыі (1929), Віленскай настаўніцкай семінарыі імя Т. Зана (1931), Пастырска-багаслоўскіх курсаў пры Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровіцах (1948), курсаў выкладчыкаў замежнай мовы пры Рэспубліканскім інстытуце павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы (1964), Мінскага педінстытута імя М. Горкага (1970), Дзяржаўных цэнтральных курсаў завочнага навучання «Ин-яз» у Маскве (1970), членскія білеты Літфонду СССР, таварыства «Веды» (БССР) і інш. (1965–1986), працоўная кніжка за 1965–1974 гг., пенсійнае пасведчанне (1974) і інш.

Ганаровыя граматы СП БССР П. І. Бітэлю і артыкул Н. Штэйнер да 75-годдзя з дня нараджэння (1987).

Артыкулы М. М. Казлоўскага, А. М. Карлюкевіча, У. І. Мархеля і інш. пра П. І. Бітэля і з упам. пра яго — выр. з газ. (1985–2013), рэцэнзіі Л. В. Дранько-Майсюка, Х. Дз. Жычкі, Л. П. Мірачыцкага на вершаваную аповесць П. І. Бітэля «Дзве вайны» — аўтарыз. маш. (1985–1991), артыкулы А. М. Карлюкевіча, Н. Штэйнер, Я. Я. Янушкевіча і інш. да юбілееў П. І. Бітэля — маш., выр. з газ., друкав. выд. (1997–2012).

Некралог П. І. Бітэля — выр. з газ. (1991).

Г. А. Каханоўскі «Некаторыя пытанні станаўлення гістарычнага краязнаўства і археалогіі Беларусі ў дарэформены перыяд XIX ст.» — артыкул — выр. з друкав. выд. — з дароўным надпісам аўтара П. І. Бітэлю (1977), «Рэкамендацыі па падрыхтоўцы і навучанні дзя-

цей у школах у першыя 4 гады навучання» — на пол. м. — друкав. выд. (1932).

Фота П. І. Бітэля, індывідуальныя, 14 [1944–1980-я], з бацькамі, роднымі 17 ([1915]–1982), сярод выкладчыкаў і слухачоў пед. курсаў у Валожыне 2 (1940), з М. М. Казлоўскім, Л. П. Мірачыцкім, Я. Я. Янушкевічам і інш. 8 (1964–1989).

Фота будынкаў, дзе жыла сям'я П. І. Бітэля, 4 (1973–[1970-я]).

Фота Г. В. Запартыкі, М. М. Казлоўскага, М. П. Кенькі, А. П. Кукель (дачкі П. І. Бітэля), Т. І. Бярэзінай (унучкі) і інш. пад час святкавання 100-годдзя з дня нараджэння П. І. Бітэля ў в. Вішнева Валожынскага р-на 3 (2012).

Дакументы Н. П. Бітэль (жонкі) (1932–1994).

* * *

Дароўны надпіс В. Віткі П. І. Бітэлю на кнізе «Казкі і краскі: Вершы» (Мн., 1983) (1984).

## БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Д. І.

**Ф. 369. Воп. 1, 141 адз. зах., 1279 дак., 1956–2010 гг.**

***Бічэль-Загнетава Данута Іванаўна*** *(нар. 1938) — паэтэса*

Рукапісы Д. І. Бічэль-Загнетавай. Падборкі вершаў да зб-каў: «Дзе ходзяць басанож» [1982], «Загасцінец» [1984], [«Габрынька і Габрусь»] [1984], «Вершы» (1992), «Нядзелька» (1997); падборкі і цыклы вершаў: «Дзяды» (1997), «Аўтографы» (1999–2000), «Ойча наш…» (2007) і інш.; паэма «Крыжовы шлях» [2009]; калядная дзіцячая п'еса «Нараджэнне Езуса Хрыстуса» [2000-я]; вершы (1960–2010), блакноты з накідамі вершаў 12 (1974–1983); эсэ: «Над Нёманам» (да 160-годдзя з дня нараджэння Э. Ажэшкі) (2001), «Мая духоўная маці Ларыса Геніюш», «Я ад зямелькі крыллем адарвуся», «Выпілі келіх да дна» (пра Л. А. Геніюш) (2003–2005), «Застаецца слова» (пра Я. Брыля) [2005], пра Ч. Мілаша (2005), С. Грыневіча, П. В. Янушкевіча, М. Скляра (2007), «Аляксей Карпюк — лідар літа-

ратурнай Гродзеншчыны» (2007) і інш., «Светлы смутак натхнення. Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк» (2008), «Яблынька — зборнік вершаў» (пра паэтаў Гродзеншчыны) [2008] і інш.; артыкулы, прадмовы: «Арыгінальны талент» (да 2-томніка «Выбраныя творы» А. Н. Карпюка) (1980), «Песні настоены на зёлках» (да кнігі Л. А. Геніюш «На чабары настоена») (1982), «Я ушёл бы вслед за летом» (пра А. Іверса) (1982), «Духовный наследник Кушлян» (пра музей Фр. Багушэвіча і М. С. Ляпеху) (1983), «Газета Рэанімава» [2007], «…У паветры сутыкнуліся дзве хмары стрэлаў. Выстава ў Гародні да 600-годдзя бітвы пад Грунвальдам (15 ліпеня 1410)» (2010), «Музей Максіма Багдановіча ў Гародні — самая прыгожая і трагічная старонка майго жыцця» [2000-я]; рэцэнзіі на зб-кі вершаў І. М. Адамовіча, У. Васько, І. Ф. Жарнасек (1977–2009); выступленні [1981, 1990-я], некралог А. Іверса (1999); успаміны: пра стварэнне музея Максіма Багдановіча (1996–[2000-я]), сустрэчы з З. Верас [1991], Гродзенскае аддзяленне СП Беларусі [2004–2007], пра І. П. Крэнь (2005), У. С. Караткевіча (2005), кс. У. Чарняўскага [2007], Я. Брыля [2000-я] і інш.; «Прыватны дзённік Дануты Бічэль» за 20–26.08.2005, 19–23.06.2006; пераклады вершаў Р. Ф. Казаковай, А. І. Сазановіч з рус. м., М. Канановіча, М. Канапніцкай з пол. м., А. П. Сенатовіч з укр. м. [1980-я].

Пераклады вершаў Д. І. Бічэль-Загнетавай, зробленыя Р. С. Барозкіным, С. А. Кузняцовай, Ф. А. Яфімавым на рус. м., Я. Гушчам, М. Канановічам, Т. Хрусцялеўскім, К. Яворскім на пол. м. — маш. ([1970-я]–1981).

Л. А. Геніюш «На чабары настоена» — падборка да мяркуемага зб-ка вершаў, падрыхт. Д. І. Бічэль-Загнетавай — маш. з праўкай Д. І. Бічэль-Загнетавай [1979].

Пісьмы Д. І. Бічэль-Загнетавай: Л. В. Дранько-Майсюку [1984], А. Н. Карпюку 3 [1980-я], І. П. Крэнь 2 (1998), Х. А. Лялько [1983], І. Д. Міско (А. Іверсу) (1999), А. П. Сенатовіч (1983) і інш. Усяго 10 адр.

Пісьмы да Д. І. Бічэль-Загнетавай: Зм. Абразцова (прыкл. «Канцэпцыя Беларускай нацыянальнай ідэі») (2005), В. І. Аксак (2009), А. С. Анішчыка (1994), А. І. Бутэвіча [1995], А. Іверса 2 ([1998], 1999), І. М. Пракаповіча (1998), Х. А. Лялько (1983) і інш. Усяго 11 кар.

гр. 5 (1980–1982, 2006), «Не праспі сваю долю» — сшыткі з аўтогр. 11, аўтогр., маш. (1984–1989, 1995); аповесці: «Студэнты апошняга курса» — сшытак з аўтогр. (1952, 1964), «Між двух агнёў» — сшыткі з аўтогр. 2 (1959–1968), «Порахам пахла зямля» — аўтарыз. маш. (1969–1972), «Німфа» [1976], «Першым заўсёды цяжка» (дакум. аповесць у сааўт. з У. П. Сазановічам) (1982–[1986]), «Мітынговая аповесць» — сшытак з аўтогр. (1990), «Лішняе дзіця, або Амплітуда жаданняў» — сшыткі з аўтогр. 3 (1992–1993), «Адна — долі жадна» — сшыткі з аўтогр. 2 (1992), «Месяц у раі, або Аддай сэрца людзям» [2005–2006], «Доля-пустацвет» — сшытак з аўтогр. (2003), «Фінская лазня» — сшытак з аўтогр. (2005); апавяданні ([1959–1980-я], 2000); аўтабіяграфічны нарыс «Кавалак нялёгкай дарогі» — аўтогр., маш. [1960-я]; дзённікавыя запісы і нататкі (1983–2001). Усяго 34 рук.

Пісьмы У. М. Дамашэвічу: Пракуратуры СССР (1953), У. П. Сазановіча 4 (1982–1983).

Дакументы рэдактарскай дзейнасці У. М. Дамашэвіча: падборка аповесцей П. І. Пруднікава «За калючым дротам» — маш. з рэд. праўкай У. М. Дамашэвіча (1992).

Л. В. Мялешка. Акраверш, прысвеч. У. М. Дамашэвічу (1996).

Аповесць І. В. Фурсевіча «У пагоні за прывідам» — маш. [1999–2001]; падборка апавяданняў І. В. Фурсевіча «Калымскі перавал» — маш. з рэд. праўкай (1999).

## ДОРСКІ І. Л., БЯЛІНСКАЯ М. С.

**Ф. 286. Воп. 1, 30 адз. зах., 57 дак., 1922–[1980-я] гг.**

***Дорскі Іосіф Львовіч*** *(1911–1964) — драматург; яго жонка —* ***Бялінская Марыя Сяргееўна*** *(1906–1990) — актрыса, народная артыстка БССР*

Дакументы І. Л. Дорскага. П’еса «Права на счастье» (1955); кароткі нарыс «Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Я. Коласа» (1946); праграма спектакля Вялікалукскага драм. тэатра «Право на счастье» І. Л. Дорскага (1958); фота І. Л. Дорскага, індывідуаль-

ныя, 2 [1950-я–1960-я], з М. С. Бялінскай (жонкай), Я. К. Глябоўскай, А. К. Ільінскім, К. Крапівой, У. Е. Лабанком, А. І. Лагоўскай, Н. Б. Лойтэрам, А. І. Мікаянам, А. М. Пахмутавай, В. П. Палескім, Г. А. Стрыжэнавым, М. С. Хрушчовым, Ю. Б. Шчарбаковым і інш. 11 ([1935], 1955–[1964]); фота сцэны са спектакля тэатра імя Я. Коласа «Цэнтральны ход» І. Л. Дорскага з удзелам З. С. Вялікага, С. Казлова, І. А. Матусевіча, А. П. Радзялоўскай (1948) і інш.

Дакументы М. С. Бялінскай. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў, сыграных у тэатры імя Я. Коласа: «Чалавек вырашае» Дз. Кудзіна, «Гібель эскадры» А. Я. Карнейчука, «Разлом» Б. А. Лаўранёва, «Рускае пытанне» К. М. Сіманава, «Свежы вецер» В. М. Сабко, «Сям'я» І. С. Папова, «Дачка пракурора» Ю. І. Яноўскага, «Капітан Коршун» В. М. Сабко, «Адна» С. Алёшына, «Тайфун» Цао Юй, «Якарная плошча» і «Ленінградскі праспект» І. У. Штока, «Жыве на свеце жанчына» З. Аграненкі, «Тэўе-малочнік» Шолама-Алейхема, «Вендэта» М. Г. Віннікава з удзелам І. Г. Ганусевіча, Я. К. Глябоўскай, А. К. Ільінскага, Б. М. Левіна, Л. І. Лічыніцэр, Л. І. Мазалеўскай, П. С. Малчанава, А. П. Радзялоўскай, Е. М. Разанавай, Ц. М. Сяргейчыка, А. М. Труса, М. Л. Федароўскага, Ф. І. Шмакава, А. Р. Шэлега, М. Г. Шалутко 23 (1934–1964); сыграных у тэатры імя Я. Купалы: «Без віны вінаватыя» А. М. Астроўскага, «Гульня з кошкай» І. Эркеня з удзелам Т. Н. Аляксеевай, З. І. Браварскай 2 (1971, 1976); фота М. С. Бялінскай, індывідуальныя, 3 (1922, 1966, 1970-я), разам з З. І. Канапелькай, А. І. Лагоўскай, Б. М. Левіным, А. Парнасісам, І. П. Шамякіным і інш. 2 (1960, 1961).

## ДРЭЙЗІН Ю. М.

**Ф. 401. Воп. 2, 50 адз. зах., 270 дак., 1892–1995, 2006 гг.**[10]

***Дрэйзін Юльян Мікалаевіч*** *(1879–1942) — музыказнавец, публіцыст, перакладчык*

Пісьмы Ю. М. Дрэйзіна: А. І. Дрэйзінай (жонцы) 3 (1939), С. Ю. Дрэйзіну (сыну) 15 (1941–1942).

[10]Анатацыю на воп. 1 (1879–1942) гл. Вып. 2. С. 58–59.

Пісьмо Ю. М. Дрэйзіну Ю. Калашнікава (1941).

Фота Ю. М. Дрэйзіна, індывідуальнае [1930-я], у групе са сваякамі (1927), з выпускнікамі і выкладчыкамі Магілёўскай дзяржаўнай музычнай школы (1923) — коп.

Дакументы А. І. Дрэйзінай (жонкі Ю. М. Дрэйзіна). Перапіска са сваякамі 42 (1942–1950), пісьмы ўстаноў 2 (1942), заява у праўленне Нямчынаўскага спажывецкага таварыства на выдачу грошай (1942).

Дакументы В. Ю. Дрэйзінай (дачкі Ю. М. Дрэйзіна). Пісьмы сваякоў і знаёмых 11 (1940–1995); фота, індывідуальнае (1955), у групах з выкладчыкамі і выпускнікамі Мінскай музычнай школы імя Л. П. Александроўскай і інш. (1955); фота Рональда Стахелі, кампазітара (ЗША) [1990-я].

Дакументы С. Ю. Дрэйзіна (сына Ю. М. Дрэйзіна). Пісьмы сваякам 160 (1941–1943), павестка аб мабілізацыі [1941], архіўная даведка на адрас БДАМЛМ аб выніках росшуку месца гібелі С. Ю. Дрэйзіна (2006).

Дакументы М. М. Дрэйзіна (брата Ю. М. Дрэйзіна). Запісная кніжка [1930-я–1950-я], граматы (1892, 1957, 1962).

## ДУБРОЎСКІ М. Г.

**Ф. 357. Воп. 1, 86 адз. зах., 597 дак., 1909–1982 гг.**

***Дуброўскі Міхаіл Георгіевіч*** *(1897–1983) — паэт, драматург, перакладчык, педагог*

Рукапісы М. Г. Дуброўскага. Вершы (1918–1982); верш. апавяданні: «Ліст да майго сябра Міхася Васілька», «Ліст да майго начальніка Аляксея Карпюка», «Пра героя Цішку і сабаку Лыску» — аўтарыз. маш., маш. з нязн. праўкамі, маш. (1955–1973); байкі: «Крот, Грак і Ласка», «Лёс Чубаткі», «Ластаўкі і Вароны», «Удаў і Бегамот» — маш., маш. з аўт. праўкай, выр. з газ. (1960–1980); п’еса «За правое дело» — маш. (1942), лібрэта «Уласнай рукой» (з П. П. Шастаковым) да оперы М. М. Чуркіна «Вызваленне працы» — маш. (1955, 1971); дысертацыя «Белорусская советская сатира 1917–1925» — маш. з праўкай (1959); пераклады твораў І. Бехера, Г. Лангфэла,

А. Міцкевіча, А. Ч. Суінберна, О. Уайльда, У. Шэкспіра і інш. ([1960-я]–1982). Усяго 286 рук.

Пісьмы М. Г. Дуброўскага: В. У. Быкаву (1982), да сваякоў 2 (1974, 1980); ва ўстановы: у Дзяржвыд. БССР (1947), у рэд. газ. «Чырвоны сцяг» (1959), «Літаратура і мастацтва» (1972), «Сельская новь» (1982), часоп. «Полымя» (1975) і інш. Усяго 14 адр.

Пісьмы М. Г. Дуброўскаму: П. Л. Абрамава 10 (1969–1977), В. У. Быкава (1974), Ф. Д. Іванова 5 (1968–1970), А. В. Мальдзіса (1982), [В.] Машкоўскага (1973), Я. Ц. Кабачэнкі 18 (1969–1977), В. В. Карпечанкі 4 (1982–1983), Ф. І. Самойлы 4 (1973–1980), М. І. Семянкова 4 (1968–1971); ад сваякоў 4 (1969–1980) і інш. Усяго 23 кар.

Пісьмы М. Г. Дуброўскаму ад устаноў: прэзідэнта АН БССР І. З. Сурты (1937), праўлення СП БССР 7 (1947–1976), Гродзенскага аддзялення СП БССР 3 (1968–1983); выд-ваў Дзяржвыд. БССР 3 (1949–1953), «Мастацкая літаратура» [1980-я], «Навука і тэхніка» (1982); рэд. газ. «Гродненская правда» 11 (1962–1976), «Гомельская праўда» (1970), «Звязда» 2 (1966, 1968), «Літаратура і мастацтва» 4 (1072–1983), «Сельская новь» 19 (1971–1982), «Сцяг камунізма» (1968), рэд. часоп. «Дружба народов» 2 (1978, 1979), «Нёман» 3 (1973–1975), «Полымя» (1975); Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР (1954), тэатра Я. Коласа 3 (1954–1973), Гродзенскага гарвыканкама 8 (1965–1978) і інш.

Дакументы да біяграфіі М. Г. Дуброўскага (1909–1982).

Фота М. Г. Дуброўскага, індывідуальнае [1970-я] і ў групе з неўст. асобамі [1940-я].

## ДУДЗІЦКІ У.

**Ф. 507. Воп. 1, 40 адз. зах., 190 дак., 1933–1994 гг.**

***Дудзіцкі Уладзімір (Гуцька Уладзімір Ермалаевіч)*** *(1911 – пасля 1976) — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык*

Рукапісы У. Дудзіцкага. Падборка «Выбраных вершаў» да публікацыі ў газ. «Бацькаўшчына» — маш. з нязн. аўт. праўкай (1955),

вершы (1933–1962); урыўкі з аповесці «Голас крыві» — выр. з часоп. (1946); артыкулы: «Беларускае Культурнае Згуртаванне» — маш. коп. (1944), «Гістарычная дата» — маш. коп. (1944), «На тле зруйнаваных святынь» — маш. коп. (1944), «Педагагічныя ідэі Яна Амоса Каменскага» — маш. (1962). Усяго 154 рук.

Вершы У. Дудзіцкага ў перакладзе Г. Рыдмюлера на ням. м., Ю. Лабадоўскага на пол. м., Б. Аляксандрава на ўкр. м. (1943–1954).

Падборка твораў У. Дудзіцкага да мяркуемага зб. «Напярэймы жаданьням» (укладальнік і рэдактар Л. Юрэвіч, бібліяграфія і каментары А. Юрэвіч, Нью-Йорк, 1994): вершы (1929–1962), паэмы: «Клятва духу» — маш., ксеракоп. выр. з друкав. выд. (1944), «Звер двуногі» — маш. з аўт. праўкай, ксеракоп. аўтогр., выр. з друкав. выд. з рэд. праўкай (1944–1955), «Маіх уяў ружовых ранак» — маш. з аўт. праўкай, ксеракоп. маш. з аўт. і рэд. праўкай, выр. з друкав. выд. (1946), «Сцені» — ксеракоп. аўтогр., маш. з аўт. і рэд. праўкай (1947); пераклады твораў Т. Р. Шаўчэнкі (1947), «Успаміны» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, ксеракоп. аўтогр., маш., выр. з часоп.; апавяданне «Сэрца Паўла Бурэ» — маш. (1957), абразок «Куды вочы глядзяць…» — маш. (1958).

Заўвагі У. Дудзіцкага да сваіх вершаў, надрукав. у газ. «Бацькаўшчына» за 1953–1955 гг.; альманах твораў беларус. эміграцыйных паэтаў «Ля чужых берагоў» (змест вершаў У. Дудзіцкага) — ксеракоп. (1955).

Пісьмы У. Дудзіцкага: Я. Запрудніку 6 (1957–1961), М. Кавылю 4 (1961–1966) і інш.

Успаміны А. Крэйн пра У. Дудзіцкага (бацьку) на англ. м. — маш. (1994).

Пісьмо В. фон Доп да В. Я. Кіпеля пра выданне збору твораў У. Дудзіцкага (1994).

Фота У. Дудзіцкага, індывідуальныя, 2 (1949) — з дароўным надпісам Ю. Віцьбічу.

## ДУДО П. Дз.

**Ф. 297. Воп. 1, 20 адз. зах., 75 дак., 1940–1957 гг.**
***Дудо Пётр Дзмітрыевіч** (1911–1958) — журналіст, празаік*

Рукапісы П. Дз. Дудо. Нарысы і артыкулы: «Люби и защищай свою Родину», «Танкист Баюков», «Убей зверя», «Успешно идут на запад наши танки» (1943), «Бессмертный подвиг девяти разведчиков», «Братья Ухины», «Герой Советского Союза Василий Ершов», «Офицер Сергей Ваев», «Через Сиваш» (1944), «Большевики-танкисты», «Командир автоматчиков», «Мститель», «Партсобрание после боя» (1945) — у чырвонаармейскай газ. «Вперёд» Чырвонасцяжнага Перакопскага танкавага корпуса. Усяго 15 газ.

Чырвонаармейская газ. «Вперёд» — 24 нумары за 1943–1945 гг. з паметамі П. Дз. Дудо.

Пісьмо П. Дз. Дудо да Н. М. Дудо (жонкі) 2 (1948, 1949).

Пісьмо П. Дз. Дудо ад Дзяржвыдавецтва БССР (1954).

Дакументы да біяграфіі П. Дз. Дудо (1940–1957). Дыплом Беларускага дзярж. інстытута журналістыкі імя С. М. Кірава (1940), ордэнская кніжка (1943–1946), дакументы аб звальненні ў запас (1957), адрас і блакнот з пажаданнямі ад супрацоўнікаў газ. «Во славу Родины» (1957).

Фатаграфіі П. Дз. Дудо, індывідуальныя, з сынам С. П. Дудо — з дароўным надпісам жонцы і сыну 9 (1941–[1955]), у групе з аднакурснікамі (1940), з супрацоўнікамі рэд. чырвонаармейскай газ. «Вперёд» 2 ([1943]–1945), з вайскоўцамі (1944), з супрацоўнікамі рэд. газ. «Во славу Родины» 2 (1952, [1956]).

Фота салдат артылерыйскага разліку капітана П. І. Палякова [1944].

## ДЫЛА ЯЗЭП

**Ф. 53. Воп. 2, 34 адз. зах, 84 дак., [1909]–1968, 1993 гг.**

***Дыла Язэп (Восіп Лявонавіч)*** *(1880–1973) — празаік, драматург, грамадскі дзеяч*

Рукапісы Я. Дылы. Абразкі: «З балючага сэрца бацькі», «Перад раніцаю» [1909–1912]; апавяданні: «Вось такая!», «Рождённый ползать летать не может…», «Спозненае каханне» і інш. [1940-я–1950-я гг.]; успаміны: аўтабіяграфічныя, пра А. Абуховіча, пра беларускі хор у Вільні 1910 г. [1950-я–1960-я]; рэцэнзія на рукапіс У. І. Няфёда «Белорусский театр 1917–1932 гг.» (1962) і інш. Усяго 47 рук.

Пісьмы Я. Дылы: Дз. С. Ангелаву (1959), П. У. Броўку (1964), Я. Коласу 2 (1944, 1946), У. Ф. Луцэвіч (1944), А. С. Лісу (1966), С. А. Пятровічу 2 (1959, 1962), Р. Г. Федароўскай (1967). Усяго 8 адр.

Перапіска Я. Дылы з Беларускім аддзяленнем Літфонду СССР 3 (1959–1961).

Пісьмы Я. Дылу: Ю. І. Бібілы (1968), У. М. Дубоўкі (1967), А. С. Ліса 3 (1964–1966), С. А. Пятровіча 2 (1959), І. У. Саламевіча 2 (1968), М. М. Улашчыка 4 (1960–1966). Усяго 6 кар.

Пісьмы Я. Дылу: Саратаўскага філіяла Інстытута тэхнічнага навучання (1954), Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна 2 (1956, 1957), Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР 2 (1957), рэд. газ. «Літаратура і мастацтва» (1957), Цэнтральнага дзярж. гістарычнага архіва Літоўскай ССР (1958), Беларускага аддзялення Літфонду СССР (1959), Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР 4 (1961–1964), Вярхоўнага Савета БССР (1966), Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (1968) і інш. Усяго 11 кар.

Дакументы да біяграфіі Я. Дылы [1927–1950-я]. Паведамленне аб'яднання беларускіх пісьменнікаў «Полымя» Я. Дылу [1927–1930], даведка Народнага камісарыята асветы БССР (1930), заявы ў Народны камісарыят асветы і дырэкцыю Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі (1944), звесткі аб заахвочваннях і ўзнагародах за 1948–1953 гг. і інш.

## ЖАБІНСКАЯ М. П.

**Ф. 485. Воп. 1, 304 адз. зах., 3167 дак., [1930-я гг.], 1947–2012 гг.**

***Жабінская Марыя Пятроўна*** *(1938–2018) — мастацтвазнавец, этнограф, мастак. З 2013 года жыла ў Рэспубліцы Мазамбік*

Рукапісы М. П. Жабінскай. Манаграфіі: «Вышивка» = «Художественная вышивка» — аўтарыз. маш. з нязн. аўт. праўкай, маш. з аўт. праўкай (1977–[1979]), «Народная культура Беларусі: ў кантэксце рэлігіі» — маш. з аўт. праўкай і ўклейкай (1999–2006), канд. дысертацыя [«Беларускае народнае ткацтва»] — маш. з аўт. праўкай [кан. 1970-х], метадычны дапаможнік «Выцінанка» — маш. з аўт. праўкай і ўклейкай (1996) і інш.; артыкулы пра арнамент і ткацтва, народныя вераванні беларусаў, народныя промыслы і рамёствы, фальклор (1973–2012), артыкулы для гісторыка-дакум. хронікі «Памяць» па традыцыйнай культуры Жлобінскага, Мядзельскага, Кобрынскага і Смаргонскага раёнаў (1988–[2004]) і інш.; рэцэнзіі на п’есу С. М. Новіка-Пяюна «Ёлка Дзеда Мароза» — маш. з аўт. праўкай (1994), кнігі М. С. Кацара, В. Л. Тэуша ([др. пал. 1990-х – пач. 2000-х]–2010) і інш., дэтальны разбор-аналіз манаграфій М. С. Кацара «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай [1997], Б. А. Рыбакова «Язычество Древней Руси» [1990-я] і інш., выступленні на выязных нарадах, канферэнцыях, перад супрацоўнікамі РНМЦ і інш. (1977–2002); сцэн. дак. фільмаў «Майстры вёскі Тышкавічы, што на Брэстчыне» — маш. з аўт. праўкай (1983), «Фольклор деревни Тышковичи» [кан. 1980-х], «Купалле на Радагошчынскай гары» (1991) і інш., сцэн. святочных вечароў [1982–1990-я]; апавяданне «Журба» — маш. з нязн. аўт. праўкай [1980-я], вершы: «На памяць аб маёй матулі», «На памяць мастака Баразны» і інш. — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, аўтарыз. маш. (1972–1977), запісы сноў за 1958–1986 гг. — сшытак з аўтогр.; дзённікавыя запісы і ўспаміны (2002, [сяр. 2000-х]), аўтабіяграфія за ([1988]–2011) і інш. Усяго каля 318 рук.

Дакументы даследчыцкай і навуковай дзейнасці М. П. Жабінскай. Дак-ты этнаграфічных экспедыцый у Брэсцкую, Віцебскую,

Гомельскую, Гродзенскую, Магілёўскую і Мінскую вобл.: палявыя дзённікі, спісы вёсак і рэспандэнтаў і інш. (1967–[2003]); малюнкі і накіды арнаментаў Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей [1970-я–1980-я], карункі ([1970-я]–1994), малюнкі геаметрычнага, расліннага і тэраталагічнага арнаментаў [1970-я–1990-я], малюнкі арнаментальных матываў ткацтва з элементам «вінаградная лаза», «крыж», «ружа» [1990-я–2000-я]; накіды прадметаў хатняга начыння, франтонаў дамоў і інш. (1967–[1980-я–1990-я]); фота дываноў, посцілак, ручнікоў і інш. [1960-я–1980-я]. Усяго каля 1620 дак.

Малюнкі і арнаменты М. П. Жабінскай. Партрэты бацькоў (1959), аўтарскія арнаменты ([1960-я–1970-я]–1995), выцінанкі [1980-я]. Усяго 84 мал.

Фота эскізаў тканін, сцэнічных касцюмаў М. П. Жабінскай для хору Т. К. Лапацінай, графічных малюнкаў і інш. 39 [пач. 1960-х – др. пал. 2000-х].

Дакументы ўкладальніцкай дзейнасці М. П. Жабінскай. Каталогі: «Рэспубліканскай выстаўкі самадзейнага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва» — брашура з праўкай укладальніка (1967), «Белорусский сувенир (рекомендации художникам, самодеятельным мастерам)» — маш. з праўкай укладальніка [1979], макет фотаальбома «Падарунак радзіме Міколы Вараб'ёва» — сшыткі з аўтогр. укладальніка і ўклейкамі фота работ мастака (2011) і інш.

Пісьмы М. П. Жабінскай: Н. С. Гілевічу (1992), Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку (1995), А. М. Пяткевічу 2 (1996), У. С. Ліпскаму (2006), калегам 4 (1983–[1990-я]), А. С. Магуманэ (Міско) (дачцэ) (2010); у рэд. «Литературной газеты» [1983–2009] і інш. Усяго 15 адр.

Пісьмы і паштоўкі да М. П. Жабінскай: В. Мацукевіча [1980-я–1990-я], Н. С. Загорскай (1993), А. М. Пяткевіча 3 (1995–1999), В. Шоця 2 (1998, 2002), У. С. Ліпскага (2006), А. А. Труса [2008], А. С. Магуманэ (Міско) (дачкі) 6 (1969–2005), сваякоў і знаёмых, народных майстроў 5 (1968–2012). Усяго каля 25 кар.

Пісьмы М. П. Жабінскай ад установ: Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (1966), Гомельскага абласнога краязнаўчага музея (1966), Веткаўскага дзярж. музея народнай творчасці [1980-я] і інш.; рэд. газет «Литературная газета» (1983), «Культура» (1999), часоп. «Культурно-просветительная работа» 3 (1987–1988), выд-ва «Мастацкая літаратура» (2007), грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў» (2004) і інш. Усяго каля 25 кар.

Дакументы да біяграфіі М. П. Жабінскай (1956–2005). Асабістыя дак-ты: ганаровыя граматы Абласнога дома народнай творчасці г. Маладзечна, Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюзаў і Міністэрства культуры БССР і інш. (1956–1991), пасведчанне аб здачы канд. экзаменаў, дыплом універсітэта марксізма-ленінізма Мінскага гаркама партыі і інш. (1972–1982), запрашэнні Сінода Беларускага экзархату РПЦ, Смаргонскага раённага выканаўчага камітэта і інш. (1982–2005); пасведчанні Камітэта народнага кантролю (1984), ВДНГ СССР (1986); аўтабіяграфія (1988) і інш.; дак-ты аб працы ў РНМЦ: дакладныя запіскі, даведкі, справаздачы і інш. (1971–1991); дак-ты аб працы па стварэнні Мотальскага музея народнай творчасці: дак-ты аб стварэнні, экспазіцыйныя дак-ты, замалёўкі арнаменту, фота для экспазіцыі і інш. (1979–1990) і інш.

Дакументы М. П. Жабінскай па бытавых і маёмасных пытаннях: завяшчанне і дадаткі да яго ([кан. 1990-х]–2011), заявы ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і інш., Раду Сойма Беларускага саюза мастакоў і інш. (1995–2008).

Артыкулы Р. А. Баравіковай, С. У. Кліменценкі, В. Лапцік, інфармацыйнае паведамленне і інш. пра М. П. Жабінскую (1984–2011), рэцэнзіі М. С. Кацара, М. Ф. Раманюка, М. М. Яніцкай і інш. на мастацтвазнаўчыя працы (1966–1985), Я. М. Сахуты, В. Ф. Шматава і інш. на рук. кн. «Нажніцы-чараўніцы», «Складзі ўзор сам» і інш. — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, маш. з нязн. аўт. праўкай, выразкі з газ. (1988–1993), У. М. Конана на рук. манаграфіі «Народная культура белорусов: в контексте христианства» — аўтогр., аўтарыз. маш.

з аўт. праўкай (2000), водгукі В. А. Жуковіча, У. М. Іскрыка на рук. кн. «Нажніцы-чараўніцы», «Народная культура Беларусі ў кантэксце рэлігій» і інш. — аўт. , маш. з аўт. праўкай (1978–2007); вершы Н. С. Загорскай, М. Казекі і інш. з прысвячэннямі М. П. Жабінскай ([1970-я–1980-я]–1994) і інш.

Дакументы, сабраныя М. П. Жабінскай для сваіх прац: выпіскі з кн. «Житие и чудеса преподобного Александра Свирского», В. П. Кузняцова «История развития формы креста. Краткий курс православной ставрографии» і інш. (1993–2007); М. Вараб'ёў «Заметки к дневнику» [1960-я], артыкулы пра ткацтва в. Неглюбка Гомельскай вобл. (1974–1989), па гісторыі славацкага і чэшскага дзярж. гербаў, стаўраграфіі і інш. — выр. з газ. і часоп. ([пач.1990-х]–2010).

Малюнак арнаменту Л. Ц. Баразны — туш, гуаш [кан. 1960-х–1972], сюжэтна-тэматычныя маляваныя дываны А. А. Кіш «Ліст да каханага», «У райскім садзе», Л. Ючковіч «Кветкі» і інш. — рэпрадукцыі 4 [1980-я–1990-я]; фота народных майстроў 40 ([1950-я]–1975), прадметаў ткацтва (дываноў, ручнікоў, посцілак і інш.) з вёсак Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей 85 (1947–[1980-я]) і інш.; фота карцін мастакоў-аматараў, барэльефаў і інш. 156 [др. пал. 1940-х–1980-я]; фота экспазіцый: Бабруйскай абласной выстаўкі 2 (1952), Дэкады беларус. мастацтва ў Маскве 2 (1955), 14-й абласной выстаўкі ў Віцебску 7 (1957) і інш.; фота з бацькамі, дачкой, унукам 5 [1940-я–1997], аднакласнікамі, калегамі і знаёмымі 30 [1949 – др. пал. 1990-х].

Фота бацькоў, дачкі М. П. Жабінскай, індывідуальныя і ў групах, 5 ([1930-я]–1995).

Дакументы членаў сям'і М. П. Жабінскай: ганаровая грамата і экзаменацыйная картка А. С. Магуманэ (Міско) (дачкі) і інш., пісьмо да С. М. Міско (мужа) ад неўст. асобы [1970-я – пач. 2000-х].

## ЖЫЧКА Х. Дз.

**Ф. 194. Воп. 3, 75 адз. зах., 369 дак., 1952–1992 гг.**

***Жычка Хведар Дзмітрыевіч*** *(1927–2007) — паэт, празаік, перакладчык*

Рукапісы Х. Дз. Жычкі. Паэма «Партызанскі праспект» (урыўкі) — сшытак (1975); вершы ([1950-я]–1992), падборка вершаў да мяркуемых зб-каў: «Абавязак», «Абдымкі сонца», «Абрус», «Настой», «Святога вечара чакаю», «Стой на вахце сэрца», «Яшчэ адзін пракос» — аўтогр., чарнавы аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1961–1992); лібрэта араторыі «Хатынь» (1978); падборка апавяданняў да мяркуемага зб. «Букет вяргіняў» (1970); навукова-папулярныя нарысы «Мая вуліца» — чарнавы аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1969); літаратурныя мініяцюры [1970-я]; артыкулы (1962–1987); рэцэнзія на зб. вершаў М. А. Чабатаева «Юнацтва, апранутае ў бушлат» (1966); аўтабіяграфічныя нататкі аб службе на Балтыйскім флоце [1970-я]; пераклады твораў А. Абдуразака, Э. Адзі, Х. Берулавы, У. Бранеўскага, В. В. Бычко, С. Г. Ваянскага, Б. Данілава, А. Кякілава, Х. І. Мальцінскага, Ц. Г. Масенкі, В. Незвала, Б. Ногейла, Я. Піларжа, А. С. Пушкіна, М. Рафая, Л. Украінкі і інш. (1961–1992); сшыткі з апавяданнямі, вершамі, перакладамі 5 (1961–1986). Усяго каля 145 рук.

Малюнкі Х. Дз. Жычкі (1962–1991). Усяго 63 мал.

Пісьмы Х. Дз. Жычкі: [Міхаілу Фёдаравічу] [1970-я], А. А. Касарукаву (1983), М. Рафаю (1982). Усяго 3 адр.

Пісьмы Х. Дз. Жычку: М. Я. Алейніка 6 (1977–1987), І. А. Аношкіна (1989), К. А. Буйло (1981), М. П. Вяршыніна (1989), М. А. Грамыкі 2 (1965, 1966), М. П. Даніленкі 5 (1983–1991), Я. Дзвінскай 2 (1986, 1988), У. М. Дубоўкі 2 (1968), М. Кабаненкі (1965), С. П. Красікава 2 (1985), Ц. Г. Масенкі (1961), У. А. Маторнага 4 (1986–1992), У. Л. Місуна (1983), Х. Ніемі 2 (1985, 1988), Б. Ошэрава 2 (1985, 1986), А. Падабеда (1987), Я. Піларжа 4 (1974–1986); П. К. Пранузы (1985), А. В. Пысіна 2 (1952, 1966), М. Рафая 3 (1978–1986), М. М. Рудкоўскага [1966], І. Скалы (1982), Б. П. Стэпанюка (1987), К. Тамашчыка 4 (1974–1983),

Я. А. Хелемскага 3 (1955–1972), М. А. Чабатаева 5 (1966–1988), А. Я. Юшчанкі 11 (1976–1987) і інш. Усяго 44 кар.

Пісьмы Х. Дз. Жычку ад устаноў: рэд. часоп. «Бярозка» (1962), партбюро СП БССР [1970-я], народнага музея імя У. І. Леніна Буда-Кашалёўскай СШ № 1 Гомельскай вобл. 5 (1964–1986), пошукавага клуба «Крынічка» СШ № 6 г. Калінкавічы Гомельскай вобл. 2 (1990–1991); Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага пры СП СССР (1965); Кіеўскага выд-ва ЦК ЛКСМУ «Молодь» (1984), рэд. Украінскай савецкай энцыклапедыі (1989).

Дакументы да біяграфіі Х. Дз. Жычкі і пра яго. Справаздачны даклад партыйнага бюро выд-ва «Мастацкая літаратура» (1977), аўтабіяграфія [1972], адказы на пытанні для інтэрв'ю чэшскай газ. «Tvorba» (1983) і інш.

## ЗАЙЦАЎ Я. А.

**Ф. 226. Воп. 1, 49 адз. зах., 118 дак., 1927–1978 гг.**

***Зайцаў Яўген Аляксеевіч*** *(1908–1992) — жывапісец, народны мастак Беларусі (1963)*

Фота і рэпрадукцыя малюнкаў Я. А. Зайцава 23 (1942–1976).

Артыкул Я. А. Зайцава пра выстаўку індыйскага малюнка ў БССР — аўтарыз. маш. [1960-я–1970-я].

Пісьмы Я. А. Зайцаву: М. М. Грыцэнкі 3 ([сяр. 1940-х]–1948), Л. С. Зінгера 2 (1974), А. У. Касакоўскага 2 (1945, [да 1970]), М. А. Керзіна (1950), Ф. Круглянскага (1945), Ф. А. Мадорава [пасля 1958], А. П. Мазалёва (1947), М. М. Федарэнкі (1948) і інш. Усяго 14 кар.

Пісьмы Я. А. Зайцаву ад устаноў: Галоўнага упраўлення ўстаноў выяўленчых мастацтваў пры СНК СССР [1951], Гістарычнага музея г. Крычава [пасля 1960], Саюза пісьменнікаў БССР (1972) і Усесаюзнага вытворча-мастацкага камбіната Міністэрства культуры СССР (1972).

Дакументы да біяграфіі Я. А. Зайцава (1941–1978). Камандзіровачнае пасведчанне Саюза савецкіх мастакоў БССР для паездкі

ў г. Маскву (1941); характарыстыкі старшыні Саюза савецкіх мастакоў БССР А. В. Грубэ і інш. на Я. А. Зайцава для 5-га Армейскага Упраўлення войскаў урадавай сувязі Заходняга фронту (1941–1942); дак-ты аб службе ў штабе 38-й сапёрнай брыгады: даведка аб прыняцці на захаванне асабістых рэчаў Я. А. Зайцава, хадайніцтва Саюза савецкіх мастакоў БССР аб стварэнні ўмоў для творчай працы Я. А. Зайцава і дазволе на яго прыезд у г. Маскву для паказу эскізаў (1942); запрашальны білет Усеславянскага Камітэта на III Усеславянскі мітынг у Калоннай зале Дома Саюзаў (1943); пасведчанні аб службе ў складзе Беларускага штаба партызанскага руху (1943, 1944); пасведчанні Камісіі па гісторыі Айчыннай вайны пры ЦК КП(б)Б, Міністэрства дзяржаўнай бяспекі БССР, СНК БССР і інш. аб скіраванні ў г. Бабруйск, г. Віцебск, г. Магілёў, г. Мінск і інш. для напісання замалёвак і эцюдаў на месцах баявых дзеянняў часоў Вялікай Айчыннай вайны і інш. (1944–1957); ганаровая грамата Камітэта па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў СССР, Цэнтральна-шэфскай камісіі і інш. (1948), грамата Саюза савецкіх таварыстваў сяброўства і культурнай сувязі з замежнымі краінамі [пасля 1958], граматы і загады аб уручэнні нагруднага значка і памятнага медаля Міністэрства абароны СССР (1966–1968) і інш.; справаздача аб творчай паездцы ў Албанію (1958); афіша выстаўкі «По Албании» (1959); каталог юбілейнай выстаўкі твораў Я. А. Зайцава (1959), артыкулы і нататка, прысвеч. 60- і 70-годдзю з дня нараджэння Я. А. Зайцава (1968–1978).

Дакументы пра Я. А. Зайцава: буклет выд-ва «Советский художник», прысвеч. Я. А. Зайцаву (1949); артыкулы, нататкі і фельетон пра і з упам. Я. А. Зайцава — выр. з газ. (1947–1976), газ. «Bashkimi» (№ 219 і 225, 1958) (Албанія), «Naplo» (ад 25.09.1964) (Венгрыя).

Фота Я. А. Зайцава, індывідуальныя, 2 ([1949], [1960-я – пач. 1970-х]), у групах з З. І. Азгурам, А. В. Аладавай, І. В. Ахрэмчыкам, А. В. Багатыровым, М. Л. Бельскім, А. А. Бембелем, П. У. Броўкам, Г. М. Бураўкіным, А. А. Волкавым, В. Ф. Вольскім, П. Н. Гаўрыленкам, Л. П. Грыгарашчанкам, М. І. Гусевым, У. С. Караткевічам, Я. Я. Красоўскім, Ф. А. Мадоравым, А. Маўзонам, А. П. Марыксам, Ю. П. Рэй-

нерам, Д. Р. Сімановічам, М. П. Станютам, М. Торэзам, Г. С. Ханджанам, І. Ц. Ціханавым 23 (1927–[1975]), піянерамі і інш. ([кан. 1940-х], [1960-я]).

## ЗАРУБАНАЎ А. Г.

**Ф. 474. Воп. 1, 62 адз. зах., 326 дак., 1947–2000, коп. дак. 1851–[1880-я] гг.**

***Зарубанаў Анатолій Герасімавіч*** *(1936–2000) — рэдактар тэлебачання*

Рукапісы А. Г. Зарубанава. Сцэнарыі цыклаў музычных перадач: «Майстры балетнага і опернага мастацтва, музыка на БТ» — маш. з аўт. праўкай (1961–1990), «Творческие портреты» — маш. (1960–1969), «Музычны каляндар» — маш. (1962), «Рассказы о балете» — маш. (1963–1967), канцэртаў — маш. (1960–1990) і інш. Анонсы тэлеперадач (у т. л. А. Г. Зарубанава) з цыклаў «Архіварыус», «Зоркі беларускага балета», «Творцы» ў газ. «Беларускае тэлебачанне і радыё» — выр. з газ. з паметамі А. Г. Зарубанава (1971–1996). Усяго 91 рук.

Дакументы да біяграфіі А. Г. Зарубанава. Пахвальныя граматы 5 (1947–1951), атэстат сталасці, даведка аб заканчэнні сярэдняй музычнай дзесяцігодкі пры Белдзяржкансерваторыі (1954), камсамольскі білет (1959–1964), дыплом аб заканчэнні Белдзяржкансерваторыі (1959), працоўная кніжка (1959–1999), прафсаюзны білет (1960–1968), ваенны білет (1963–1987), членскі білет і ўліковая картка Саюза журналістаў (1972), дыплом аб заканчэнні Універсітэта марксізма-ленінізма (1978), пенсійнае пасведчанне (1997) і інш., дыпломы, граматы (1964–1986). Інфармацыя аб смерці, некралог А. Г. Зарубанава (2000).

Дакументы, сабраныя А. Г. Зарубанавым. Дак-ты кампазітара Н. Ф. Сакалоўскага (дзядзькі): п’еса для фп. «Дзяўчынка» [1940-я], песні для хору з фп. «Ленінскаму камсамолу» на сл. Я. Коласа — друкав. выд. (1947), «Чырвоная вяргінечка» на сл. А. Г. Русака —

друкав. выд. (1957), для саліста і хору з фп. «Песня пра Нёман» на сл. А. П. Астрэйкі — друкав. выд. (1957) і інш., раманс для голасу з фп. «Хлопец кудравы» на сл. А. С. Вялюгіна — друкав. выд. (1952), Дзяржаўны гімн БССР на сл. М. М. Клімковіча — друкав. выд., выр. з газ. «ЛіМ» (1955, 1984); буклеты «Нестар Сакалоўскі» (1969), «Нестор Соколовский» (1976), «Гомельский колледж искусств им. Н. Ф. Соколовского» (1997); фота Н. Ф. Сакалоўскага, індывідуальныя, 4 [1917 – кан.1940-х] і з Р. К. Пукстам, Я. К. Цікоцкім і інш. 2 (1948), В. Н. Сакалоўскага (сына) каля помніка Н. Ф. Сакалоўскаму на Вайсковых могілках г. Мінска 4 [1960-я] і інш.

Артыкулы Дз. М. Жураўлёва — выр. з газ. (1960–1985). Праграмы оперных спектакляў Ю. У. Семянякі ДАВТ БССР «Калючая ружа» (1960), «Новая зямля» (1982).

Фота А. Г. Зарубанава, індывідуальныя і ў групах з выкладчыкамі і выпускнікамі Белдзяржкансерваторыі М. А. Бергерам, І. А. Гітгарцам, Л. М. Куляшовым, Л. С. Мухарынскай, А. І. Самковай і інш., 7 (1950–[1980-я]).

Фота Б. З. Карпілавай-Разенблат (1959), Л. В. Собінава — коп. (1907), Ф. І. Шаляпіна (1921) і інш.

Фота польскага скрыпача і кампазітара Г. І. Веняўскага, індывідуальныя і ў групах з Ю. І. Веняўскім (братам), І. Хэмптон-Веняўскай (жонкай), 17 — коп. (1846–[1870-я]), афіш яго канцэртаў 11 — коп. [1860-я–1870-я].

Фота Я. Э. Віцінга, індывідуальныя і ў групе з І. С. Абрамісам, А. В. Багатыровым, Т. І. Лук’янавай, Ф. І. Шаляпіным і інш., 16 — коп. (1900–[1950-я]), афіш оперных спектакляў з яго ўдзелам 6 — коп. [1930-я–пач.1950-х].

Фота І. І. Жыновіча, індывідуальныя і ў групе з С. М. Навіцкім, Х. І. Шмелькіным і інш., 4 — коп. (1944 – [кан.1960-х]).

Фота А. В. Нікалаевай у ролях, сыграных у спектаклях ДАВТ БССР: «Чырвоны мак» Р. М. Гліэра, «Князь-возера» В. А. Залатарова, «Лебядзінае возера» П. І. Чайкоўскага 3 (1947–1949).

Фота сцэн са спектакля БДТ-1 «Машэка», паст. Е. А. Міровічам, з удзелам У. М. Крыловіча, В. У. Галіны і інш. 2 — коп. [1923].

Фота вуліц Пецярбурга, Парыжа, цар-колакала ў Маскве, калоны Нэльсана на Трафальгарскай плошчы ў Лондане і інш., карцін з выявамі будынкаў і залаў тэатраў Берліна, Парыжа, Бруселя і інш. 33 — коп. [1851–1880-я].

Фота карціны Н. М. Воранава «Утро в Октябре. Минск 1917 год» (1958).

## ЗЮВАНАЎ М. А., ЗЮВАНАВА Я. М.

**Ф. 362. Воп. 1, 59 адз. зах., 134 дак., 1942–1976 гг.**

***Зюванаў Міхаіл Акімавіч*** *(1906–1977) — спявак Дзярж. Вялікага тэатра оперы і балета БССР, народны артыст БССР (1954); яго жонка —* ***Зюванава Яўгенія Мікалаеўна*** *(нар. 1928) — балерына Дзярж. Вялікага тэатра оперы і балета БССР*

Дакументы акцёрскай дзейнасці М. А. Зюванава. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Дзярж. Вялікага тэатра оперы і балета БССР: Варажскага госця («Садко» М. А. Рымскага-Корсакава), Данілы («Дзяўчына з Палесся» Я. К. Цікоцкага), Дурава («Надежда Дурова» А. В. Багатырова), Івана Сусаніна («Иван Сусанин» М. І. Глінкі), Карася («Запорожец за Дунаем» С. С. Гулак-Арцямоўскага) і інш. з удзелам Л. П. Александроўскай, Т. М. Пастунінай і інш. 18 (1950–1958).

Дакументы ўкладальніцкай дзейнасці М. А. Зюванава. «Хрестоматия вокально-педагогического репертуара для баса» для III і IV курсаў кансерваторыі — рук. і ксеракоп. вакалізаў, песень для голасу і інш. [пасля 1966].

Дакументы да біяграфіі М. А. Зюванава (1942–1976). Праграма опернага спектакля «Царская невеста» М. А. Рымскага-Корсакава Дзярж. акадэмічнага Вялікага тэатра СССР (1944); афішы і праграмы оперных спектакляў «Борис Годунов» М. П. Мусаргскага, «Запорожец за Дунаем» С. С. Гулак-Арцямоўскага, «Проданная невеста» Б. Сметаны, «Русалка» А. С. Даргамыжскага і інш. Дзярж. Вялікага тэатра оперы і балета БССР (1949–1956); дак-ты аб удзеле ў Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве: пасведчанне ўдзель-

ніка, запрашэнне на прыём, праграма заключнага канцэрта і інш. (1955); афішы і праграма гастрольных оперных спектакляў «Борис Годунов» М. П. Мусаргскага, «Евгений Онегин» П. І. Чайкоўскага, «Иван Сусанин» М. І. Глінкі, «Фауст» Ш. Гуно і інш. у Дзярж. філармоніі г. Лодзь і Дзярж. оперы імя Ст. Манюшкі ў г. Познань (Польшча), Куйбышаўскім Дзярж. тэатры оперы і балета (Расія), Адэскім дзярж. акадэмічным тэатры оперы і балета і Дзярж. акадэмічным тэатры оперы і балета УССР імя Т. Р. Шаўчэнкі (Украіна) (1955–1959); афішы і праграмы канцэртаў Белдзяржкансерваторыі, Белдзяржфілармоніі і інш. (1950–1974); дакументы да 70-годдзя з дня нараджэння М. А. Зюванава: віншавальныя адрасы Белдзяржкансерваторыі, БТА і ДАВТ БССР, ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (1976); ганаровыя граматы, граматы і інш. (1942–1975).

Дакументы пра М. А. Зюванава: сцэн. радыёперадачы «Мая любімая песня» пра М. А. Зюванава — маш. з нязнач. праўкай М. А. Зюванава (1951); артыкулы і нататкі з упам. М. А. Зюванава і спектакляў з яго ўдзелам — бюлетэні «Программы московских театров» (№ 6, 1955) і «Тэатральна декада» (УССР) (№ 29, 1955), газ. «Вечерняя Москва» (№ 41, 1955) і «Советская Белоруссия» (№ 35, 1955), выр. з газ. (1955–1956).

Дакументы, сабраныя М. А. Зюванавым па цікавых для яго тэмах. Праграмы оперных спектакляў «Аіда» Дж. Вэрдзі Дзярж. акадэмічнага тэатра оперы і балета УССР імя Т. Р. Шаўчэнкі і «Eugeniusz Oniegin» Дзярж. оперы імя Ст. Манюшкі ў г. Познані (Польшча) (1955).

Фота М. А. Зюванава, індывідуальныя, 4 (1958/1959 – [пач. 1970-х]), у групах з выкладчыкамі і выпускнікамі Белдзяржкансерваторыі (1951), опернымі спевакамі І. С. Казлоўскім, К. К. Кудрашовай, Т. М. Ніжнікавай, М. М. Сербавым, Т. І. Шымко і інш. пасля оперных канцэртаў 2 ([1950-я]–1955), з членамі журы 2-га конкурсу вакалістаў імя М. І. Глінкі ў Маскве А. В. Абразцовай, У. А. Атлантавым, Я. А. Вашчаком, Г. П. Вішнеўскай, А. П. Івановым, Я. Ц. Райковым, Н. А. Ткачэнкай і інш. 4 (1962).

Дакументы акцёрскай дзейнасці Я. М. Зюванавай. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў ДАВТ БССР: Танечкі («Доктор Айболит»

І. У. Марозава), Тао Хоа («Красный мак» Р. М. Гліэра), Коткі («Спящая красавица» П. І. Чайкоўскага) і інш. 8 ([пач. 1950-х]–1956).

Дакументы да біяграфіі Я. М. Зюванавай. Праграмы і змест балетнага спектакля «Доктор Айболит» І. У. Марозава ДАВТ БССР і заключнага канцэрта агляду творчай моладзі тэатраў БССР (1952, 1955).

Рэцэнзіі Р. Піётухоўскай і Я. К. Цікоцкага на балетны спектакль «Доктор Айболит» І. У. Марозава з удзелам Я. М. Зюванавай — выр. з газ. (1951).

## КАВАЛЮК А. Т.

**Ф. 488. Воп. 1, 101 адз. зах., 1280 дак., [1920-я–1930-я], 1949–2007 гг.**

***Кавалюк Аўгіння (Яўгенія) Трафімаўна*** *(1934–2007) — паэтэса, перакладчыца*

Рукапісы А. Т. Кавалюк. Паэмы «Голас часу», «Сучаснасць» — маш. з нязнач. рэд. праўкай, маш. [кан. 1970-х–1980-я]; падборкі вершаў да зб-каў «Адклікаюцца рэхам гады», [«Імгненняў след»], «Лёс» і інш. — чарн. аўтогр., аўтогр., маш. з аўт. праўкай і рэд. праўкай Р. І. Барадуліна, маш. з нязначн. аўт. праўкай, маш. ([кан. 1970-х–1980-я]–2005); вершы (1956–2007); абразкі «Адна», «Адзінота», «Бабуля» і інш. [1970-я–2007]; артыкулы пра В. У. Быкава, Т. Р. Шаўчэнку і інш. ([1950-я]–2007); пераклады вершаў Л. Азаравай, А. Т. Біккулавай, М. Бутэнкі, Э. Вецыні, А. Геваргяна, Ц. Дзінарэ, А. Захарчанка, М. Крома, М. Кэмпе, В. Летушава, М. Міхіна, С. Юлаева [1970-я–2007]. Усяго каля 800 рук.

Пісьмы А. Т. Кавалюк: Я. Брылю 2 (1991, [1990-я]), А. П. Макоўскай [2004–2005], Г. (Еве) Карсаковай (1982).

Пісьмы да А. Т. Кавалюк: Э. Агняцвет 11 (1966–1969), Д. І. Бічэль-Загнетавай (1964), А. С. Васілевіч 2 (1959, 2003), А. І. Вярцінскага 3 (1966–1969), Л. М. Гарэлік 2 (1988, 1989), В. П. Грыцкевіча 3 (2004–2007), Ю. У. Голуба (1982), [Г. А. Каржанеўскай] 2 (1996, 1997),

У. А. Крука (1974), А. В. Кулагінай 3 (1962–1999), С. С. Панізніка 3 (2001–2004), А. М. Пяткевіча (1992), А. С. Разанава (1985), В. М. Целеша [1990-я–2007], В. Шведа (1992); ад сваякоў, сяброў, знаёмых, вучняў, чытачоў і інш. (1956–2007). Усяго каля 29 кар.

Пісьмы А. Т. Кавалюк ад устаноў: Акадэміі навук БССР [1985], выд-ваў «Беларусь» (1968), «Мастацкая літаратура» (1987), рэд. газ. «Знамя юности» (1964), часоп. «Работніца і сялянка» 2 (1960, 1966); Літаратурна-краязнаўчага музея Гудзевіцкай сярэдняй школы 2 (1976, 1982). Усяго 8 кар.

Дароўныя надпісы А. Т. Кавалюк ад А. П. Антонава, А. Гудан, Ю. Сіткевіча, Э. Татарава на вершах, падборках вершаў, буклеце персанальнай выстаўкі А. П. Антонава (1955–2004). Усяго 4 дак.

Дакументы да біяграфіі А. Т. Кавалюк (1959–2004). Асабовыя лісткі па ўліку кадраў, аўтабіяграфіі, коп. дыплома Гродзенскага дзярж. педагагічнага інстытута імя Я. Купалы, пасведчанне аб шлюбе (1959–[1985]); дак-ты, сабраныя для атрымання кваліфікацыі «настаўнік першай катэгорыі» і «настаўнік вышэйшай катэгорыі» (заявы, прадстаўленні ад дырэктароў СШ № 97 і № 101 Санкт-Пецярбурга і інш.) (1974–2001); дак-ты аб уступленні ў СП СССР (рэкамендацыі Э. Агняцвет, Д. І. Бічэль-Загнетавай, Г. А. Каржанеўскай, Гродзенскага аддзялення СП БССР і інш.) (1978–[1993]); запрашэнні на ІІ Аб'яднаную канферэнцыю пісьменнікаў Беларусі і інш. (1993–2003); даведкі ад выд-ваў «Беларусь», «Мастацкая літаратура», часоп. «Полымя», Міжгаліновага інстытута павышэння кваліфікацыі спецыялістаў народнай гаспадаркі (1982–2001) і інш.; ганаровыя граматы аддзела народнай адукацыі Пралетарскага р-на Рыгі, Рыжскага ваенна-палітычнага вучылішча імя маршала СССР С. С. Бірузова і інш. (1967–1985); пісьмы з падзякай ад адміністрацыі Дома дзяцей і падлеткаў «Союз», навукова-метадычнага цэнтра Выбаргскага р-на Санкт-Пецярбурга і інш. (1996–2000); дак-ты рэдактарскай і ўкладальніцкай дзейнасці ў СШ № 97 Санкт-Пецярбурга (падборкі дзіцячай паэзіі, запрашэнні на вечар «Наследие Петербурга») (1997–2000); віншавальныя тэлеграмы, паштоўкі ад камандавання, палітаддзела і прафсаюзнага камітэта Рыжскага ваенна-палітыч-

нага вучылішча імя маршала СССР С. С. Бірузова, супрацоўнікаў рэд. газ. «ЛіМ», СП «Многонациональный Санкт-Петербург» і інш. з юбілеямі (1984–2004).

Дакументы пра А. Т. Кавалюк: сцэн. Ю. У. Голуба «Гродзеншчына літаратурная», артыкулы Л. М. Галубовіча «Ты з маёй рыфмаванай долі…», Г. А. Каржанеўскай «Даруй, Санкт-Пецярбург» і інш. з упам. (1967–2006). Некралог, пісьмы са спачуваннямі (2007) і інш.

Дакументы, сабраныя А. Т. Кавалюк. Верш В. Ц. Шаламава «Стихи — не просто отраженье…» — рук. неўст. асобы [1990-я]; брашуры «Беларуская дыяспара (прэс-рэліз)» [1990-я], «Музей Максіма Багдановіча г. Гродна» [1990-я] і інш.; словы Р. Я. Бакланава і Д. А. Граніна, Я. Р. Лецкі, Ю. Дз. Чарнічэнкі на развітанне з В. У. Быкавым і С. І. Грахоўскім — выр. з газ. (2002–2003) і інш.

А. Л. Кавалюк. Партрэт А. Т. Кавалюк. Малюнак алоўкам [1970-я].

Фота А. Т. Кавалюк, індывідуальныя, 60. (1953–[2007]); з С. Г. і Я. А. Сідаровічамі (бацькамі), Л. А. Кавалюком (мужам), сваякамі 23 (1954–2004); з сябрамі і знаёмымі 25 (1952–[1990-я]); з удзельнікамі VI Рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў у Мінску: В. А. Казько, У. С. Караткевічам, В. М. Клімянковым і інш. разам з Я. Коласам (1955); у групах з У. А. Арловым, Г. А. Каржанеўскай, А. А. Лойкам, А. В. Мальдзісам, З. С. Пазняком і інш. 3 [кан. 1990–х]; з прадстаўнікамі беларус. дыяспары Санкт-Пецярбурга: В. П. Грыцкевічам, А. М. Кірвелем, М. В. Нікалаевым, М. С. Пяровай і інш. 17 ([1990-я]–2006); А. Т. Біккулавай, В. П. Грыцкевічам, А. М. Кірвелем і інш. у «Новым доме культуры» Санкт-Пецярбурга на яе юбілейным вечары 10 (2004); Б. А. Ахмадулінай, Г. С. Гампер і інш. пасля юбілейнага вечара Б. А. Ахмадулінай у Александрынскім тэатры Санкт-Пецярбурга (2007); у групах са школьнікамі ў час яе працы ў піянерскіх лагерах, школах Рыгі і Санкт-Пецярбурга 23 (1955–1999).

Фота сваякоў і знаёмых, удзельнікаў літаратурна-творчага гуртка СШ № 97 Санкт-Пецярбурга, індывідуальныя і ў групах, 16 (1949–2005).

Ілюстрацыі Л. Успенскай да дзіцячых кніг А. Т. Кавалюк. — гуаш, чорны фламастэр [1990-я–2007].

[А. Л. Кавалюк]. Партрэт Р. І. Барадуліна. Малюнак алоўкам [1970-я].

Ю. П. Аненкаў. Партрэт Г. А. Ахматавай (1921) — рэпрадукцыя (1989).

Паштоўкі: з выявамі пакоя У. І. Леніна ў Ульянаўску (1962), рэшткаў замка ў Навагрудку (фота Г. Паддэмскага) [1920-я–1930-я].

## КАВЫЛЬ МІХАСЬ

**Ф. 504. Воп. 1, 34 адз. зах., 160 дак., 1943–1990 гг.**

***Кавыль Міхась (Лешчанка Язэп Казіміравіч)*** *(1915–2017) — паэт, крытык, празаік*

Рукапісы М. Кавыля. Паэмы: «Адна ноч ў Чарніцах», «Жаўрук», «Недабітыя рыцары», «Непакорныя» (1947–1955, 1982–1989) — маш. з праўкай, ксеракоп.; вянок санетаў «Чорны лёд» (1958) — маш.; зб. вершаў «Ростань» (1947) — друкав. выд.; вершы (1931–1990); апавяданні: «Расплата» (1949) — газ. «Беларускае слова», «Сполах» (1950) — ксеракоп. з газ.; п’есы: «Недасьпяваная песьня» (1957) — ксеракоп. з друкав. выд. з праўкай, «Лясная казка» (1967) — маш., «Марыльчына знаходка» [1960-я] — ксеракоп. маш.; артыкулы: «Белорусы и литовцы», «Вторая ловушка», «Глубже и шире!», «Звонят колокола Хатыни…», «Повторение истории?», «Расстрел польских офицеров», «Узник Седанлага» і інш. ([1970]–1977) — ксеракоп. і святлакоп. з газ. «Новое Русское слово» (ЗША); успаміны «Мой шлях» = «Коратка пра сябе» (1988–1990) — маш. і ксеракоп. з праўкай. Усяго 132 рук.

Пісьмы М. Кавыля: В. і З. Кіпелям 18 (1987–1990), Л. Юрэвічу 2 (1968–1969).

Пісьмы М. Кавылю: А. Вініцкага з просьбай паведаміць аб працы ў Саюзе Беларускай Моладзі для кнігі «Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадах» 3 (1968–1969), В. А. Селяха (1972), А. Т. Каханоўскага (1983).

Дакументы да біяграфіі М. Кавыля. Заява на ўступленне ў літ. згуртаванне «Шыпшына» (1946), запрашэнне М. Кавыля і З. Вяргун на іх вяселле на імя А. Асіпчыка (1953).

Артыкулы Я. Золака, Г. Шаўчука і інш. пра М. Кавыля (1947–1966); «Альфабэтны паказнік» да твораў М. Кавыля і нататкі да зб. твораў «Міжагнёўе», падрыхтаваны З. Кіпель (1990) — аўтогр., маш.; бібліяграфія твораў М. Кавыля, складзеная З. Кіпель (1990) — аўтогр., маш.; З. Кіпель «Вобраз месяца ў паэзіі Міхася Кавыля» (1990); Т. Бёрд «Preface» («Прадмова») да зб. выбраных твораў М. Кавыля «Міжагнёўе» (1990) на англ. м. — маш., ксеракоп.; заўвагі Ант. Адамовіча да біяграфіі М. Кавыля «Коратка пра сябе» (1990).

Пісьмо М. Прускага В. Кіпелю (1990).

Фата М. Кавыля, індывідуальныя і ў групах з Ю. Віцьбічам, У. І. Сядурам, Л. Юрэвічам, 4 (1947–1999).

## КАЗЕКА Я.

**Ф. 189. Воп. 2, 84 адз. зах., 725 дак., 1937–1996 гг.**[11]

***Казека Янка*** *(Іван Дарафеевіч) (1915–2000) — крытык, літаратуразнавец*

Рукапісы І. Д. Казекі. Падборка артыкулаў, літаратурных партрэтаў да зб. «Голас часу» — маш. з аўт. праўкай, расклейка з аўт. праўкай і ўстаўкамі, аўт. (1973); падборка крытычных артыкулаў да зб. «Кузьма Чорны: Старонкі творчасці» — расклейка з аўт. праўкай і ўстаўкамі (1979); падборка артыкулаў, літаратурных партрэтаў, успамінаў да зб. «Падарожжа ў маладосць» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, расклейка з аўт. праўкай (1983); падборка нарысаў да зб. «Гартаванне слова» — расклейка з аўт. праўкай і ўстаўкамі, аўт. (1984); падборка артыкулаў пра вядомых дзеячаў беларус. літ. «Прызванне» — аўтогр., расклейка з аўт. праўкай (1996), крытыка-біяграфічны нарыс, падрыхт. для перавыдання «Кандрат Крапіва» — расклейка з праўкай і ўстаўкамі (1975); артыкулы «Адам Міцкевіч», «Васіль Каваль», «Жизнь и творчество Кузьмы Черного», «Жыццё — найцікавейшая кніга», «Клапаціцца аб якасці тво-

[11] Анатацыю на воп. 1 (1946–1973) гл. Вып. 1. С. 121–122.

раў», «Любимый народный поэт» (пра Я. Коласа), «Славянские литературы в белорусских переводах», «Уладзімір Корбан», «Шлях у шырокі свет» і інш. — аўтогр., аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай (1954–1978); нататкі пра В. І. Рабкевіча і В. Небышынца (1996); даклады на юбілейных вечарах К. Крапівы, І. А. Крылова, К. Чорнага, на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі — аўтогр., аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай (1966–1969); рэцэнзіі на творы В. У. Адамчыка, П. У. Броўкі, З. Бядулі, К. Крапівы, А. М. Кулакоўскага, М. П. Лобана, Т. К. Хадкевіча, І. П. Шамякіна і інш. — аўтогр., аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай (1939–1975); заключэнні на рукапісы твораў Я. Б. Герцовіча, П. З. Калініна, А. Ф. Паўловіча і інш. — аўтарыз. маш. (1959–[1975]); успаміны пра І. П. Мележа «Падарожжа ў маладосць» — аўтогр., аўтарыз. маш. (1978). Усяго каля 127 рук.

Пісьмы І. Д. Казекі: П. С. Кабзарэўскаму (1959), Я. П. Васілёнку (1964), С. А. Пілатовічу (1966), Я. К. Цікоцкаму (1962) і інш., у аддзел культуры народнага кантролю БССР (1968), ЦК КПБ (1960), у выд-ва «Советский писатель» (1962). Усяго 14 адр.

Пісьмы І. Д. Казеку: А. М. Адамовіча 11 (1963–1966), М. І. Аляксеева (1977), А. Г. Астроўскага 2 (1982, 1983), П. П. Ахрыменкі 9 (1956–1966), Ю. К. Балтушыса (1962), М. М. Барсток (1985), П. У. Броўкі 35 (1958–1977), К. А. Буйло 64 (1960–1978), Г. М. Бураўкіна (1980), М. М. Ваданосава (1958), Э. С. Валасевіча (1955), А. С. Васілевіч (1980), З. Верас 3 (1967–1983), А. В. Вольскага (1961), В. С. Гарбацэвіча 5 (1967–1968), М. В. Гарбачова 3 (1958–1963), В. С. Гарбука 75 (1961–1986), С. З. Гаўрусёва 2 (1965, 1984), Л. А. Геніюш 5 (1967), І. І. Грамовіча 4 (1960–1980), М. А. Грамыкі 11 (1965–1967), А. С. Грачанікава (1980), І. Д. Гурскага (1964), М. П. Даніленкі (1965), А. В. Іванова 2 (1964, 1965), П. С. Кабзарэўскага 6 (1954–1960), Дз. М. Кавалёва 3 (1960–1966), У. С. Караткевіча 3 (1958–1962), Л. Л. Кароткай (1982), А. Н. Карпюка (1965), Л. А. Касіля (1961), К. Ц. Кірэенкі (1979), А. А. Куляшова 5 (1963), Ф. І. Куляшова 14 (1959–1961), С. І. Ліхадзіеўскага 4 (1961–1973), М. П. Лобана (1980), Е. Я. Лось 5 (1958–1964), М. Р. Лупсякова 4 (1948–1964), М. Ц. Лынькова 3 (1965–1974), Я. С. Мазалькова 4 (1965–1967), А. А. Макарэвіча (1965), Ц. Г. Масенкі 5 (1959–1961), А. І. Махнача (1979), Я. Непачаловіча 4 (1958–1968),

С. М. Новіка-Пяюна 5 (1962–1964), Р. В. Няхая 3 (1948–1969), А. В. Пальчэўскага (1965), П. С. Пестрака (1968), І. Х. Платнера (1957), П. К. Пранузы 4 (1964–1973), Я. Семяжона (1960), Я. Судрабкална 3 (1961–1962), Я. К. Усікава 2 (1965, 1973), Т. К. Хадкевіча (1959), Я. А. Хелемскага (1967), Р. С. Чыкавані (1963), Г. Р. Эміна (1962), А. Я. Юшчанкі (1961) і інш., пісьмы знаёмых 9 (1958–1978). Усяго каля 124 кар.

Пісьмы І. Д. Казеку ад устаноў: Магілёўскага абл. краязнаўчага музея (1968), СШ № 3 г. Мар'іна Горка (1984), рэд. часоп. «Дружба народов» 2 (1962), «На рубеже» (1954), выд-ваў «Искусство» 3 (1973), «Лениздат» (1954), «Советский писатель» 4 (1965–1967), «Художественная литература» 7 (1966–1968) і інш.

Дакументы да біяграфіі І. Д. Казекі і пра яго. Пратаколы рэд. савета мастацкай літ. выд-ва «Беларусь» (1959–1967), заявы Я. І. Бяганскай і У. І. Краўчанкі на імя І. Д. Казекі па службовых пытаннях (1959–1961), заява А. Ц. Бажко гал. рэдактару выд-ва «Беларусь» І. Д. Казеку (1966), рэцэнзіі А. М. Адамовіча, Дз. Я. Бугаёва, Р. В. Шкрабы і інш. на кнігі І. Д. Казекі — аўтарыз. маш., маш. (1957–1979), анатацыя П. С. Пестрака на аповесць В. Ільіной «Дочь дивизии» (1960).

Фота І. Д. Казекі з І. І. Грамовічам і У. І. Кандраценем (1937).

Фота П. У. Броўкі (1975), К. А. Буйло 3 [1930-я–1940-я], У. М. Дубоўкі, індывідуальныя, 2 (1962).

Фота Р. Р. Шырмы са старшынёй праўлення Саюза кампазітараў УССР А. Я. Штагарэнкам (1977).

## КАЛЕСНІК У. А.

**Ф. 161. Воп. 2, 3, 854 адз. зах., 10 335 дак., 1922–1994 гг., асобн. дак. 1995–2000 гг.[12]**

***Калеснік Уладзімір Андрэевіч*** *(1922–1994) — крытык, літаратуразнавец, празаік*

Рукапісы У. А. Калесніка. Манаграфіі: «Паэзія змагання. Максім Танк і заходнебеларуская літаратура» — маш. з аўт. праўкай (1958),

[12]Анатацыю на воп. 1 (1965–1968) гл. Вып. 1. С. 122.

«Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, маш. (1977 – [друг. пал. 1990-х]), «Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці — аўтарыз маш., маш. з аўт. праўкай, маш. ([друг. пал. 1970-х]–1979), «Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, аўтарыз. маш. з праўкай Я. Брыля ([пач. 1980-х]–1986); зб-кі літ. партрэтаў, нарысаў, артыкулаў: «Зорны спеў» — кар. з рэд. і аўт. праўкай (1975), «Лёсам пазнанае» — маш. з аўт. праўкай (1982), «Тварэнне легенды» — маш. (1984–1987), «Роднае — адвечнае» — маш. з аўт. праўкай (1992, 1994) і інш.; раздзел з «Истории советской многонациональной литературы» — «Литература Западной Белоруссии» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1961–972); нарысы: «Міхась Васілёк» — маш. (1955), «Мікола Засім» — аўт., маш. (1958), «Звяно легенды» (1959), «Алесь Салагуб і яго турэмны дзённік» — аўтогр., аўтарыз. маш. (1960, 1961), «Грозовое поле» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1971), «Фенамен Рэдкага» — аўтогр., аўтарыз. маш. [1980], «Талент працавіты» — аўтарыз. маш. (1981), «Пражскі эпісталярый» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1990–1992); артыкулы: «З лістоў Леапольда Родзевіча да Уладзіміра Жылкі» — аўтогр., маш. [1970-я], «Іскрыны роднасці. Перапіска І. С. Дварчаніна з У. А. Жылкам» — аўтарыз. маш., аўтарыз. маш. з аўт. праўкай (1974–[1970-я]), «Лёсу наперакор» (пра У. А. Жылку) — аўтогр., маш. з аўт. праўкай [пач. 1990-х], пра жыццё, творчасць Н. А. Арсенневай, Я. Брыля, М. А. Засіма, І. У. Канчэўскага, А. А. Куляшова, Я. Купалы, П. В. Мядзёлкі, А. В. Пысіна, Ф. Скарыны, М. Танка, В. П. Таўлая, С. Хмары і інш. (1953–1994); артыкулы для біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» пра В. Адважнага (Я. Германовіча), Я. Брыля, М. Васілька, П. Граніта, У. А. Жылку, М. А. Засіма, М. Канановіча, М. А. Машару, М. М. Рудкоўскага, М. Танка, В. П. Таўлая, М. Явара і інш. — ([кан. 1980-х]–1990), да юбілеяў пісьменнікаў М. Васілька, А. Гаўрылюка, Н. С. Гілевіча — выр. з друкав. выд. (1956–1994); артыкулы на літаратуразнаўчыя тэмы: «Помнікі вечнай дружбы» — маш. (1954), «Да пытання аб тыпалагічных асаблівасцях беларускага рамантызму» — маш. з аўт. праўкай

краін 419 [1970-я–1990-я]; эскізы паштовак да 1000-годдзя Беларусі і 100-годдзя Івана Луцкевіча 11 (1980–1981). Усяго 603 мал.

Рэпрадукцыі і фотакоп. работ Я. С. Куліка: аўтапартрэты 13 ([др. пал. 1940-х–1950-я]–1981); малюнкі серый «Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны» (1974), «Да 1000-годдзя Беларусі» (1980), «Вандроўкі па Беларусі» (1981–1998) і інш. 46.

Ілюстрацыі да кніг М. А. Багдановіча, А. В. Вольскага, В. В. Зуёнка, Эно Рауда і інш. — друкав. выд., выр. з часоп., рэпрадукцыі. Усяго 200 (1963–1990).

Рукапісы Я. С. Куліка. Артыкулы і нататкі, прысвеч. дзеячам беларус. гісторыі, праблемам заходнебеларус. архітэктурнай спадчыны і інш. (1972–1990); рэцэнзіі: на артыкул, прысвеч. 600-годдзю Куліковай бітвы, пасляслоўе В. І. Дашкевіча да паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра» і інш. (1977–[1980-я]); выступленні на абмеркаванні праектаў па будаўніцтве тэатра імя Я. Купалы і інш. (1975–1997); гістарычныя даведнікі, храналогія і інш. (1981–1994); біяграфічныя ўспаміны пра 1944–1947 гг. і інш.; спісы выданняў, афармленных Я. С. Кулікам (1980–1993). Усяго каля 109 рук.

Пісьмы Я. С. Куліка: В. У. Быкаву (1984), З. Верас 3 (1980), А. А. Марачкіну (1978), З. Ф. Санько (1987), В. М. Целешу 2 (1980, 1989), В. П. Шаранговічу (1979), Л. Дз. Шчамялёву (1979); у рэд. газ. «Вячэрні Мінск» 2 (1972), у муз. рэд. Беларускага радыё 2 [1970-я], членам Канстытуцыйнай камісіі БССР [1978] і інш. Усяго 21 адр.

Пісьмы Я. С. Куліку: мастакоў І. В. Астафійчука 12 (1974–1986), В. В. Бутрыма (1976), В. А. Дубінкі 5 (1980–1987), І. М. Крыславіча 3 (1974–1975), М. М. Купавы 5 (1973–2000), А. А. Марачкіна 2 (1982, 1996), У. І. Паладзенкі (1976), І. І. Пешкура (1976), С. С. Свістуновіча 17 (1980–1985), П. А. Сергіевіча 3 (1976), А. М. Тычыны (1972), К. І. Харашэвіча 6 (1976–1997), В. М. Целеша 42 (1974–1987), Я. М. Ціхановіча (1977), А. С. Шатэрніка 2 (1998, 1999) і інш.; гісторыкаў, калекцыянераў, мастацтвазнаўцаў М. У. Верацілы 4 (1984–[1991]), З. Верас 8 (1979–1982), Т. Г. Гаранскай 3 (1984–1993), Э. Д. Гетманскага (1984), А. А. Грынчанкі (1977), М. І. Ермаловіча (1975), А. К. Каўкі 3 (1987), Г. А. Каханоўскага (1977), В. Кісараўскаса

(1979), Г. А. і Л. А. Луцкевічаў 4 (1978–1983), В. М. Манжулы 2 (1972), Б. С. Мельнікава 4 (1979–[1989]), І. В. Назімавай (1988), З. С. Пазняка 4 (1984), В. К. Палікарпава 11 (1971–1987), В. Ф. Панкратава 2 (1973, 1974), П. В. Садоўскага (1981), З. Ф. Санько 11 (1973–2001), Я. Семяжона (1979), М. А. Ткачова (1984), Дз. Ц. Чаркасавай (1988) і інш.; сваякоў, сяброў і знаёмых: У. Ф. Баскава 2 (1967, 1974), Т. С. Мінкевіч (сястры) 2 (1995), М. Ц. Міхедава 5 (1972–1974) і інш. Усяго 65 кар.

Пісьмы Я. С. Куліку ад устаноў: выд-ваў «Беларусь» (1980), «Беларуская савецкая энцыклапедыя імя П. Броўкі» 8 (1979–1999), «Мастацкая літаратура» 9 (1975–1979); Беларускага фонду культуры 2 [1980-я], гандлёвага цэнтра «Марка» (1990), Дабраахвотнага аб'яднання аматараў кнігі БССР (1978), Дзярж. гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» 3 (1988–1992), Літаратурна-краязнаўчага музея Гудзевіцкай СШ 4 (1981–1984), Саюза мастакоў БССР 6 (1974–1987), творчай суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў 3 (1995–1999), Шушанскай народнай карціннай галерэі 16 (1976–1992) і інш. Усяго 40 кар.

Візітныя карткі дзеячаў культуры Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, навукоўцаў, пісьменнікаў, кіраўнікоў устаноў і інш. 65 [1990-я].

Дароўныя надпісы і аўтографы Я. С. Куліку: І. В. Астафійчука, Я. Я. Батальёнка, В. А. Грамыкі, Л. Я. Жогаль, М. А. Карпюка, С. Дз. Лі, А. А. Марачкіна, В. П. Маркавец-Бартлавай, А. І. Мемуса, У. А. Мінейкі, А. А. Скавародкі, А. М. Тычыны, М. Ф. Чэпіка на буклетах і каталогах сваіх выставак; У. П. Кульваноўскага, С. М. Новіка-Пяюна, З. С. Пазняка, Я. Сажыча, С. М. Станюты на запрашэннях на вечарыны і выстаўкі; Л. Э. Бартлава, П. М. Драчова, М. І. Ермаловіча, І. Х. Капеляна, Т. В. Маркавец, А. С. Разанава, М. Ф. Раманюка, В. М. Целеша, А. С. Шатэрніка на сваіх артыкулах, вершах, мал. і інш. (1968–2000). Усяго 100.

Дакументы да біяграфіі Я. С. Куліка (1949–2000). Пасведчанне аб нараджэнні (1954) — коп.; дак-ты аб вучобе ў пачатковай школе № 48 г. Мінска: асабовая справа, пахвальная грамата, пасведчанне аб заканчэнні (1949–1952); дак-ты аб вучобе ў Мінскім мастацкім вучылішчы: дыплом аб заканчэнні і інш. (1956–1957); дак-ты аб ву-

чобе ў БДТМІ: студэнцкі білет, абходны ліст, дыплом аб заканчэнні (1962–1963); дыпломы І і ІІ ступені Беларускага рэспубліканскага конкурсу і ІІ ступені Усесаюзнага конкурсу «На лепшыя выданні па мастацка-тэхнічным афармленні і паліграфічным выкананні» і інш. (1967–1989); членскія білеты Саюза мастакоў СССР, Беларускага саюза мастакоў і інш. (1966–[1990-я]); запрашальныя білеты на выстаўкі, творчыя вечары, канферэнцыі і інш. (1963–2001); аўтабіяграфіі (9) і біяграфічныя запісы 10 ([1960-я]–1998); дак-ты аб дзейнасці ў складзе Саюза мастакоў БССР і Беларускага саюза мастакоў: заявы, звароты, дак-ты аб арганізацыі і ўдзеле ў маст. выстаўках, прысвеч. 100-годдзю з дня нараджэння Цёткі, 75-годдзю з дня нараджэння П. А. Сергіевіча, 100-годдзю з дня нараджэння Я. Драздовіча і інш. (1958–1998); дак-ты аб працы ў складзе Камісіі па народным мастацтве і рабоце з народнымі майстрамі пры Саюзе мастакоў БССР: справаздачы за 1971–1981 гг., пратаколы пасяджэнняў за 1977–1981 гг., планы працы на 1980 і 1981 гг., дак-ты аб правядзенні выставак твораў В. У. Альшэўскага, Ф. Я. Дудо, А. Ф. Пупко і інш. (1971–1983); дак-ты аб дзейнасці ў складзе творчай суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў: запрашэнні і кн. водгукаў выставак «Адраджэньне», «Беларускія маляванкі», «Ценем Касцюшкі» і інш. (1991–2002); дак-ты аб працы ў часоп. «Бярозка»: друкав. выд. і дак-ты гісторыка-культурнага конкурсу «Беларуская ластаўка», падрыхт. Я. С. Кулікам (1976–1997); дак-ты аб дзейнасці ў ЗБС «Бацькаўшчына»: анкета ўдзельніка ўстаноўчай канферэнцыі, запрашэнні на пасяджэнні Рады і інш. (1990–1995); дак-ты аб удзеле ў І і ІІ з’ездах беларусаў свету: картка рэгістрацыі, пасведчанне дэлегата і інш. (1992–1997); дак-ты аб удзеле ў святкаванні 200-годдзя паўстання 1794 г. (1993–2000) і інш.; дак-ты аб удзеле ў абароне помнікаў гісторыі і культуры г. Мінска (1969–2000); дак-ты экспедыцыйнай дзейнасці: палявыя запісы, планы-схемы раёнаў вывучэння, фота помнікаў драўлянага сакральна-манументальнага дойлідства, жылых і гаспадарчых пабудоў і інш. [1970-я–1990-я].

Віншавальныя паштоўкі, тэлеграма і інш. В. У. Быкава, В. А. Дубінкі, А. К. Каўкі, В. П. Маркаўца, В. К. Палікарпава, З. Ф. Санько,

Ю. В. Хадыкі і інш., вершы-віншаванні Р. І. Барадуліна, С. С. Панізніка і інш.; маст. віншаванні Г. Г. Сокалава-Кубая, сяброў творчай суполкі «Пагоня» і інш. у сувязі з 50-, 55- і 60-годдзем з дня нараджэння Я. С. Куліка (1987–1997).

Дакументы маёмасна-гаспадарчага характару: заявы на выдзяленне новай майстэрні, аб пераводзе ганарару за афармленне падручніка «Беларуская мова для 1-га класа» (1969) і інш. (1966–2001).

Вершы У. Г. Пецюкевіча, А. С. Разанава, С. С. Свістуновіча, прысвеч. Я. С. Куліку (1980); артыкулы Т. Г. Гаранскай, Г. Г. Сокалава-Кубая, Дз. Ц. Чаркасавай і інш. пра Я. С. Куліка (1975–2002); інтэрв'ю (1982–1993). Некралогі Я. С. Куліка (2002), запрашэнні і буклеты выставак Я. С. Куліка (2005–2018) і інш.

Дакументы, сабраныя Я. С. Кулікам. Артыкулы, нататкі і інш. аб беларус. і інш. замках і палацах, беларус. сакральнай архітэктуры, па гісторыі беларус. кнігадрукавання, беларус. гісторыі, культуры, тапаніміцы, філатэліі і інш. (1910–2000); фота, мал. і фотакоп. беларус. замкаў і палацаў, старонак друкав. выд. і інш. [1960-я–1980-я]; дак-ты мастакоў і пра іх: Я. Драздовіча, М. М. Купавы, П. А. Сергіевіча, М. К. Сеўрука, Г. Г. Сокалава-Кубая, В. П. Сташчанюка і інш. (1930–2001); народных майстроў і пра іх: А. Ф. Пупко, А. Кіш і інш. (1975–1986), пісьменнікаў і пра іх: М. А. Багдановіча, У. А . Жылкі, Л. А. Геніюш (1965–2000), навукоўцаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў і інш.: А. А. Бембеля, М. І. Ермаловіча, З. С. Пазняка і інш. (1970–2001); дак-ты аб вядомых асобах, лёсам ці паходжаннем звязаных з Беларуссю, прадстаўнікоў беларус. дыяспар (1964–1995); буклеты, бюлетэні і інш. (1968–1995).

Л. Э. Бартлаў. Партрэт Я. С. Куліка. Замалёўка — алов. (1993).

Я. М. Ціхановіч. Экслібрысы Я. С. Куліка — сухая іголка [1980-я–1990-я].

Фота Я. С. Куліка, індывідуальныя, 32 (1941–1995), у групах: з Т. С. Мінкевіч (сястрой) і В. Мінкевіч (пляменніцай) (1991) — коп.; з аднакласнікамі і аднагрупнікамі і інш. 4 (1949–1958) – коп.; фота сваякоў: С. Г. Куліка (бацькі), В. А. Кулік (маці) і інш. (пач. 1930-х –

пач. 1970-х) — коп.; фота Я. С. Куліка з Л. П. Баршчэўскім, У. С. Басалыгам, В. У. Быкавым, Т. Г. Гаранскай, Данчыкам, У. С. Караткевічам, М. Т. Кляшторнай, М. М. Купавам, Р. М. Лубкіўскім, А. В. Мальдзісам, А. А. Марачкіным, В. П. Маркаўцом, а. Янам Матусевічам, а. Аляксандрам Надсанам, У. П. Някляевым, З. С. Пазняком, А. С. Разанавым, М. Ф. Раманюком, Р. С. Сітніцам, М. М. Ткачовым, М. М. Чарняўскім, А. С. Шатэрнікам, Л. Дз. Шчамялёвым і інш. 118 (пач. 1970-х–1998).

Фотакалаж «Яўген Кулік і яго час», складзены з фота Я. С. Куліка, індывідуальных і ў групе з М. С. і У. С. Басалыгамі, Л. А. Геніюш, М. М. Купавам, А. А. Марачкіным, В. П. Маркаўцом, М. М. Ткачовым, М. М. Улаш-чыкам і інш. 32 [сяр. 1980-х].

Фота экспазіцыі выстаўкі твораў Я. С. Куліка (2005).

Фота членаў мінскага футбольнага клуба «Спартак» [1950-я]; М. І. Ермаловіча, М. Тананушкі (1974); І. М. і М. М. Міцкевічаў (брата і сястры Я. Коласа) [1970-я]. Усяго 6.

Фота кадраў маст. фільма «Житие и вознесение Юрася Братчика» («Беларусьфільм», рэж. У. С. Бычкоў, аўтар сцэн. У. С. Караткевіч) з акцёрамі: Д. Баніёнісам, Б. Бейшаналіевым, [Л. Б. Круглым], А. С. Смірновым, Е. А. Уваравай і інш. 14 (1967).

Выявы вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх Аляксандра Ягелончыка, Жыгімонта Старога, Жыгімонта ІІ Аўгуста і інш.— ксеракоп. мал.; малюнкі па гісторыі адзення XVII–XIX стст. — ксеракоп. [1990-я]. Усяго 38.

Фотатэка Я. С. Куліка: археалагічныя знаходкі, прадметы нумізматыкі XI–XVI стст. — арыгіналы і коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. (1982–[1990-я]); малюнкі-рэканструкцыі воблікаў дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і інш. IX–XII стст. — рэпрадукцыі (1965–1986); гарадзішчы VII–V стст. да н. э. на тэрыторыі Беларусі, Малдовы, Польшчы, паселішчы X ст. на тэрыторыі Даніі, Паўночнай Германіі, Швецыі і інш., старажытнае жытло IX–XIII стст., вераванні, пахаванні і інш. — арыгіналы і коп. фота, фотакоп. і рэпрадукцыі мал. (1950–[1990-я]); замкі Беларусі, Латвіі, Польшчы і інш. XIII–XVII стст. — арыгіналы і коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. [да 1914–1990-я]; маёнткі, фальваркі і інш. XVIII–XIX стст., звязаныя з жыццём і дзейнасцю

вядомых родаў і іх прадстаўнікоў — коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. [да 1917–1990-я]; грамадская і сакральная архітэктура Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы і інш. XI – пач. XX стст. — арыгіналы і коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. (1930–[1990-я]); страчаныя помнікі архітэктуры Беларусі і інш. XII – п. п. XX стст. — коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. [кан. 1930-х–1990-я]; гарады Беларусі, Літвы, Польшчы і інш. на гравюрах і мал. М. Іванова, Б. Лаверні, Т. Макоўскага, Ю. Пешкі, Дз. Струкава і інш. — рэпрадукцыі і фотакоп. [1980-я–1990-я]; малюнкі-рэканструкцыі гарадоў Беларусі XIII–XVII стст., Кіеўскай Русі XI–XIII стст., Польшчы VIII–XI стст. і інш. — рэпрадукцыі і фотакоп. (1982–[1990-я]); гістарычныя падзеі, іх удзельнікі і інш.: удзельнікі паўстанняў 1794 г., 1830/31 гг, 1863/64 гг., падзеі Першай (1914–1918) і Другой (1939–1945) сусветных войн на беларус. землях; палітычныя карты краін Еўропы VI–XIII стст., старажытных зямель Беларусі XI–XIII стст., ВКЛ XIII–XVIII стст., РП XVI ст. і інш. — коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал. [пач. XX ст. – 1990-я]; адлюстраванне гістарычных падзей ў кіна- і тэатральным мастацтве і інш.; гістарычныя падзеі XIV–XIX стст. у Беларусі і краінах Еўропы на гравюрах і малюнках К. Альхімовіча, П. Геса, Я. Дамеля, І. Зімлера, Я. Матэйкі, Ж. Месанье, К. Мілера, Я. Сухадольскага і інш. — рэпрадукцыі і фотакоп. (1929–[1990-я]); партрэты гістарычных асоб Беларусі, Расіі, Украіны, Заходняй Еўропы і інш. XI–XX стст.: дзярж., палітычныя і інш. дзеячы (прадстаўнікі кіруючых дынастый, магнацкіх і шляхецкіх родаў Полацкага княства, Кіеўскай Русі, ВКЛ і РП і інш.) — коп. фота, гравюры і мал., рэпрадукцыі і фотакоп. (1925–[1990-я]); рэлігійныя і царкоўныя дзеячы Полацкага княства, Кіеўскай Русі, ВКЛ і РП і інш. — гравюры і мал. [1980-я–1990-я]; дзеячы культуры, маст-ва, навукі і інш. Беларусі, Расіі, Украіны і Заходняй Еўропы XV–XX стст. — гравюры і мал., рэпрадукцыі і фотакоп. (1884–[1990-я]); малюнкі і фота з выявамі вопраткі, абутку, галаўных убораў і інш. розных сацыяльных і этнічных груп Беларусі і інш. краін свету — рэпрадукцыі і фотакоп. (1942–[1990-я]); малюнкі і фота амуніцыі, зброі і інш. Беларусі, Расіі, Украіны і Заходняй Еўропы V–XVIII стст. — рэпрадукцыі і фотакоп. [1970-я–1990-я]; маст-ва

кнігі, друк. справа, гісторыя пісьма — мал. і фота, рэпрадукцыі і фотакоп. (1979–[1990-я]); малюнкі і фота з выявамі сакральнага мастава Беларусі, Расіі, Украіны і краін Еўропы — рэпрадукцыі і фотакоп. (1971–[1990-я]); камяні-помнікі і інш. — арыгіналы і фотарэпрадукцыі, рэпрадукцыі мал. (1967– пач. 1990-х); малюнкі і фота з выявай «Пагоні» на пячатках XIII–XX стст., гербах ВКЛ XIV–XVI стст., манетах і кафлі XVI–XVII стст. і інш. — арыгіналы і коп. фота, рэпрадукцыі і фотакоп. мал., паштоўкі (1918, [1970-я–1980-я]); людзі, гарады і інш. на гравюрах і малюнках XV–XX стст. — рэпрадукцыі і фотакоп. (1965–[1990-я]).

Фота і малюнкі, сабраныя Я. С. Кулікам у час працы над фотатэкай: фота і малюнкі архітэктурных помнікаў XII–XIX стст. Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей і інш.— арыгіналы, коп. і рэпрадукцыі (1957–[1970-я–1980-я]); фота і малюнкі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі да артыкулаў у часоп. «Мастацтва», «Спадчына» і інш. (1971–1993); малюнкі архітэктурных помнікаў Аўстрыі, Беларусі, Ватыкана, Ізраіля, Польшчы, Расіі, Турцыі і інш. — рэпрадукцыі і фотакоп. [кан. XIX – пач. XIX]–[1980-я–1990-я]; паштоўкі з выявамі Баранавіч, Барысава, Брэста, Вільні, Віцебска, Гомеля, Гродна і інш. і архітэктурных помнікаў Мінска [1970-я–1980-я]; малюнкі гістарычных падзей XV–XVIII стст. ў Беларусі і ў краінах Еўропы [1980-я–1990-я]; малюнкі і фота грамадскіх, палітычных, рэлігійных дзеячаў, мастакоў, навукоўцаў і інш. Беларусі, Польшчы, Расіі, Францыі — арыгіналы, коп. і рэпрадукцыі (1907–[1980-я–1990-я]); малюнкі з выявамі вопраткі розных сацыяльных і этнічных груп — рэпрадукцыя і фотакоп. [1980-я–1990-я]; мал. артылерыйскіх гармат XII–XVII стст., ілюстрацыі да кн. Д. Эрліха і К. Семяновіча «Der Grossen Artillerie Feuerwerck und Buchsenmeisterey» («Вялікая [кніга] артылерыйскага і стралковага мастацтва») і інш. — рэпрадукцыі ([1980-я]–1993); фота абразоў і мазаікі з выявамі Ісуса Хрыста і святых, мал. з выявамі каталіцкіх і праваслаўных святых і інш. — рэпрадукцыі (1976–[1990-я]); выявы гербаў беларус. ваяводстваў (1918) і інш. — паштоўкі, каляндарык, наклейка, рэпрадукцыі ([1970-я–1980-я]–1998); гравюры XVI ст.

са сцэнамі паўсядзённага жыцця еўрапейцаў — фотакоп. [XX ст.]; фотакоп. сялян Плешчынскага раёна Мінскай акругі [1924–1930].

Рукапісы беларускіх аўтараў др. пал. XIX – п. п. XX стст. Вершы: У. Дудзіцкага «Клятва духу» — маш. [1970-я–1980-я], У. Клішэвіча «Васілёк» — маш. (1968), Т. Лебяды «Песні выгнання» — маш. (1977) і інш.; п'есы: Ф. К. Аляхновіча «Круці, ня круці — трэба памярці» — аўт. неўст. асобы (1943); П. Булгака «У паганую часіну» — маш. з нязнач. праўкай неўст. асобы (1943), Е. А. Міровіча (Дунаева) «Каваль-ваявода» — маш. (1943), Я. С. Рамановіча «Вір» — маш. з праўкай (1926); опера М. М. Куліковіча-Шчаглова па лібрэта Н. А. Арсенневай «Князь Усяслаў Полацкі» — клавір (1944); пераклады: М. К. Ільінскага п'есы Мальера «Лекар мімаволі» з фр. м. — маш. з нязнач. праўкай неўст. асобы [1940], [Я. Коласа] вершаў і афарызмаў Р. Тагора «Вогніва, сэрца ты ўспламяні!...», «Два імкненні», «Калі вады набраць ты захочыш…» і інш. з бенгал. м. — маш. коп. [1926].

Рукапісы беларускіх аўтараў др. пал. XX ст. Вершы: А. А. Бембеля «Нашчадкам Скарыны, Каліноўскага, Караткевіча» — маш. [1970-я–1990-я], І. А. Паўлоўскага «Уцякач» — маш. [1980-я–1990-я], А. Ц. Сыса «Дзікі мёд» — маш. [1980-я]; паэмы: Н. С. Гілевіча «Сказ пра Лысую гару» — маш. (1988), А. С. Разанава да зб. «Каардынаты быцця» і інш. — рук. [Я. С. Куліка], маш. з праўкай, маш. (1976); артыкулы А. А. Бембеля, Л. А. Луцкевіча, У. М. Міхнюка, А. Сапяжанкі, П. А. Сергіевіча — маш., маш. коп. (1966 – [пасля 1995]); выступленні В. У. Быкава на V з'ездзе беларускіх пісьменнікаў — маш. (1966) і інш.

Беларускія друкаваныя выданні: «Koladnaja pisanka na 1904 hod» — літ.-маст. альманах, выд. гектаграфічным спосабам (СПб, «Круг Беларускі», 1903), «Зямельная справа ў Новай Зэляндии», пераклад з укр. на беларус. мову А. М. Уласава (Вільня, 1907); «Biełaruski kalendar «Našaje Niwy» na 1911 hod» (Вільня, 1911); «Праграмы для паступленьня ў Беларускія гімназіі» (Вільня, 1925); «Паводле Лукі сьв. Эвангельле», пераклад Л. Дзекуць-Малея і А. Луцкевіча (Лодзь, 1926); «25 сакавіка. Часопіс беларускіх студэнтаў» № 1, 1939); «25-лецьце Беларускае Гімназіі у Вільні 1919–1944» (Вільня, 1944); М. А. Багдановіч «Вянок» — зб. паэзіі (Вільня, 1927);

Я. Быліна «Na pryžbie» — зб. паэзіі (Вільня, 1924), «Wybary staršyni» — п'еса (Вільня, 1926); кс. Вінцэнт Гадлеўскі «Historyja świataja abo biblijnaja Nowaha Zakonu (z 36 rysunkami ŭ tekście i 2 kartami)» (Вільня, 1932/1933); К. М. Галкоўскі «Лугам, лугам зеляненькім…» — беларускі раманс для контральта з фартэп'яна на сл. Ясакара (Вільня, 1928); А. Гарун «Матчын дар. Думы і песьні 1907–1914 гг.» — зб. вершаў (Менск, 1918); М. І. Гарэцкі «Рунь» — зб. апавяданняў (Вільня, 1914); В. Дунін-Марцінкевіч «Hapon» — аповесць (СПб, 1907/1908); Я. Купала «Huślar» — зб. паэзіі (СПб, 1910), «Сон на кургане» — п'еса (СПб, 1912), «Шляхам жыцьця» — зб. паэзіі (СПб, 1913) і інш.; В. Ю. Ластоўскі (Власт) «Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі». (Вільня, 1910), «Падручны Расійска-Крыўскі (Беларускі) слоўнік» (Коўна, 1924); А. І. Луцкевіч (Антон Навіна) «Янка Купала як прарок Адраджэння (публічная лекцыя, чытаная ў Вільні, Рызе і Дзьвінску)» (Вільня, 1932) і інш.; А. Міцкевіч «Pan Tadeusz» — паэма ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча з пол. на беларус. м. (СПб, 1907/1908); В. Ф. Нікановіч-Сахарава «На Полацкім замчышчы» — п'еса (няпоўны тэкст) (1928); Л. М. Рагоўскі «А хто там ідзе?» — песня для голасу на словы Я. Купалы — друкав. выд. «Нашае нівы» (Вільня, 1910); А. А. Смоліч (А. Ж., Арцём Жывіца) «Беларуская соцыяль-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданьні. Популярны выклад праграмы» (Мінск, 1919); кс. Адам Станкевіч «Franciš Bahušewič. Jaho žyćcio i tworčaść» (Вільня, 1930), «Božaje słova na niadzieli i śviaty» (Вільня, 1938) і інш.; Б. А. Тарашкевіч «Беларуская граматыка для школ (выданьне пятае перароблenae і пашыранае)» — падручнік (Вільня, 1929); кс. Віктар Шутовіч «Majovaja čytanka (Ab viery, nadziei i lubovi)» (Вільня, 1940); «Да беларускага грамадзянства і беларускіх устаноў у краі і заграніцай» — адозва Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні з просьбай ахвяраваць на Дом Беларускае Культуры ў Вільні — лістоўкі [1918–1939]; «Звароты да гарнізона і грамадзян г. Мінска камендантa горада капітана І. Матушэўскага і начальніка штаба камендатуры польскіх войскаў В. Порай-Бернацкага» — лістоўкі (1918) і інш.

Ксеракопіі выданняў беларускіх аўтараў: Я. Баршчэўскі «Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach»

(«Шляхціч Завальня ці Беларусь у фантастычных апавяданнях») — зб. апавяданняў на пол. м. Т. 1–4. (Пецярбург, 1844–1845); М. Гусоўскі «Carmen de statura feritate ac venatione bisontis» («Песня пра моц, дзякунства зубра і паляванне на яго») — паэма на лат. і рус. м. (1855); І. С. Дварчанін «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году) для старэйшых клясаў беларускіх сярэдніх школ» (1927); У. М. Ігнатоўскі «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця» (Мінск, 1925); М. Шчакаціхін «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва». Т. 1 (Мінск, 1928); Я. Шутовіч «Ксёндз Адам Станкевіч: у 25-я угодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.1.1915–19.1.1940)» — зб. артыкулаў, успамінаў і інш. (Вільня, 1940); «Інструкцыя як дамагацца дзяржаўнай публічнай беларускай школы» (Вільня, 1936) і інш.

Беларускія перыядычныя выданні: газ. «Беларуская крыніца» (№ 32, 1935), «Беларуская справа» (№ 29, 1926), «Шлях моладзі» (№ 16, 1938) і інш. (на беларус. і пол. м.); ксеракоп. часоп. «Божым шляхам» (№ 2–3, 1973–1974), «Беларускі голас» (травень 1974); газ. — «Зьвязда» (№ 279, 282, 283 і 291, 1930 і № 90, 1931), «Настаўніцкая газета» (№ 26, 1947) і інш.; ксеракоп. газ. «Наша Доля» (№ 1–6, 1906), газ. «Наша Ніва» (№ 1–6, 1920); «Кароткая гісторыя Беларусі (па Кіркору)» — канвалют ксеракоп. нумароў газ. «Наша Ніва» за 1910 год, газ. «Родны край» (№ 1–25, 1933 і № 1–8, 1934), «Słówo» («Слова») (№ 344 і 353, 1933) на пол. м. і інш.

Перыядычныя выданні, абвесткі, плакаты, лістоўкі і інш. перыяду нямецка-фашысцкай акупацыі (1942–1944).

Калекцыя гістарычных дакументаў: перадшлюбныя пасведчанні на імя В. Ф. [Белауса] і Ф. Л. Шпака, выд. святаром Свята-Троіцкай царквы ў м. Лявонпаль (Віленская губ.) — аўт. (1887); «Клировые ведомости» цэркваў Святога Архістратыга Міхаіла пры Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, Святога Георгія Перамоганосца ў в. Хожава і інш. Маладзечанскага благачынія (Віленскай губ.) — аўт. святароў (1903–1909); абвестка аб зборы ахвяраванняў на будаўніцтва касцёла ў п. Зэльва (Гродзенская губ.) на пол. м. — аўт. Віленскага біскупа Э. де Ропа, маш. (1914) і інш.; метрычная кн.

праваслаўнага прыхода ў [Польшчы] з запісамі за 1882–1938 гг. на пол. і рус. м. — разрозненыя с.; «Інвентарная кніга музея імя Івана Луцкевіча Беларускага навуковага таварыства ў Вільні» за 1922–1941 гг. — рук. А. І. Луцкевіча і інш.; «Инструкция для о.о. Наблюдателей за преподаваніемъ Закона Божія православного исповеданія въ низшихъ и среднихъ, государственныхъ и частныхъ учебныхъ заведеніяхъ Польской Республики» на пол. і рус. м. — друкав. выд. (1930), «Пасланьне Яго Блажэнства Мітрапаліта Діонісія з нагоды пятнаццацігоддзя незалежнасьці Польскага Гаспадарства 1918 $\frac{11}{XI}$ 1933» на беларус., пол., рус. і ўкр. м. — маш. (1933) і інш.; чарнавікі падлікаў прыбыткаў ад трэб за 1949 год, пісьмы з віншаваннем з Узнясеннем Гасподнім і інш. — аўт. неўст. асоб (1943–1949) і інш.

Калекцыя картаграфічных матэрыялаў: гравюры і малюнкі з планамі беларус. гарадоў Быхава, Гродна, Крычава, Ліды, Ляхавіч, Мінска, Полацка XVI–XVIII стст. і еўрап. гарадоў Амстэрдама, Брэслава, Лодзі, Рыгі і інш. на ням., пол., рус. м. — рэпрадукцыі і фотакоп. ([кан. XIX – пач. XX]–[1970-я–1980-я]); карты і фрагменты карт з беларускімі і расійскімі тэрыторыямі: ваколіц Вільні, Мсціслаўскага раёна і інш. ([пач. XX]–[1960-я]), карт замежных краін XVI–XX стст. Англіі, Ісландыі, Даніі, Нарвегіі, Швецыі і інш. на англ., ням., рус. і фр. м. — выр. і ўклейкі з друкав. выд., фотакоп. (1807–[1970-я – 1980-я]); калекцыя этнаграфічных дакументаў: фота Я. Булгака з серыі «Polska w obrazach fotograficznych. Kresy» («Польшча ў фатаграфічных выявах. Ваколіцы»), фота гандлёвай плошчы, музычнага квартэта, пчаляра, сялян у час жніва і інш. з м. Мілейчыцы (Падляскае ваяводства, Польшча) і інш. ([1930-я]–1942).

Замежныя выданні, публікацыі, рукапісы і інш.: І. Даўніене «Paryziaus Lituanus» («Парыжскі Літувіс») — артыкул з часоп. «Kulturos barai» («Культура і мастацтва») (№ 8, 1976) — аўт. неўст. асобы (Літва), А. Р. Бергман «Antoni Luckiewicz (1884–1946). Szkic biograficzny» («Антон Луцкевіч (1884–1946). Біяграфічны нарыс») — ксеракоп. з часоп. «Przeglad historyczny» («Гістарычны агляд») (№ 4, 1974) і «Bibliografia prac poświęconych problematyce

północnego wschodu Polski międzywojennej w związku z kwestią białoruską» («Бібліяграфія прац, прысвечаных праблематыцы паўночнага ўсходу міжваеннай Польшчы ў сувязі з беларускім пытаннем») — буклет на пол. м. (1978), Ц. К. Норвід «Bialoruś, Bialoruś …» («Беларусь, Беларусь…») — абразок. — рук. коп. неўст. асобы [1970-я] (Польшча); У. Я. Жабацінскі «Фельетоны» (Санкт-Пецярбург, 1913) — маш. коп., М. П. Кудраўцаў «Судьба русской столицы» — нарыс аб архітэктурнай палітыцы савецкай улады — маш. (1971); М. В. Леўчанка «История Византии: краткий очерк» — фрагмент друкав. выд. (1940), С. Ф. Платонаў «Прошлое русского севера» (1923) — друкав. выд. і інш. (Расія).

Мастацкая калекцыя: гравюры і рэпрадукцыі малюнкаў мастакоў Аўстрыі — І. Клауса, Ф. К. фон Паўзінгера, М. Л. фон Швінда, Беларусі — Л. М. Асядоўскага, Н. М. Воранава, М. В. Данцыга, А. С. Казлоўскага, А. М. Кашкурэвіча, М. А. Савіцкага, Т. Стагановіч, У. І. Стальмашонка, Л. Дз. Шчамялёва і інш., Бельгіі — П. Я. ван Аўдэра, А. Картэ, П. Лаутэра, К. М. Менье, А.-Э.-Л. Стэвенса і інш.; Венгрыі — Дз. Бенцура, П. Ш. Мерсе, А. Феньеша; Вялікабрытаніі — Э. Бандзі, О. Бёрдслея, Э. Бёрн-Джонса, Р. А. Бэла, А. Мак-Брайда, Д. Г. Расэці і інш.; Германіі — Г. Беера, П. Берэнса, Ж.-Э. Буланда, В. Вегенэра, Х. Ветцэля, Г. Гальбейна, Л. фон Гофмана і інш., ЗША — Т. Б. Алена, О. Брыгса, Б. Піка, Э. Раскін, М. Сендака і інш., Іспаніі — Эль Грэка, Д. В. Дзіаса; Італіі — Фра Анджэліка, Дж. Беліні, Р. Гутуза, Літвы — В. Валюса, В. Гальдзікаса, С. Красаўскаса, А. Кучаса, А. Манукайтэ і інш.; Нідэрландаў — П. Брэйгеля Старэйшага, Я. ван дэр Меера, В. Вёрнле, Я. ван Гойена, Г. М. Грэкса, А. ван Дэйка, Я. Торапа, Ф. Хальса і інш.; Польшчы — М. Э. Андрыёлі, Р. Бонга, Г. Дабжыцкага, Ю. Мышыньскага, Г. Пёнткоўскага, П. Стахевіча, Ю. Хелмоньскага і інш.; Расіі — Ф. А. Броннікава, В. М. Васняцова, І. С. Горушкіна-Саракапудава, В. М. Несцерава, І. М. Паўлава, І. Я. Рэпіна, В. А. Сярова і інш.; Францыі — М. Аранжа, [Ж.-Ф.] ле Баса, Л.-М. Бутэ дэ Манвэля, [М.-А.] Мансіё, [С.] Норманда, Э. Саду, мадам Сойер, [Ж.-А.] Фрагапара, Д. Цісо і інш.; Швейцарыі — Ё. Амана, А. Вельці, П. Жырардэ; Японіі — М. Окё, Ц. Фудзіты і інш. — арыгіналы, выр. і ўклейкі з газ.

і часоп., друкав. выд. ([1874]–XX ст.); маст. газ. і часоп.: «Daheim» («Дома») (№11 / 12, 1942), «Die Kunst dem Volke» («Мастацтва народу») (№ 9, 1912), «Moderne Kunst» («Сучаснае мастацтва») (1895–1896) (Германія), «Wendingen» («Інверсія») (1919, 1923) (Нідэрланды), «Kłosy» («Каласы») (том XXXI, № 783–809) (Польшча), «Золотое руно» (№ 2, 1906), «Міръ искусства» (1899), «Огонёк» (№ 6–13, 19–20, 1905; № 21, 23–25, 29–33, 36, 1905; № 20–23, 1907) (Расія), «Gazette du Bon Ton» («Газета добрых манер») (№ 2, 1920) (Францыя); альбом і кнігі: «Tranh, tuong dan gian Việt-Nam» («Народны жывапіс В'етнама») — альбом (1962) (В'етнам), А. Д. Нечвалодаў «Сказания о русской земле съ рисунками, картами и планами» — друкав. выд. ў 4 ч. (СПб, 1913), «Пѣснь о вѣщемъ Олеге» — юбілейнае выданне да 100-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна з хромалітаграфіямі малюнкаў В. М. Васняцова і маст. шрыфтам В. Д. Замірайлы (1899) (Расія), «Henri de Toulouse-Lautrec Litographien» («Літаграфіі Анры дэ Тулуз-Латрэка») — маст. каляндар на 1968 г., «L'histoire, la vie, les moeurs et la curiosité» («Гісторыя, жыццё, норавы і звычаі») — друкав. выд. (Парыж, 1927), «Les anciens almanachs illustrés: Histoire du calendrier depuis les temps anciens jusqu'a nos jours» («Старыя ілюстраваныя альманахі: Гісторыя календара з даўніх часоў да нашых дзён») — друкав. выд. (1886) (Францыя); гравюры і рэпрадукцыі мал. А. Бланшара, А. Дзюрэра, А. Дэрэна, Ф. Клуэ, Дж. Ланге, Ф. Н. Селье і інш. з выявамі коней, птушак, раслін і інш. — арыгіналы, выр. з друкав. выд. ([1784]–XX ст.); гравюры і рэпрадукцыі мал. К. Амбергера, Д. Веласкеса, К. Вернэ, Э. Гаўжана, А. Дзюрэра, Ч.-П.-Д. Норманда, Ч.-У. Піла, Э. дэ Роберці, У. Фрэнча і інш. з выявамі еўрапейскіх дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, дзеячаў літаратуры, мастацтва і інш. Заходняй Еўропы, ЗША і Расіі XVI–XVIII стст. і інш. — выр. з друкав. выд. ([кан. XVIII – пач. XIX]–XX стст.); экслібрысы М. Адэ, М. С. і У. С. Басалыгаў, Ж. Кавечкі, Г. А. Краўцова, Э. М. Ліліен, Ё. Нячанскага, І. Тэмпіншкі, У. А. Фаворскага і інш. — сухая іголка, выр. з друкав. выд. (1891–1984); маст. паштоўкі выд-ваў «Аврора» (г. Масква), «Беларусь» (г. Мінск), «ИЗОГИЗ» (г. Масква), «Контрагенство А. С. Суворина и Ко» (г. Масква), «Марціна Кухты»

(г. Вільня), «Мистецтво» (г. Кіеў), «Mintis» (г. Вільнюс), «Планета» (г. Масква), «Советский художник» (г. Масква), «А. Fialko» (г. Вільня) і інш. з рэпрадукцыямі карцін Х. Аверкампа, І. К. Айвазоўскага, Ф. Вірхніра, Г. Н. Гарэлава, Ю. Ш. фон Карасфельда, А. М. Кашкурэвіча, А. І. Куінджы, А. Мацiса, В. Г. Пярова, А. Русо, Д. Рыверы, І. Я. Рэпіна, У. Тэтмайэра, Ю. Хелмоньскага і інш., віншавальныя паштоўкі з малюнкамі А. І. Аблажэя, П. К. Арлова, У. С. Басалыгі, А. А. Бетанавай, С. Волкава, М. М. Гаўрыловіч, В. Я. Данчука і інш., паштоўкі з малюнкамі і фота гарадоў і архітэктурных помнікаў Беларусі, Егіпта, Літвы, Польшчы, Расіі, Фінляндыі, Эстоніі і інш. ([1900–1904]–1996); беларус. каляндарыкі (1968–1997); канверты і маркі з серый «Беларускія абразы», «Вызвольнае паўстанне /1794 года / 200 гадоў», «Флора і фауна» і інш. (1962–1997); альбом з тэматычнымі наборамі марак: «Архітэктура Беларусі», «Беларускае народнае адзенне» і інш. (1992–1997).

## ЛАКШТАНАЎ І. П., ЛАКШТАНАВА І. К.

**Ф. 355. Воп. 1, 33 адз. зах., 70 дак., 1952–1983 гг.**

***Лакштанаў Іосіф Пятровіч*** *(1911–1986) — акцёр Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага, рэжысёр, заслужаны артыст БССР (1970); яго жонка —* ***Лакштанава Ільза Канстанцінаўна*** *(нар. 1923) — актрыса Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага, заслужаная артыстка БССР (1954)*

Дакументы акцёрскай дзейнасці І. П. Лакштанава. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага: «Брестская крепость» К. Л. Губарэвіча, «Порт-Артур» І. Ф. Папова і А. М. Сцяпанава, «Ненужная победа» А. П. Чэхава, «Король Лир» У. Шэкспіра і інш., індывідуальныя і ў групах з Я. А.Карнавухавым, М. Б. Сокалам, 9 (1953–960).

Рукапісы І. П. Лакштанава. П’есы: «Гибель Туманова царства», «Зодчие», «Сентябрьское утро» (у сааўт. з П. С. Пестраком) — маш. з аўт. праўкай, маш. [1950-я–1980-я]; сцэн. для лялечнага тэатра,

літаратурнага канцэрта і інш. [1960-я – пач. 1980-х]; фельетоны, маналогі, вершы [1960-я–1970-я]. Усяго 35 рук.

Дакументы да біяграфіі І. П. Лакштанава (1967–1972). Ганаровыя граматы і падзяка, Ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні звання заслужанага артыста БССР (1970).

Рэцэнзія на спектакль Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага «Ненужная победа» па п’есе І. П. Лакштанава паводле аповесці А. П. Чэхава — выр. з газ. (1960).

Фотапартрэт І. П. Лакштанава [пач. 1980-х].

Дакументы акцёрскай дзейнасці І. К. Лакштанавай. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага: «Путешественник без багажа» Ж. Ануя, «Варвары» М. Горкага, «Её друзья» В. С. Розава, «Океан» М. Л. Співакова, «Барабанщица» А. Дз. Салынскага, «Мария Стюарт» Ф. Шылера, «Король Лир» У. Шэкспіра, індывідуальныя і ў групах з І. М. Камаровым, Я. А. Карнавухавым, М. І. Кузьменка, 9 (1952–[1969]).

Праграма спектакля Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага «Антоний и Клеопатра» У. Шэкспіра з удзелам І. К. Лакштанавай (1964).

Фотапартрэт І. К. Лакштанавай [1950-я].

## ЛАРЧАНКА М. Р.

**Ф. 461. Воп. 1, 317 адз. зах; 3363 дак., 1928–1981 гг., асобн. дак. 1984, 1988 гг.**

***Ларчанка Міхаіл Рыгоравіч*** *(1907–1981) — літаратуразнавец, крытык, доктар філалагічных навук, прафесар*

Рукапісы М. Р. Ларчанкі. Дапаможнік для студэнтаў ВНУ «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» (1947), вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ «Старажытная беларуская літаратура» — раздзел «Літаратура XVI стагоддзя» [1968], падборкі артыкулаў да мяркуемых зб-каў: «Славянская супольнасць» (1961), «Яднанне братніх літаратур» (1972, 1973), «Літаратурнае пабрацім-

ства славян» (1979–1981); аўтарэферат дысертацыі і дысертацыя на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук «Становление и развитие реализма в белорусской литературе XIX века» (1955–1956); манаграфіі: «Связи белорусской литературы с литературами соседних славянских народов во второй половине XIX века» (1958, 1959), «Развіццё рэалізму ў беларускай літаратуры XIX – пачатку XX ст.» (1984), філасофскі трактат «Размышления на досуге» (1969–1979); артыкулы: «Узнікненне пісьменнасці і літаратуры ў Старажытнай Русі» [кан. 1960-х], «Свет ленинских идей», «Эстэтычныя ідэі Леніна і беларуская літаратура» (1970), «Лермонтов и белорусская литература» (1970–1973), «Гісторыя беларускай фалькларыстыкі» [1970], «Великое единение национальных литератур» (1972), «Традыцыі Някрасава ў беларускай паэзіі» (1972), «Певец родной земли», «Творческий путь Якуба Коласа» (1972), «Да пытання аб гераічным эпасе ў беларускіх казках» (1974), «Аб рэнесансным рэалізме ў гравюрах Ф. Скарыны», «Шляхі і формы ўзаемаўзбагачэння савецкіх нацыянальных літаратур» (1977), «Асаблівасці і значэнне вуснай народнай творчасці» (1979) і інш.; рэцэнзіі, водгукі на аўтарэфераты кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый С. А. Андраюка, Л. С. Голубевай, Л. Н. Гусевай, П. К. Дзюбайлы, К. П. Кабашнікава, У. А. Калесніка, У. І. Няфёда, Ю. С. Пшыркова, А. А. Семяновіча, М. А. Тычыны, А. С. Фядосіка і інш. (1950–1972), на літаратуразнаўчыя творы М. М. Грынчыка, Л. І. Залескай, С. А. Падокшына, В. А. Чамярыцкага і інш. (1957–1981), на артыкулы для БелСЭ (1971–1974); выступленні, даклады (1949–1977), адказы на пытанні часопісаў і газет (1956–[1963]), успаміны пра П. Ф. Глебку, К. Чорнага, І. Д. Гурскага і інш. [пач. 1970-х], дзённікавыя запісы (1960, 1961), картатэка артыкулаў па тэме славянскіх літаратурных узаемасувязяў (1962), запісныя кніжкі (1952–1976) і інш. Усяго 340 рук.

Пісьмы М. Р. Ларчанкі: А. А. Бакінадзе (1977), А. І. Бялецкаму 3 (1953–1958), К. Крапіве (1966), А. М. Кузняцову 2 (1972), В. У. Ларчанцы (жонцы) 131 (1947–1980) і інш. Усяго 17 адр.

Пісьмы М. Р. Ларчанку: Э. Агняцвет (1970), Я. Брыля (1977), А. І. Бялецкага 6 (1953–1958), А. С. Васілевіч 4 (1967–1977), У. М. Ве-

рамейчыка (1966), Ю. М. Еганяна 9 (1972), Н. С. Загорскай (1968), П. С. Кабзарэўскага (1965), Ф. І. Куляшова (1955), А. А. Лойкі 4 (1968–1971), М. А. Маляўкі 5 (1967–1974), В. А. Мануйлава 8 (1968–1970), Е. Ф. Нікіціна (1965), Ф. М. Нячая 54 (1961–1980), П. Е. Панчанкі 2 (1974, 1977), В. П. Рагойшы 16 (1967–1977), В. Дз. Разанава 2 (1976), Я. Рудзіціса 3 (1976), С. Русакіева (1973), Д. Таджыева (1977), Б. А. Трубяцкога 30 (1973–1980), А. А. Уса 5 (1962–1969), М. Хведаровіча 2 (1967), І. К. Цішчанкі 42 (1964–1979), Ф. М. Янкоўскага 3 (1969–1977), В. У. Яраца 2 (1971) і інш., сваякоў (1954–1980), знаёмых і сяброў (1958–1980), аспірантаў (1960–1976), студэнтаў (1966–1980). Усяго каля 100 кар.

Пісьмы М. Р. Ларчанку ад установў: БДУ імя У. І. Леніна, Мінскага дзярж. педінстытута 16 (1950–1975), Інстытута сусветнай літаратуры імя М. Горкага 13 (1952–1972), Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР 29 (1958–1979), Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР 15 (1963–1978), Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) АН СССР 13 (1963–1978), Міністэрства вышэйшай і сярэдняй адукацыі СССР 20 (1971–1979), Беллітфонду 4 (1964–1974), Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР 24 (1964–1972), СП СССР 15 (1964–1975), СП БССР 26 (1968–1980), выд-ваў БелСЭ 15 (1969–1980), «Вышэйшая школа» 8 (1965–1980), рэд. часоп. «Полымя» (1961), «Вопросы литературы» 11 (1970–1977), газ. Чырвоны сцяг» (1962), «ЛіМ» (1965), «Ленінскае слова» (1970) 31 (1957–1980) і інш.

Дакументы да біяграфіі М. Р. Ларчанкі. Дыпломы аб заканчэнні літаратурна-лінгвістычнага аддзялення Беларускага Вышэйшага педінстытута (1933), аб прысуджэнні вучонай ступені кандыдата (1937) і доктара філалагічных навук (1956), прафесара (1957); характарыстыкі (1940–1973), даведкі аб працы (1940, 1945), пасведчанні старшага навуковага супрацоўніка АН БССР (1944), прафесара (1975), атэстат дацэнта (1945), асабовыя лісткі па ўліку кадраў (1955–1980), членскі білет СП СССР (1979); справаздачы дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі Мінскага, Гродзенскага, Гомельскага педінстытутаў, дак-ты абароны доктарскай дысертацыі «Станаўленне

і развіццё рэалізму ў беларускай літаратуры XIX века»: справаздача аб працы над дысертацыяй за 1953 г., водгукі аб дысертацыі, атэстацыйныя дак-ты (1952–1956), хадайніцтва М. Р. Ларчанкі, К. І. Лукашова ў ЦК КПСС, Прэзідыум ВАК аб зацвярджэнні М. Р. Ларчанкі ў вучоным званні прафесара (1956), справаздача аб навуковай працы філфака БДУ імя У. І. Леніна за 1958 год; дагаворы выд-ваў «Вышэйшая школа», БДУ імя У. І. Леніна (1959, 1972), заказы гал. рэд. БелСЭ на напісанне артыкулаў (1969–1978), праграмы спецкурсаў (1979), запрашэнні на вечары і канферэнцыі (1951–1980); артыкулы В. В. Казловай, А. А. Марціновіча, Ф. М. Янкоўскага і іншых да 70-годдзя з дня нараджэння М. Р. Ларчанкі — выр. з газ і часоп. (1977).

Вершы М. Мінзера, Я. І. Янішчыц, прысвеч. М. Р. Ларчанку [1970-я], артыкулы, выступленні, інфармацыі А. А. Лойкі, В. П. Рагойшы, Я. К. Усікава пра М. Р. Ларчанку — выр. з газ. (1953–1976); рэцэнзіі, водгукі А. І. Бялецкага, А. А. Есакова, М. М. Клімковіча, Р. В. Шкрабы на творы М. Р. Ларчанкі — маш. з аўт. праўкай, выр. з газ. (1946–1979); В. М. Грышкевіч — бібліяграфія твораў М. Р. Ларчанкі — аўтарыз. маш., маш. (1988) .

Дакументы, сабраныя М. Р. Ларчанкам. Вершы А. А. Вазнясенскага, П. Е. Панчанкі, Я. І. Янішчыц — рук. М. Р. Ларчанкі, маш., выр. з часоп. і газ. (1953–1970); артыкулы: М. М. Барсток «Некрасовские традиции в белорусской литературе» — маш. з праўкай (1953), Я. Коласа «Великий друг и учитель», «Человек большого сердца», «Писатель-гражданин» — маш. (1938–1951), Ю. С. Пшыркова «Грамадзянін роднай краіны» — аўтарыз. маш. (1979), Л. М. Шакуна «Выданні Скарыны як крыніцы гісторыі беларускай літаратурнай мовы» — маш. [1970-я]; водгук кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна на кнігу С. К. Майхровіча «Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя» — аўт. А. А. Лойкі (1957), аўтарэфераты дысертацый Л. І. Бурака, Н. С. Гілевіча, К. П. Кабашнікава, Я. І. Парэцкага і інш. — маш. з праўкай, друкав. выд. (1963–1969). Дак-ты В. Віткі: вершы, артыкулы, апавяданне — выр. з часоп. і газ. (1958–1978), бібліяграфія яго твораў (1979), рэцэнзіі С. І. Грахоўскага, А. К. Клышкі, У. М. Юрэвіча на творы В. Віткі — выр. з часоп. і газ.

(1946–1978). «Аповесць пра Варлаама і Іасафа», «Аповесць пра Трою» [XV–XVII ст.] — маш. коп., «Дзіаруш іераманаха Афанасія Філіповіча» (1646) — маш. коп., «Дневник Фёдора Евлашевского» (1886) — публікацыя У. Б. Антановіча — маш. коп. [1970-я], «Гомон» — беларускі рэвалюцыйны аглядальнік (1884) — маш. коп.; беларускі фальклор (песні), сабраны І. А. Шавелем у в. Кухцічы і Стальбоўшчына Уздзенскага р-на Мінскай вобл. (1940–1943); праграмы спецкурсаў, студэнцкіх навуковых канферэнцый (1965–1980).

Фота М. Р. Ларчанкі, індывідуальныя, 24 (1928–1980) і ў групе з В. В. Казловай, А. А. Лойкам, І. Я. Навуменкам, В. П. Рагойшам, Ю. С. Пшырковым, І. У. Саламевічам і інш. 42 (1946–[1970-я]); з сям'ёй, роднымі 12 (1948–[1960-я]). Фота Н. А. Ларчанкі (маці), В. У. Ларчанкі (жонкі), індывідуальныя 2 [пач. 1960-х].

Фота з дароўным надпісам Ф. М. і Ф. Ц. Нячаяў М. Р. Ларчанку (1975).

Фота краявідаў Італіі, Турцыі, Францыі і інш. 73 (1960), фотапаштоўкі г. Сочы 6 (1960).

Рэцэнзія неўст. аўтара на рук. прозы Л. Л. Арабей «Паласа дажджу» [1984].

## ЛЕЦКА Я. Р.

**Ф. 356. Воп. 1, 320 адз. зах., 2071 дак., 1917, [1930-я]–2014 гг.**

***Лецка Яўген Рыгоравіч*** *(нар. 1944) — празаік, літаратуразнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч*

Рукапісы Я. Р. Лецкі. Аповесці: «Абуджэнне» — чарнавы аўтогр., маш. з аўт. праўкай, [1970-я–1980-я], «Дарога ў два канцы» — гранкі з рэд. праўкай (1981) і інш; сцэн. дак. фільмаў: «Паэтычны спеў Надзвіння» [1978], «Шлях паэта» (пра Я. Купалу) (1988), «Васількі за Бугам» (пра беларусаў Беласточчыны) (у сааўт. з Р. З. Ясінскім) [1990-я], пра Б. Кіта (1992); апавяданні [1960-я – пач. 2000-х]; канд. дысертацыя «Сучасная беларуская проза (выхаваўчае значэнне)» — маш. з рэд. праўкай (1979); раздзел да новай кнігі «На чужыне

палеглыя» — маш. з аўт. праўкай [2014], нарыс «На вастрыні часу (Паралельная размова)» — маш. з аўт. праўкай [пач. 2000-х]; эсэ: «Вандроўка па каменнях і памяці» — маш. з аўт. праўкай (2007), «А Нёман плыве ў вечнасць» — маш. з аўт. праўкай, маш. (2011) і інш.; артыкулы пра Г. М. Бураўкіна, М. Г. Воранава, В. С. Гігевіча, А. А. Жука, Я. Р. Радкевіча, А. П. Рыбака, М. Л. Стральцова, І. Г. Чыгрынава, У. І. Ягоўдзіка і інш. [1972–2012]; артыкулы па беларус. гісторыі, культуры і экалогіі (1984–2014); артыкулы пра мастакоў М. В. Дучыца, Я. С. Куліка, М. М. Купаву, В. С. Рамановіча, В. П. Сташчанюка, А. С. Шатэрніка і інш. ([1990–1993]–2008); пра тэатр «Зніч», гурты «Крынічка» і «Sonorus», спевакоў і музыкантаў У. М. Грома, У. Г. Мулявіна, П. І. Цясевіча і інш. [1990 – пач. 2010-х]; пра беларусаў замежжа Б. Кіта, Р. Завістовіча, А. Калубовіча, С. Карніловіча, С. Пясецкага і інш. (1981–2014); прадмовы да твораў У. А. Арлова, М. М. Ількевіча, Л. Калюгі, А. Мрыя, І. І. Храптовіча, гістарычных артыкулаў Ю. А. Мыцыка, зб. «Акно ў зялёны сад» і інш. (1974–[2011]); нататкі пра А. А. Бабарэку, М. І. Ермаловіча, І. Каляду, Ж. Мілашэвіч, І. Сурвілу, А. І. Цыркунова і інш. [др. пал. 1980-х–2007]; абразкі: «Абразок замілавання (З успамінаў юначай пары)», «Зімовым днём», «Ноч учарашняга дня (Фантазія з натуры)» [1970-я–1980-я]; рэцэнзіі на творы У. А. Арлова, Дз. Я. Бугаёва, В. У. Быкава, В. С. Гігевіча, Г. В. Далідовіча, У. М. Дамашэвіча, У. А. Калесніка, І. М. Пташнікава, М. А. Тычыны і інш. ([1971–2003); водгукі на творы В. Касьяненкі, М. М.Чарняўскага і інш. ([1989]–2002); заключэнні на кнігі С. М. Белага, Л. М. Дайнекі, М. І. Ермаловіча, В. П. Рагойшы, Б. І. Сачанкі і інш. (1984–1997); выступленні, звароты да грамадства аб падтрымцы аб'яднанняў «Беларуска-украінскае пабрацімства», «Беларусь XXI ст.» і інш. ([кан. 1980-х]–2003); запіс размоў з У. М. Дубоўкам і А. А. Бабарэкай (дачкой А. А. Бабарэкі) (1970); інтэрв'ю з У. С. Басалыгам, А. А. Дударавым, А. К. Каўкам, А. А. Пашкевічам, Р. С. Сітніцам, Л. Ф. Яўменавым і інш. ([1980]–1999); адказы на пытанні анкет, дасланых газ. «Звязда», часоп. «Литературная учёба» [1976–2002]; дзённікавыя запісы (1985 – [пач. 2010-х]); пераклады на бел. м.: апавяданняў П. П. Боцу «Студні растуць у глыбіню» [1980-я], І. П. Друцэ

«Пайшоў, гняды, пайшоў…», «Па-малдаўску» [1980-я], В. А. Думбрэвяну «Голас мары маёй» [1980-я], А. Гярлоўскага «Дрэва яго сына», «Сівыя валасы» (1985); навелы А. Д. Бурака «Крылаты ўзгорак», Ц. Космача «Тантадруй» [кан. 1970-х–1980-я]; мемуараў Б. М. Ельцына [«Споведзь на зададзеную тэму»] (1991), манаграфіі У. С. Гуркова і С. Ф. Цярохіна «Эпас пра пчолы і мёд» (1991–2013); аповесці У. Р. Дразда «Самотны воўк» [1986], артыкулаў Ю. А. Мыцыка (1999–[2013]); казкі «Пурцаль і Драке» [1970-я–1980-я].

Дакументы ўкладальніцкай дзейнасці Я. Р. Лецкі. Творы Л. Калюгі: аповесць «Ні госць, ні гаспадар», апавяданні «Баркаўцы — добрая вёска і баркаўчане — вясёлыя людзі», «Краўцы і каляднікі», «Лук’ян — капяраціўскі сабака», навелы «Вам знаёмае», «Цеснаватая куртачка» — маш. з карэктурай, паметамі і праўкай укладальніка [1970-я]; зб. артыкулаў «Праз стагоддзі. Літаратурная Навагрудчына» — маш. з праўкай укладальніка (2011).

Аўтабібліяграфія [пач. 2000-х]. Усяго каля 380 рук.

Пісьмы Я. Р. Лецкі: А. Г. Бачарову [1980], М. Бурносу 2 (2000, 2001), Ю. Весялкоўскаму 5 (2000–2007), Я. Грушу 2 [1999], [С. І. Дубаўцу] 2 (1999, 2007), Я. Жучку 2 (2000, 2001), У. М. Завальнюку 3 (1999–2011), [Т.Ф. Залатухінай] 2 (1979, [1980-я]), Б. Кіту 4 (1992–2000), А. М. Лукашуку [2008], В. Лубу 2 [2000-я], Ю. А. Мыцыку 32 (2000–[2014]), Ю. (Ж.) Навумчыку 72 [кан. 1990-х–2014], М. В. Нікалаеву 2 (2008, 2014), У. Ф. Огневу 2 (1984), А. А. Сабалеўскаму (2000), І. С. Снарскай 7 (2000–2001), [В.Стэху] 5 (2007), Я. Сажычу 7 ([1999]–2001), [С. Г. Шарэцкаму] 3 ([1996]–1999), А. Шнэку 8 ([1999]–2004) і інш.; да Т. Я. Лецкі (дачкі) 3 (2000–2001), сяброў і знаёмых 40 [1970-я – пач. 2010-х]. Усяго каля 70 адр.

Пісьмы Я. Р. Лецкі ва ўстановы: Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК КПБ [1980-я], рэд. газ. «Вячэрні Мінск» [др. пал. 1980-х], выд-ва «Мастацкая літаратура» [1980-я], Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР [др. пал. 1980-х] і інш. Усяго каля 20 адр.

Пісьмы Я. Р. Лецку: У. А. Арлова 3 [1984–1985], Д. І. Бічэль-Загнетавай (2010), Я. Брыля (1982), [В. С. Гігевіча] (1986), Ю. У. Голуба 4 (1999–2007), [С. С. Панізніка] 2 (1999, 2007), В. П. Рагойшы (1982),

Дз. У. Сарокі (1989), Л. П. Ялоўчык 2 (1981, 1982) і інш.; грамадскіх, дзеячаў культуры, літаратуры замежжа: Азербайджана — М. Вякілава 3 [кан. 1970-х–1983]; Аўстраліі — М. і В. Антухоў 2 ([1999], 2001), М. Лягуш [1990-я – пач. 2000-х], М. і М. Сазановічаў 2 (1996, [пач. 2000-х]), Ж. і Ул. Сідлярэвічаў [1994–1995], А. Шнэка 10 (1993–2005); Бельгіі — Я. Жучкі 4 (1996 – 2000); Вялікабрытаніі — Ю. Весялкоўскага 14 (2002–2006); Германіі — Б. Кіта 19 (1991 – 1995); ЗША — Ю. (Ж.) Навумчыка 34 ([кан. 1990-х]–2014), Я. Сажыча 7 (2001–2007) і інш.; Канады — архіепіскапа Мікалая (Мацукевіча) (1999), М. Пашкевіча 4 (1999–2001), Ю. Рапецкага (2001); Малдовы — А. Д. Бурака (1984), В. А. Думбрэвяну (1984); Польшчы — В. Лубы 2 (2007), Ю. Туронка (1988), В. Стэха (2007), Я. А. Чыквіна (1999), С. Яновіча (2007) і інш.; Расіі — Ю. А. Андрэева (1980), [Т. Ф. Залатухінай] (1978), В. А. Івашчанкі 3 (1978–1985), А. К. Каўкі 8 (1990 – пач. 2000-х), А. М. Кірвеля (1999), М. В. Нікалаева 3 (2003 – [пач. 2010-х]), У. Ф. Огнева (1984), А. Рудакова 2 (1996), А. А. Сабалеўскага 5 (2000 – 2007) і інш.; Украіны — Ю. А. Мыцыка 62 (2000–2014), І. С. Снарскай 2 ([кан. 1990-х – пач. 2000-х], 2001), У. Фашчанкі (1985), Б. Цімошчанкі 5 (1999–2000), М. П. Чабана 4 (2001–2002) і інш.; ад бацькоў, сяброў і знаёмых 23 (1974–2013). Усяго каля 80 кар.

Пісьмы Я. Р. Лецку ад устаноў: Беларус. грамадскага аб'яднання татар «Зікр уль-Кітаб» 2 (2004), Літаратурна-краязнаўчага музея Гудзевіцкай СШ 2 (1985); часоп. «Дружба народов» 3 (1980), «Литературное обозрение» (1977), «Литературная учёба» [1979]; праўлення СП БССР 2 (1977, 1978), Укр. аддзялення Літфонду СССР [кан. 1970-х–1980-я] і інш. Усяго каля 16 кар.

Дароўныя надпісы Я. Р. Лецку ад А. Макміліна на артыкулах апошняга «Беларускі санет у дыяспары», «Міхась Стральцоў — паэт у прозе і паэзіі», «История больших надежд. Ф. Достоевский и белорусская проза XX века» і інш. 7 (1982–2003).

Дакументы да біяграфіі Я. Р. Лецкі (1967–2014). Пасведчанні Карлава ўн-та ў Празе аб удзеле ў XXX і XXXIII Летніх школах па чэшскай мове, запрашальныя білеты і інш. (1967–2014); дак-ты аб працы Я. Р. Лецкі ў Інстытуце літаратуры АН БССР (1977–1990)

і выд-ве «Мастацкая літаратура»: характарыстыкі, тлумачальная запіска па выкананні вытворчага плана рэдакцыі за 1989 год і інш.; заявы ў сакратарыят СП БССР, на імя дырэктара выд-ва «Мастацкая літаратура» Г. В. Марчука і інш. пра спадчыну Л. Калюгі і А. Мрыя (1985–2001); характарыстыкі на С. І. Абдулаеву, А. А. Анішчыка (А. Чэмера), Ю. І. Залоску, М. М. Зізюка, Х. А. Лялько для ўступлення ў СП БССР і Саюз беларускіх пісьменнікаў ([1983]–2013); даверанасці Ю. Весялкоўскага, Л. М. Лыча і Ю. А. Мыцыка на выданне іх твораў і атрыманне ганарару (2000–2011). Дакументы аб'яднання ЗБС «Бацькаўшчына»: статут, пісьмовыя звароты да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, Прэзідыума АН Рэспублікі Беларусь, дагавор з М. П. Кузьмічом на выкананне аўтэнтычнага крыжа св. пр. Еўфрасінні Полацкай і інш. [1989–2001]; артыкулы Я. Р. Лецкі, Г. І. Сурмач і інш. пра дзейнасць арганізацыі (1990–2013); дак-ты аб'яднання «Згуртаваньне наваградцаў свету»: мат-лы да Устаноўчага сходу, пасведчанне аб рэгістрацыі, заява ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь аб ліквідацыі арганізацыі і інш. (1994–2000). Дакументы выдавецкага цэнтра «Бацькаўшчына»: пісьмы міністру культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. І. Бутэвічу, Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку, старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь М. В. Падгайнаму аб дапамозе ў выданні кніг В. Б. Вальтара, Г. В. Кісялёва і інш. [1990-я–2000-я], дамовы, даведкі, загады (1994–2002), выдавецкая дамова на выданне зб. вершаў Г. М. Бураўкіна «Паміж зоркай і свечкай» (2000) і інш. Дакументы да юбілеяў Я. Р. Лецкі: віншавальная тэлеграма міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. І. Бутэвіча, артыкулы да юбілеяў, партрэт Я. Р. Лецкі работы Р. П. Сіплевіч — алов., акварэль (1994–2014).

Дакументы пра Я. Р. Лецку: рэцэнзіі М. А. Ціханчука Л. М. Лыча і І. В. Сакалоўскага на кнігі Я. Р. Лецкі; артыкулы Л. М. Лыча, А. А. Марціновіча, Л. Мілаш і інш. з упам. Я. Р. Лецкі (1973–2013); інтэрв'ю Я. Р. Лецкі кар. газ. «Голас Радзімы», «Звязда» і інш. (1975–2011).

Дакументы, сабраныя Я. Р. Лецкам для сваіх прац. Рукапісы Л. Калюгі (К. П. Вашчыны): аповесці «Дзе косці мелюць» [1933–1937], «Зоры Вам вядомага горада» [1934–1937], «Утрапенне» [1935–1937].

кевіча, Г. С. Дубава, М. П. Звездачотава, С. А. Казлова, З. І. Канапелькі, Г. А. Каралькова, Т. А. Кокштыса, В. М. Котава, А. М. Лаппо, Б. М. Левіна, Л. А. Малашкевіч, Г. П. Маркінай, Л. П. Мацісавай і інш. 42 (1965) — з дароўнымі аўт. акцёраў у сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння А. С. Падабеда.

Рукапісы А. С. Падабеда. «Антып'еса "Фантазия на тему "Жизнь" или необыкновенные банальности» (1966–1967) — маш. з аўт. праўкай; сцэн. шматсерыйнага тэлефільма «Писареада» (1970–1979) — маш. з аўт. праўкай; драматычная кампазіцыя «Сияющий перевал» (1979) — маш. з аўт. праўкай; паэма «Вчера, сегодня, завтра. Симфония» (1981) — маш.; зб. вершаў «Как прожитая жизнь» (1981). Усяго 11 рук.

Перапіска А. С. Падабеда (1980).

Дакументы да біяграфіі А. С. Падабеда (1964–1981). Афішы спектакляў Карагандзінскага рускага драм. тэатра імя К. С. Станіслаўскага (1964), Драматычнага тэатра Ціхаакіянскага флоту (1969), Драм. тэатра Паўночнага флоту (1971), Магілёўскага тэатра драмы і камедыі (1973).

Артыкулы, рэцэнзіі на спектаклі Карагандзінскага рускага драм. тэатра імя К. С. Станіслаўскага (1958–1966), тэатра імя Я. Коласа (1965–1966), Драматычнага тэатра Ціхаакіянскага флоту (1967–1972) — выр. з газ.

Фота А. С. Падабеда (1978).

## ПАДКАВЫРАЎ П. П.

**Ф. 247. Воп. 2, 72 адз. зах., 102 дак., 1930–1977 гг.**[19]

***Падкавыраў Пётр Пятровіч*** *(1910–1977) — кампазітар*

Рукапісы-ноты П. П. Падкавырава. Сцэнічныя творы: опера «Павел Корчагин» паводле М. А. Астроўскага, лібрэта аўтара — партытура (1958), «Комсомольская походная песня», «Трудовая песня»,

[19] Анатацыю на воп.1 гл. Вып. 1. С. 201–202.

«Песня разведчиков» з оперы «Павел Корчагин» [1958]; творы для сімф. аркестра: сімфоніі № 2 (1947), № 3 (1949) — аркестровыя партыі – рук. з паметамі; канцэрты № 1 (1965), № 3 (1977), канцэрт для віяланчэлі з аркестрам (1959); камерна-інструментальныя творы: квінтэты, квартэты, трыо (1953–1972), санаты, імправізацыі, п'есы (1947–[1970-я]), творы для хору, рамансы, песні на сл. Э. Агняцвет, А. П. Астрэйкі, П. У. Броўкі, А. С. Вялюгіна, А. Гадагатль, М. М. Клімковіча, Я. Купалы, С. Я. Маршака, А. С. Пушкіна, А. Г. Русака, А. С. Ставера, М. Танка, Цёткі і інш. (1930–[1960-я]), апрацоўкі беларускіх народных песень і танцаў [1938–1960-я]. Усяго 100 рук.

Фота П. П. Падкавырава, індывідуальныя, 2 [1950-я, 1970-я].

## ПАЛОНСКІ С. У.

**Ф. 30. Воп. 2, 118 адз. зах., 244 дак., 1911–1956 гг.**

**Палонскі Самуіл Уладзіміравіч** *(1902–1955) — кампазітар, заслужаны артыст БССР*

Нотныя рукапісы С. У. Палонскага. Песні для хору з фп., для хору a capella, для голасу з фп. на сл. С. Р. Астравога, П. У. Броўкі, Е. Н. Букава, М. Галоднага, М. М. Грыбачова, М. В. Ісакоўскага, Л. М. Кандарава, М. М. Клімковіча, Я. Коласа, Я. Купалы, С. М. Маршака, М. А. Някрасава, А. А. Пракоф'ева, А. С. Пушкіна, Д. І. Сядых, В. М. Хмары, І. Е. Шапавалава, Т. Р. Шаўчэнкі і інш. (1928–1954); інструментальныя творы: «Напевы Белоруссии» — для балалайкі сола з фп. [1930-я], «Чалавек сонца» (беларуская народная казка) — вакальна-інструментальная кампазіцыя — партытура і партыі асобных інструментаў [1937] і інш.; музыка да спектакляў: Дзярж. яўрэйскага тэатра БССР «Клад Напалеона» Шолам-Алейхема (1936), «Шмэндрык» А. Гольдфадэна — рук. перапісчыка (1939), да радыёспектакля [Дзярж. яўрэйскага тэатра БССР] «Дичка» — партытура, музычная эксплікацыя [1930-я]; Сталінагорскага драм. тэатра (Новамаскоўскі дзяржаўны драм. тэатр У. М. Качаліна) «Много шума из ничего» У. Шэкспіра — партытура (1936); Дзярж. тэатра лялек БССР «Падарунак»

А. М. Міхайлава — партытура (1947); ТЮГ БССР «Проделки Скапена» Мальера — клавір (1948); музыка да спектакляў неўст. тэатраў: «Кот в сапогах» П. Р. Малярэўскага — клавір (1952), «День открытых дверей» С. Я. Уварава — партыя баяна [1950-я]; музыка да кінафільмаў кінастудыі «Беларусьфільм»: «Песня о Дружбе» — клавір (1940), «Родные напевы» А. І. Шульмана і С. І. Сплашнова — клавір і партытура (1947); штотыднёвікаў «Союзкиножурнала» Новасібірскай студыі хранікальна-дакументальных фільмаў (1941–1942); апрацоўкі народных песень і танцаў народаў свету ([1928]–1952). Усяго 114 рук.

Пісьмы С. У. Палонскаму: А. Г. Русака 2 (1954), І. М. Хвораста (1950); харавога гурта Тэрмітна-стрэлачнага завода (1949), рэд. газ. «Зорька» Н. Ф. Мазуравай (1953), Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці 2 (1953, 1954). Усяго 5 кар.

Рамансы і песні з дароўнымі надпісамі С. У. Палонскаму Я. І. Жаркоўскага, З. Л. Кампанейца, В. І. Садоўнікава (1947–1948).

Дакументы да біяграфіі С. У. Палонскага (1942–1956). Пісьмы і тэлеграма аб камандзіраванні С. У. Палонскага ў г. Маскву 2 (1942, 1943), рэкамендацыйны спіс рэпертуару для сельскай самадзейнасці з упам. С. У. Палонскага і яго твораў (1951, 1952), падзякі партыйнай арганізацыі СК СССР (1949, 1950), пасведчанне аб заканчэнні музычна-педагагічнага факультэта Кіеўскай кансерваторыі — коп. (1952), спіс апрацаваных С. У. Палонскім песень розных народаў для хору [1950-я]; праграмы канцэртаў, на якіх выконваліся творы С. У. Палонскага (1948–1954).

Артыкулы і нататкі А. Я. Ракавай, А. Г. Русака і інш. са згадкамі пра С. У. Палонскага (1942–1953), заключэнне мастацкага кіраўніка Рэспубліканскай харавой капэлы (г. Масква) прафесара А. В. Прэабражэнскага на харавыя творы С. У. Палонскага «Пора золотая» і «Славим утро» (1951), творчая характарыстыка на С. У. Палонскага, выдадзеная дырэктарам Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці В. Носавым (1953).

Дакументы, сабраныя С. У. Палонскім. Нотныя сшыткі і інш. С. У. Палонскага з выпіскамі беларускіх, венгерскіх, латышскіх,

літоўскіх, польскіх, рускіх, чэшскіх і інш. народных песень, зробленыя А. Аленіным, Н. К. Здановічам. Г. І. Цітовічам і інш. (1948–1953).

* * *

Дароўныя надпісы П. П. Падкавырава (1948), Я. З. Шведава (1951) С. У. Палонскаму на кнігах.

## ПАЛОСІН Я. М., ВЕСНІНА (ЯДЗІТКІНА) Л. С.

**Ф. 352. Воп. 1, 39 адз. зах., 98 дак., 1941–1986 гг.**

***Палосін Яўген Максімавіч*** *(1911–1981) — акцёр, народны артыст БССР (1956), СССР (1969); яго жонка —* ***Весніна (Ядзіткіна) Лізавета Саламонаўна*** *(1917–2013) — актрыса, заслужаная артыстка БССР (1961)*

Дакументы творчай дзейнасці Я. М. Палосіна. Тэкст ролі са спектакля «Поднятая целина» М. А. Шолахава, сыгранай у Дзярж. рускім драм. тэатры БССР імя М. Горкага (1963); фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Магілёўскага абласнога рускага драм. тэатра «Свадьба на всю Европу» А. М. Арканава, Р. І. Горына, «Бесприданница», «Женитьба Бальзаминова» і «На бойком месте» А. М. Астроўскага, «Оптимистическая трагедия» У. В. Вішнеўскага, «Варвары», «Враги» і «Мещане» М. Горкага, «Право на счастье» І. Л. Дорскага, «Песня наших сердец» В. П. Палескага, «Поднятая целина» М. А. Шолахава з удзелам Э. М. Аўчыннікавай, Л. С. Веснінай, М. М. Ключнікавай 13 (1947–1970).

Дакументы да біяграфіі Я. М. Палосіна (1941–1986). Асабістыя дакументы, рэпертуарныя лісткі творчых сустрэч і канцэртаў (1953, [1970-я]), запрашэнні, праграмы спектакляў Дзярж. рускага драм. тэатра імя М. Горкага «Дядя Ваня», «Когда цветёт акация», «Песня наших сердец» (1949–1957), праграмы канцэртаў для дэлегатаў XXII з’езда КП Беларусі (1956), удзельнікаў нарады старшынь калгасаў-трыццацітысячнікаў БССР (1955), афішы творчых вечароў (1961, [1970-я]).

Дакументы пра Я. М. Палосіна (1956–1970).

Фотапартрэты Я. М. Палосіна 5 [сяр. 1960-х–1970-я], фота Я. М. Палосіна ў групе з Л. С. Весніной (жонкай), Ю. Я. Палосінай (дачкой) 3 (1961–1968), М. І. Аляксеевым, З. І. Браварскай, І. У. Ільінскім, У. В. Санаевым і інш. 9 (1963–[1970-я]).

Дакументы Л. С. Весніной. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Дзярж. рускага драм. тэатра БССР «Варвары» М. Горкага, «Не называя фамилий» В. Б. Мінко, «Барабанщица» А. Дз. Салынскага з удзелам М. І. Кузьменко, І. П. Лакштанава, Г. К. Някрасава, М. Б. Сокала 10 (1953–1959).

## ПАНЧАНКА П. Е.

**Ф. 430. Воп. 1, 128 адз. зах., 1810 дак., 1911–1999 гг.**

***Панчанка Пімен Емяльянавіч*** *(1917–1995) — паэт, народны паэт Беларусі*

Рукапісы П. Е. Панчанкі. Падборкі вершаў да мяркуемых зб-каў: «Вячэрні цягнік» (1977), «Далёкія станцыі» (1944); вершы (1941–1995); артыкул пра З. І. Азгура (1948), артыкулы на літаратурныя і грамадска-палітычныя тэмы, пра беларускіх пісьменнікаў (1951–1989) і інш.; рэцэнзія на спектакль «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, паст. у тэатры імя Я. Купалы; творчыя аўтабіяграфіі 2 ([1966], 1971) і інш., пераклады драмы Ф. Шылера «Разбойнікі», вершаў Дж. Басані, А. Гато, Дж. Джудзічы, А. Джуліані з італ. м. [1960-я–1980-я] і інш. Усяго 728 рук.

Песні І. М. Лучанка, М. М. Пятрэнкі на сл. П. Е. Панчанкі (1975, 1994).

Падборкі перакладаў вершаў П. Е. Панчанкі да выданняў на рус. м.: «Збор твораў. У 4 т.» — аўтогр., маш. і расклейка з праўкай [1981], «Избранные произведения» т. 2. — маш. з праўкай (1984), пераклады твораў П. Е. Панчанкі, зробленыя І. Аўраменкам, Дз. М. Кавалёвым, Н. З. Кіслікам, М. Дз. Львовіч, В. Мілаванавым, М. А. Святловым, Б. А. Слуцкім, П. А. Сямыніным, К. Фрайдліхам,

Я. А. Хелемскім, З. Чарнескім, І. І. Шклярэўскім і інш. на пол., рус., укр., узб., чэш. м. (1942–1984).

Пісьмы П. Е. Панчанкі: Р. Г. Гарэцкаму (1994), Е. Я. Лось (1973), Н. Е. Пашкевічу (1994), школьнікам 3 (1959–1994). Усяго 8 адр.

Пісьмы П. Е. Панчанкі ў рэд. «Литературной газеты» (1981); у выд-вы «Молодая гвардия» (1965), «Советский писатель» (1983) і інш.

Пісьмы П. Е. Панчанку: П. У. Броўкі 9 (1957–1972), Г. М. Бураўкіна 2 (1973, 1987), О. О. Вацыёціса 4 (1960), В. Віткі [1966], Ф. М. Гінзбург [1980-я], М. Я. Кемпе 9 (1959–1966), А. Куперштока (1949), М. Р. Ларчанкі 2 (1957, 1980), П. П. Маха з вершамі (1988), Дз. Дз. Осіна (1954), Л. С. Первамайскага 6 (1947–1971), Н. Стаховіч (1957), Я. Судрабкална 11 (1960–1969), Л. М. Турбіной з вершамі [1970-я], Я. А. Хелемскага з вершамі (1984), Б. І. Чайкоўскага (1964)і інш. Усяго 20 кар.

Пісьмы П. Е. Панчанку ад устаноў: Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў 4 (1974–1978); рэд. часоп. «Беларусь» 6 (1959–1991), «Вожык» 2 (1975, 1979), «Вясёлка» 3 (1980–1988), «Знамя» 13 (1973–1979), «Нева» 2 (1975, 1976), «Новый мир» 9 (1952–1973), «Огонёк» 4 (1948–1967), рэд. газ. «Голас Радзімы» 2 (1973, 1974), «ЛіМ» 7 (1957–1981), «Литературная газета» 17 (1958–1988) і інш.; выд-ваў «Асвета» (1984), «Мастацкая літаратура» 3 (1972–1974), «Советская энциклопедия» 2 (1973) і інш.; СП БССР 7 (1958–[1980-я]), СП СССР 11 (1971–1973); музея Максіма Рыльскага 9 (1965–1980), Савецкага камітэта абароны міру 11 (1977–1983), БРК абароны міру 10 (1969–1984), Літоўскага камітэта абароны міру 3 (1980–1981), генеральных консульстваў ГДР 11 (1976–[1980-я]), ПНР 3 (1966–1983) і інш.

Запіскі ад студэнтаў і чытачоў 28 [1960-я–1980-я], візітныя карткі 22 [1980-я].

Дароўныя надпісы П. Е. Панчанкі Р. С. Бярозкіну (1973), П. С. Малчанаву (1947).

Дакументы да біяграфіі П. Е. Панчанкі. Дакументы дэпутацкай дзейнасці (1951–1987), аўтабіяграфіі, камандзіровачныя пасведчанні (1959–[1980-я]), характарыстыкі-рэкамендацыі для паездак

за мяжу (1960–1984), запрашэнні на творчыя і юбілейныя вечары, дэкады беларускага мастацтва і літаратуры, з’езды, сесіі, пленумы, канферэнцыі і інш. (1953–1994).

Дакументы аб узнагароджаннях і святкаванні юбілееў: віншавальны верш В. В. Зуёнка (1977), артыкулы, інтэрв’ю, нататкі (1977), віншавальныя тэлеграмы Я. Брыля, І. П. Мележа, М. Танка і інш. (1984).

У. І. Содаль — сцэн. тэлеперадачы «Роднае слова маё», прысвеч. П. Е. Панчанку — маш. (1985); артыкулы, нататкі, інфармацыі Р. І. Барадуліна, В. Л. Бечыка, С. І. Законнікава і інш. пра жыццё і творчасць П. Е. Панчанкі — маш., выр. з газ. (1942–[1995]); афіша вечара беларускай паэзіі, апавядання і гумару «Белорусские голоса» з удзелам П. Е. Панчанкі (1969) і інш.

Рукапісы. Вершы М. Дз. Львовіч [1970-я], А. С Малышкі (1929, 1958), Л. С. Первамайскага (1966–1971), М. Ф. Рыльскага (1911–1929); артыкулы на грамадска-палітычныя, гістарычныя, літаратурныя тэмы — выр. з газ. (1953–1999); праспекты збораў твораў М. М. Прышвіна (1981), кнігі вершаў і паэм П. У. Броўкі (1966), зб. вершаў А. А. Пракоф’ева (1966) і інш.; дак-ты, сабраныя П. Е. Панчанкам у час замежных паездак: даведнікі, інфармацыйныя мат-лы, праграмы турыстычных падарожжаў, буклеты і інш. (1956–1974).

Фота П. Е. Панчанкі, індывідуальныя і з Б. І. Алейнікам, Я. Брылём, В. У. Быкавым, Ю. Ванагам, Н. С. Гілевічам, А. Імерманісам, Я. Судрабкалнам, М. Танкам і інш., 13 (1959–[1980-я]). Плакат «Народны паэт БССР Пімен Панчанка» (1983).

А. Гамолка. «Святло Саветаў» — афорт (1962).

## ПАЎЛАЎ У. А.

**Ф. 373. Воп. 1, 23 адз. зах., 132 дак., [кан. 1950-х]–1993 гг.**

***Паўлаў Уладзімір Андрэевіч*** *(1935–2020) — паэт, празаік, перакладчык.*

Рукапісы У. А. Паўлава. Аповесці: «Яжэліха» (1966), «У кожнага сваё жыццё» = «Спелыя травы» (1968), «Чуж-чужаніца» = «Дазор

на Сухой мілі» (1977), «Радзімкі» (1989); паэма «Сонца ідзе ў зеніт» = «Вернасць» (1963); вершы (1965–1992); аўтабіяграфія «Бяру свой род…» (1973); успаміны «Між Бугам і Одрай» (1982), «Адзін выпадак» (1992) і інш.; пераклады твораў М. Борха, І. І. Васілеўскага, М. М. Грыбачова, С. Джусуева, А. Скабіаалэ, Я. Фёльдэака і інш. (1976–1993). Усяго 194 рук.

Пісьмо У. А. Паўлаву А. В. Пысіна (1965).

Верш Я. І. Янішчыц «Соль шчырасці» (1981).

Фота У. А. Паўлава, індывідуальныя, 2 [кан. 1950-х, 1980-я]; мал.-шарж К. М. Куксо на У. А. Паўлава — пяро, туш (1975).

## ПЕТРАШКЕВІЧ А. Л.

**Ф. 450. Воп. 1, 978 адз. зах., 5866 дак., 1928–2007 гг.**

***Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонавіч)*** *(1930–2012) — драматург, празаік, публіцыст, кінасцэнарыст, лаурэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976), заслужаны работнік культуры БССР (1975)*

Рукапісы А. Л. Петрашкевіча. Падборка п’ес да мяркуемага зб. «Воля на крыжы» — маш. з аўт. праўкай (1997); п’есы: «Кары егіпецкія» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, маш. (1965–1966), «Адкуль грэх?» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1966–1969), «Была вайна» — аўтогр., маш. (1970), «Трывога» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1970–1973), «Злыдзень» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1972–1976), «Укралі кодэкс» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1973–1976), «Куды ноч — туды сон» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, аўтарыз. маш. (1975–1985), «Напісанае застаецца» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1977–1978), «Злавеснае рэха» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1978–1983), «Русь Кіеўская» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай і ўстаўкамі (1979–1982), «Негодяи, или Жизнь на толкучке» (1979), «Як мы сябе адчуваем?» — аўтогр., маш. (1979–1986), «Шпион этажом выше» (1980), «Соль» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1980), «Мост упоперак ракі» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1982–1985),

«Змова» — аўтогр., маш., маш. з аўт. праўкай (1982–1985), «У спадчыну — жыццё» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1984), «Мой друг, великий человек...» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1984, 1985), «Агония мятежной ставки» (1985), «Дагарэла свечачка...» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1986–[1997]), «Прарок для Айчыны» — аўтогр., маш. з аўт. і рэд. праўкай (1989), «Наканавана быць Прарокам» — аўтогр., маш. з аўт. і рэд. праўкай, выразкі з друкав. выд. з аўт. устаўкамі (1994–2000), «Бунт халасцяка» — аўтогр., маш. (1992), «Інтэрнацыянал па-беларуску» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, ксеракоп. аўт. і маш., выр. з часоп. «Тэрмапілы» (1994–1999), «Новыя тутэйшыя» — аўтогр., карэктура (1994), «Суд прысцяжных» (1995, 1996), «Меч Рагвалода» (1996), «Крыж святой Еўфрасінні» — аўтогр., карэктура (1997), «Катастрофа разума» — аўтогр., маш., аўтарыз. маш. (1998), «Інтэлігенты» (1998), «Ладдзя роспачы» (паводле п’есы У. С. Караткевіча) (1998), «Расплата за здраду» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1999), «Рупнасць дзяржаўцы» — аўтогр., маш. (1999), «Рыцар свабоды» (2000), «Кліч роднага краю» (у сааўт. з Г. В. Далідовічам) — аўтогр., маш. з праўкай А. Л. Петрашкевіча (2000), «Крыжовы шлях на Грунвальд» — аўтогр., маш. з праўкай (2000), «Памінкі» (2001), «Апошні збройны чын» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (2001), «Развітанне з Радзімай» — маш., маш. з аўт. праўкай (2001), «Час усё адкрые...» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (2002), «Каралеўска-царская пастка» (2002), «Першадрукар маскоўскі і ўкраінскі» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (2003–2004), «Споведзь гардыні» (паводле апавядання В. Гроднікава) — аўт. з друк. устаўкамі з апавядання (2004), «Вайна з эпілогам» (2004); сцэнкі пра аўцюкоўцаў па матывах аповесці У. С. Ліпскага «Аўцюкоўцы» (1995); літаратурныя сцэнарыі: кароткаметражнага фільма «Святые мошенники» — аўтарыз. маш. (1964), камедыі «Хто ўкраў кодэкс?» — аўтогр., маш. (1974), тэлевізійнага фільма «Злыдзень» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1974), маст. фільма «Воскресная ночь» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, аўтарыз. маш. (1975), тэлевізійнага маст. фільма (у сааўт. з У. Т. Халіпам) «Время выбрало нас» — аўт. А. Л. Петрашкевіча, маш. з праўкай (1975), музычнай кінакамедыі (у сааўт. з А. Серым) «Шпион этажом

выше» — аўт. А. Л. Петрашкевіча, маш. з праўкай (1977, 1978), маст. фільма «Мост поперёк реки» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1980–1981), маст. фільма (у сааўт. з У. Т. Халіпам) «Рождение республики» — маш. з праўкай А. Л. Петрашкевіча (1985), навукова-папулярнага фільма «Францыск, сын Скарынін» — аўтогр., аўтарыз. маш., маш. з аўт. праўкай (1988–1989), кароткаметражнага фільма «Гетман Найвышэйшы» — аўтогр., маш. (1992); кінааповесць А. Л. Петрашкевіча і У. Т. Халіпа «Время выбрало нас» — маш., маш. з аўт. праўкай (1978); падборка апавяданняў да мяркуемага зб. «Крыніца» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай [1980], апавяданні: «Сабака» — маш. з аўт. праўкай (1979), «Адгалоскі» (1986), «Матруна» (1998), «Мяжа» (1998), «Сон Дарамаціка» (1998), «Памыліўся» (1997), «Чужы сярод чужынцаў» (1999), «Вайна» (1999) і інш.; фельетоны (1966 – [пач.1990-х]); нарыс «Францыск — сын Скарынін з слаўнага града Полацка ў навуках вызваленых і лекарскіх доктар» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, маш. (1990); падборка артыкулаў да мяркуемага зб. «Народзе ты мой, народзе» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, карэктура, ксеракоп. выр. з часоп. (1995), артыкулы (1965–2004); выступленні (1975–2004), даклады (1986, 1987); рэцэнзіі (1974–2002) і інш.; інтэрв'ю (1977–2000); адказы на пытанні анкет ([1970-я]–1998); творчая аўтабіяграфія «Назавём рэчы сваімі імёнамі» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1987–[1990]); успаміны пра П. У. Броўку, К. Л. Губарэвіча, К. Крапіву, А. Я. Макаёнка і інш. (1982–1996); пераклады п'ес У. Н. Біль-Белацаркоўскага, Г. К. Бокарава, У. П. Бутрамеева, С. Мрожака, Дз. М. Мусіенкі і інш. (1969–1998); літаратурны запіс дак. аповесці С. П. Шмуглеўскага «Рядовые подполья» (1968–1971); аўтабібліяграфіі — аўтогр., маш. з аўт. праўкай (1974–1990). Усяго каля 616 рук.

П'есы А. Л. Петрашкевіча ў перакладах на рус. м. М. І. Мірашнічэнкі «Написанное остаётся» — маш. з праўкай перакладчыка (1978, 1979), на ўкр м. Дз. М. Мусіенкі «Звідкіль гріх?» — маш. (1976), У. Я. Бурбана «Прощання слов'янкі» — ксеракоп. маш. (1997) і інш.

Пісьмы А. Л. Петрашкевіча: У. А. Беламу [1970], В. Б. Валадзько (1995), С. М. Васільевай [1985], Н. С. Гілевічу 2 (2003, [2000-я]),

Б. С. Глаголіну (1982), В. М. Паніну (1996), Г. Дз. Карпенку (1999), У. Л. Лупішу (1998), П. Е. Панчанку 2 (1985,1987), Г. Л. Тэйманісу (1981), Я. А. Чыквіну (2000), М. Штэпанюку [1990] і інш. Усяго каля 70 адр.

Пісьмы А. Л. Петрашкевіча ва ўстановы: ЦК КПБ 4 (1972–1980), рэд. часоп. «Театр» (1974), выд-вы «Молодая гвардия», «Искусство» (1974, 1983), Камітэт партыйнага кантролю пры ЦК КПСС 3 (1979), тэатр імя Я. Купалы 2 (1979), Гродзенскі абласны драм. тэатр 2 [1981], Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь 2 (1995) і інш.

Пісьмы А. Л. Петрашкевічу: І. І. Антановіча 3 (1969–1977), Г. Б. Асвяцінскага 2 (1969, 1976), Ю. А. Аскарава 3 (1974–1977), Г. П. Аўласенкі (1998), М. А. Арахоўскага 28 (1981–1991), Г. В. Вагау 5 (1976), А. К. Каўкі 12 (1986–1993), М. Ф. Мельнікава 5 (1981–1991), Ф. А. Палачаніна 3 (1999), П. Е. Панчанкі 5 (1988–1991), В. Ю. Ткачова 4 (1982–1986), І. П. Шамякіна 4 (1971–1978), Б. У. Эрына 3 (1974–1979), Ф. М. Янкоўскага 2 (1980) і інш., знаёмых і чытачоў 53 (1973–2000), сваякоў 3 (1970–1980). Усяго 187 кар.

Пісьмы А. Л. Петрашкевічу ад устаноў: БТА (1975), к/с «Беларусьфільм» 8 (1975–1981), Літаратурнага музея П. У. Броўкі 2 (1981, 1984), СП БССР 3 (1982–1990), СП СССР 5 (1970–1990), Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР 2 (1984, 1988), рэд. часоп. «Театр» 27 (1970–1985), гал. рэд. радыёвяшчання для моладзі «Юнацтва» 2 (1979), Міністэрства культуры УССР 4 (1974–1984), Крымскага акадэмічнага рускага драм. тэатра імя М. Горкага 5 (1970–1978), выд-ва «Българска энциклопедия» 3 (1973) і інш.

Дароўныя надпісы А. Л. Петрашкевічу М. З. Башлакова, А. Я. Белага, Г. А. Дзягілевай, В. І. Ермаловіча, С. А. Картэса, Ю. А. Лабынцава, В. У. Скалабана і інш. на буклетах, праграмах (1976–[1995]). Усяго 18 дароўных надпісаў.

Дакументы да біяграфіі А. Л. Петрашкевіча (1950–2006). Аўтабіяграфіі 4 (1954–1990), коп. дыпломаў аб заканчэнні БДУ (1955), прысваенні вуч. ступені кандыдата гістарычных навук (1967), дакты аб працы над доктарскай дысертацыяй «Камсамол Беларусі ў камуністычным будаўніцтве (1959–1967)» (1967–1980), аб уступленні ў члены СП БССР (1974), характарыстыкі (1974–1991), рэкамендацыі

А. А. Андруховічу, І. А. Масляніцынай, П. І. Сабіне, У. Т. Халіпу для прыёму ў члены СП БССР (1990–1998), запрашэнні на пасяджэнні, прыёмы, вечары (1968–2006); дак-ты аб працы ў БелСЭ (1967–1991); дак-ты аб працы ў арганізацыйна-метадычным цэнтры па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» пры Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь (1986–1998): дак-ты СМ Рэспублікі Беларусь па ўшанаванні памяці абаронцаў Айчыны — загады, пастановы (1990–1997); дак-ты Цэнтра «Памяць»: праекты загадаў (1986–1995), пратаколы пасяджэнняў, рашэнні выканкамаў (1991–1996), справаздачы аб камандзіроўках супрацоўнікаў (1991–1994), аб выніках працы па выданні хронік (1992–1998), інфармацыі гарадскіх, абласных, раённых цэнтраў па выданні хронік (1990–1998), даведкі А. Л. Петрашкевіча аб падрыхт. і выданні хронік (1990–1998); перапіска з Дзяржкамдрукам БССР, райвыканкамамі, пісьменнікамі (1989–1998); метадычныя дак-ты па выданні кніг «Памяць»(1989–1994); артыкулы, нататкі, выступленні пра выданне хронік «Памяць» (1986–1998); дак-ты аб працы ў Беларускім дзярж. універсітэце культуры: загад, план адкрыцця (1975–1976), дак-ты выдання студэнцкага літ. альманаха «Альфабэт» (2001–2004); дагаворы выд-ваў «Мастацкая літаратура», «Беларусь», «Искусство», «Містецтво» (Украіна), «Советский писатель» і інш. (1962–2002), к/с «Беларусьфільм», тэатра імя Я. Коласа, ДАВТ БССР, Дзярж. рускага тэатра імя М. Горкага (1973–1982); дак-ты ўдзелу А. Л. Петрашкевіча ў конкурсах на лепшую камедыю (1975–1989); дак-ты аб правядзенні Усебеларускага фестывалю народнага гумару ў Аўцюках і вечарын народнага гумару «Смех — не жартачкі» (1994–2001); праграмы, буклеты, афішы, запрашальныя білеты на спектаклі па п'есах А. Л. Петрашкевіча (1969–2003); дак-ты Беларускага фонду славянскага пісьменства і культуры (1990–1995): аб удзеле ў падрыхт. Статута Беларускага аддзялення Міжнароднага фонду славянскай пісьменнасці і славянскіх культур (1990–1991), аб правядзенні святаў славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі (1990–1994), акцыі «Неугасимая Лампада славянских народов» (1992–1994), аб правядзенні Дзён славянскага пісьменства і культуры ў Расіі (1994–1995);

дак-ты аб удзеле А. Л. Петрашкевіча ў навуковым савеце Літаратурнага музея П. У. Броўкі (1980–2005), Беларускім фондзе культуры (1991–1994), у МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» (1991–2007), IV кангрэсе дэмакратычных сіл (2000), Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі (2003), аб удзеле ў рабоце мастацкага савета к/с «Беларусьфільм» (1976–1985), Экалагічнай камісіі пры Прэзідыуме АН БССР (1989–1992) і інш.; дак-ты юбілейных дат, узнагарод, ганаровых званняў (1980–2000).

Сцэнарыі радыёперадач Т. А. Абакумоўскай пра спектакль тэатра імя Я. Коласа «Трывога» — маш. (1973), тэлеперадачы А. А. Лабовіча пра спектакль Гомельскага драм. тэатра «Укралі кодэкс» — маш., выр. з газ. (1975, 1976); артыкулы, нататкі, інфармацыі пра А. Л. Петрашкевіча (1974–2004) і пра пастаноўкі спектакляў па яго п'есах у тэатрах Беларусі, Расіі, Украіны (1969–1999); рэцэнзіі В. А. Каваленкі, С. С. Лаўшука і інш. на зб. п'ес А. Л. Петрашкевіча «Соль», п'есы «Адкуль грэх?», «Укралі кодэкс», «Змова» і інш. (1962–1981), на оперу «Новая зямля» (лібрэта А. Л. Петрашкевіча) — выр. з газ. (198–1983), рэцэнзіі на спектаклі тэатра імя Я. Купалы, Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі, Гродзенскага абласнога драм. тэатра, Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага, Бранскага драм. тэатра, Кіеўскага тэатра драмы і камедыі, Данецкага абласнога тэатра юнага гледача і інш., паст. па яго п'есах (1969–2004), на мастацкі фільм «Нядзельная ноч» — выр. з газ. (1977), тэлефільм «Время выбрало нас» — выр. з газ. (1978–1979), знятыя на к/с «Беларусьфільм»; пісьмы гледачоў, радыёслухачоў і чытачоў з водгукамі на спектаклі па п'есах А. Л. Петрашкевіча, тэлефільм «Время выбрало нас» (1974–1979).

Дакументы да напісання п'ес: «Трывога» — артыкулы аб шкодзе п'янства (1970–1972), «Злыдзень» — выказванні У. І. Леніна пра «бюракратызм» [пач. 1970-х], «Соль» — артыкулы аб экалагічных праблемах — выр. з газ. (1976–1988), картатэка да п'есы «Гора і слава» = «Русь Кіеўская» [кан. 1970-х], «Злавеснае рэха» — выпіскі аб палітыцы генацыда гітлераўскай Германіей (1941–1982), «В гнилом дупле совы» — артыкулы пра чарнобыльскую трагедыю (1986–

1991), «Напісанае застаецца» — дак-ты пра Ф. Скарыну (1925–1989), «Наканавана быць прарокам» — дак-ты пра Я. Купалу (1924–1994), «Катастрофа разума» — артыкулы, выпіскі пра генацыд яўрэеў і інш. (1998); дак-ты да напісання дак. аповесці падпольшчыка С. П. Шмуглеўскага «Рядовые подполья» (літ. запіс А. Л. Петрашкевіча) — яго ўспаміны «Они победили смерть» [пач. 1960-х], успаміны былых удзельнікаў падпольнай камсамольскай арганізацыі Асінторфа (1960); дак-ты да напісання нарыса «Ад бога да людзей» — успаміны пра Ж. А. Тарасевіч, яе вершы, пісьмы і інш. (1964–1966).

Рукапісы. П'есы Я. Главацкага «Антигона в Нью-Йорке» ў перакладзе з пол. м. І. С. Шчарбаковай-Знаменскай — ксеракоп. маш. (1993), А. Стасюка «Мухі» — маш. (2000); апавяданне М. А. Арахоўскага «Жоўты пясок» — маш. з паметай А. Л. Петрашкевіча; урыўкі з казак «Тысяча и одна ночь» у перакладзе Д. С. Самойлава, А. М. Рэвіча з арабск. м. — маш. [1970-я]; артыкулы пра барацьбу з алкагалізмам, на рэлігійныя тэмы і інш. (1966–1998); прадмова П. У. Броўкі да выдання БелСЭ — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, фотакоп. 1-й с. (1968); дак-ты пра А. Я. Карнейчука (праграма канцэрта да 80-годдзя з дня нараджэння, буклет) (1980, 1985), дак-ты пра І. К. Цішчанку (характарыстыка яго літ. дзейнасці, спіс публікацый) (1995); пісьмы: М. А. Савіцкага ў аддзел культуры ЦК КПБ (1976), А. М. Занеўскага да Н. Л. Сняжковай, М. І. Мірашнічэнкі да А. А. Жука і інш. па пытаннях аховы помнікаў у БССР, драматургічнага жанра і інш. (1977–1996); газ. «Красная звезда» (1978), «Прохоровское поле» (1995), «Сцяг Ільіча» (г. Талачын) (1994); брашуры і буклеты оперных спектакляў, спектакляў Маскоўскага тэатра сатыры, МХАТ, БДТ (1973–1988).

Фота А. Л. Петрашкевіча, індывідуальныя, 51 (1932–2002); М. І. і Л. І. Петрашкевічаў (бацькоў) 3 (1932 – [кан.1970-х]); з А. М. Адамовічам, З. І. Азгурам, Я. Брылём, А. С. Грачанікавым, С. І. Законнікавым, І. М. Лучанком, А. Я. Макаёнкам, П. Е. Панчанкам, М. А. Савіцкім, Я. Семяжонам, М. Танкам, І. П. Шамякіным, В. Ф. Шматавым, М. М. Яроменкам і інш. 98 (1953–1994).

Фота А. Л. Петрашкевіча з Г. А. Аліевым, П. У. Броўкам, А. Ц. Ганчаром, І. Д. Казекам, П. М. Машэравым, В. У. Скалабанам, І. П. Ша-

мякіным і інш. у час працы ў ЦК ЛКСМБ, ЦК КПБ, Беларускім дзярж. універсітэце культуры, БелСЭ 131 [1950-я–1980-я].

Фота сцэн са спектакляў тэатра імя Я. Купалы, тэатра імя Я. Коласа, Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі, Гродзенскага абласнога драм. тэатра, Бранскага дзярж. драм. тэатра, Кіеўскага тэатра драмы і камедыі і інш.: «Адкуль грэх?» «Злыдзень», «Трывога», «Напісанае застаецца», «Соль», «Укралі кодэкс» і інш. з удзелам У. І. Дзядзюшкі, П. П. Дубашынскага, У. А. Куляшова, Г. П. Маркінай, У. М. Рагаўцова і інш., паст. па п’есах А. Л. Петрашкевіча 196 (1969–1984); фота кадраў з тэлефільма «Время выбрало нас» (сцэн. А. Л. Петрашкевіча і У. Т. Халіпа) з удзелам П. С. Вельямінава, М. М. Дзюжавай, Я. П. Карэльскіх, В. П. Паўлава і інш. 22 (1976–1978), маст. фільма «Нядзельная ноч» (сцэн. А. Л. Петрашкевіча) з удзелам Л. В. Зайцавай, В. Г. Лысенкі, Т. Т. Мужэнкі і інш. (1977).

Фота П. У. Броўкі, індывідуальныя і з Я. Купалам, 4 (1940–[1968, 1969]), з К. Крапівой, І. П. Мележам, Т. К. Хадкевічам, І. П. Шамякіным, Я. Брыля з П. Е. Панчанкам — арыгіналы, коп., 7 (1940, [1968]–1981).

Фота вокладак кніг з п’есамі А. Л. Петрашкевіча «Адкуль грэх?», «Тревога», «Укралі кодэкс» 5 (1970–1979); эскізаў афіш, дэкарацый М. М. Якуніна да спектакляў «Несцерка», «Аптымістычная трагедыя» Гродзенскага абласнога драм. тэатра 5 (1976–1980).

Экслібрыс Л. Круглікавай «Франциск Скорина 500» — літаграфія (1990).

П’еса Д. Мэмета «Жыццё ў тэатры» ў перакладзе А. А. Петрашкевіча (сына) з англ. м. (1978–1979).

## ПЕШКУР І. І.

**Ф. 391. Воп. 1, 172 адз. зах., 425 дак., 1935–1982, 2019 гг.**

***Пешкур Іван Іванавіч*** *(1921–1980) — мастак тэатра, жывапісец*

Малюнкі І. І. Пешкура. Эскізы дэкарацый да спектакляў: Дзярж. тэатра оперы і балета БССР — «Девушка из Полесья» Я. К. Цікоц-

кага (1952), «Подставная невеста» Г. М. Вагнера 4 (1958); ТЮГ БССР — «Папараць-кветка» І. В. Козела (1957), [«Квартэт Алямбор» М. Г. Віннікава] [1960], [«Мальчики из Гаваны» В. М. Чычкова] [1963], «Дама-невідзімка» П. Кальдэрона (1964), [«Прыгоды Бураціна» А. М. Талстога] 2 [1966], «Ваўкі і авечкі» А. М. Астроўскага 11 (1969); народных і самадзейных тэатраў БССР — [«Космический гость» Б. Э. Рабкіна] 2 [1962], «Остров твоей мечты» М. Я. Заруднага 5 (1964), [«Так и будет» К. М. Сіманава] 2 [1966], [«Марат Казей» В. А. Зуба] 2 (1972), «Баллада о весёлых жаворонках» Т. Г. Ян 11 (1980); Белдзяржкансерваторыі — [«Евгений Онегин» П. І. Чайкоўскага] 6 (1969) і інш.; эскізы афармлення канцэртаў 8 (1959–[1970-я]), касцюмаў 6 [1950-я–1970-я]; аўтапартрэты 2 (1946, 1960-я) і партрэт неўст. асобы [1940-я]; пейзажы 6 (1963–1976); замалёўкі і альбом з накідамі партрэтаў, дэкарацый да спектакляў і інш. 113 (1947–1969). Усяго 220 мал.

Фота эскізаў дэкарацый 27 (1951–[1970-я]), эскізаў касцюмаў для хору 8 [1950-я–1960-я], партрэтаў 6 (1969–1974), пейзажаў 60 (1953–[1970-я]).

Дакументы да біяграфіі І. І. Пешкура (1935–1968). Пасведчанне аб заканчэнні няпоўнай сярэдняй школы (1935), атэстат Віцебскага мастацкага вучылішча (1939), ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (1954), дыплом лаўрэата Усесаюзнага фестывалю драматычных і музычных тэатраў, ансамбляў і хораў за мастацкае афармленне спектакля ТЮГ «Папараць-кветка» І. В. Козела (1957); праграмы спектакляў, аформленых І. І. Пешкурам: Дзярж. тэатра оперы і балета БССР — опернага спектакля «Русалка» А. С. Даргамыжскага (1955), балетнага спектакля «Подставная невеста» Г. М. Вагнера (1958); ТЮГ БССР — «Час любві і нянавісці» Я. І. Пасава (1960), «Усё гэта не так проста» Р. М. Шмялёва (1962), «Дзе ты, Святлана?» Т. Г. Ян (1962), «Бумеранг» А. Татарскага (1966), «Чырвоная шапачка» Я. Л. Шварца (1967), «Мядовае каралеўства» Л. Я. Усцінава (1968); афішы спектакляў, афармленых І. І. Пешкурам: ТЮГ БССР — «Салёны кавун» К. Палякова (1965), народнага Дома

культуры МАЗа — «Егор Булычов и другие» М. Горкага (1968); спісы балетных, оперных і інш. спектакляў, аформленых І. І. Пешкурам, спісы мастацкіх работ (1972–1973); афіша і каталог выстаўкі твораў І. І. Пешкура, прысвеч. 50-годдзю з дня нараджэння (1975); пасведчанне Міністэрства культуры БССР аб занясенні ў кнігу працоўнай славы (1978); віншаванні ДАВТа БССР з 35-годдзем з Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне (1980) і інш.

Дакументы пра І. І. Пешкура (1961–2019). Артыкулы з упам. І. І. Пешкура — выр. з газ. (1957–1976); паведамленне Натарыяльнай канторы г. Мінска аб набыцці Міністэрствам культуры БССР мастац. твора «Начало» (1981), запрашэнне Саюза мастакоў БССР на выстаўку твораў І. І. Пешкура (1982), біяграфія І. І. Пешкура, напісаная яго дачкой М. І. Пешкур для інтэрнэт-сайта (2019).

Дакументы, сабраныя І. І. Пешкурам (1947–1975). Праграма опернага спектакля Дзярж. тэатра оперы і балета БССР «Кастусь Каліноўскі» Дз. А. Лукаса (1947), артыкулы аб спектаклях ДАВТ БССР, ТЮГ БССР, самадзейных народных і школьных тэатрах БССР — выр. з газ. (1955–1967); каталог Саюза мастакоў БССР IV Рэсп. выстаўкі акварэлі (1975) і інш.

Фота І. І. Пешкура, індывідуальныя, 14 [1940-я–1970-я], са сваякамі і сябрамі 12 ([1930-я] – 1972), з мастакамі М. А. Блішчом, В. К. Жолтак, У. П. Кульваноўскім, П. В. Масленікавым, С. П. Нікалаевым, І. А. Саніным, М. П. Чэпікам і інш. 14 (1947–[1970-я]).

Фота ў групах: дырэктара Віцебскага мастацкага вучылішча Дзямідава з неўст. асобамі (1936), І. С. Абраміса з М. А. Блішчом і інш. [1950-я], В. І. Крыкавай з дачкой [1950-я–1960-я], У. М. Стэльмаха з Г. І. Пешкур (дачкой І. І. Пешкура) (1961), Я. Р. Чамадурава, індывідуальныя і з неўст. асобамі [1970-я].

Фота індывідуальныя П. А. Карнача [1950-я], Л. І. Мазалеўскай [1950-я].

Фота сцэн са спектакляў ТЮГ БССР (мастак І. І. Пешкур) «Папараць-кветка» І. В. Козела з удзелам А. А. Ротар, Л. Я. Цімафеевай, Ю. Ф. Фляйто і інш. 3 (1957), «За лясамі дрымучымі» А. В. Вольскага і П. М. Макаля з удзелам У. М. Говар-Бандарэнкі, В. Ц. Лебедзева,

А. А. Ротар, Л. Я. Цімафеевай і інш. 9 (1958), «Не верце цішыні» І. П. Шамякіна (1958) і інш.

Экслібрысы Я. Я. Красоўскага для Р. С. Бедрасяна, В. Д. Каралюка, В. К. Палікарпава, Е. Харытоненкі — афорты [1960-я].

Фота архітэктурных помнікаў Беларусі і Расіі 9 (1961–[1970-я]).

Фота сцэн з опернага спектакля Маскоўскага муз. тэатра імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі «Так поступают все» В. А. Моцарта (рэж. П. С. Златагораў, мастак А. Ф. Лушын) 2 (1962).

Малюнкі [І. І. Пешкур (дачкі)]: групавы партрэт, замалёўка гарадской архітэктуры, накіды птушак і дзіцячай галавы — алов., вугаль 6 [1960-я].

## ПРУДНІКАЎ П. І.

**Ф. 332. Воп. 1, 44 адз. зах., 272 дак., 1956 – [кан. 1990-х], коп. 1931–[1933] гг.**

***Прудднікаў Павел Іванавіч*** *(1911–2000) — паэт, празаік, нарысіст, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь*

Рукапісы П. І. Прудднікава. Аповесці: «Вандроўка па пакутах» (1979), «Яжоўскія рукавіцы» = «Вожыкавыя рукавіцы» (1987), «Паўночнае пекла» (1988); сцэн. тэлеперадач «Маладосць мая, незабыўная» № 2 і 3 пра М. Зарэцкага і М. Чарота — маш. з аўт. праўкай (1987); зб. дак. апавяданняў «На парахавой бочцы» (1985) — маш. з нязн. аўт. праўкай; паэмы: «Заасцёр'е» (1968) — маш. з нязн. аўт. праўкай, «Прыазёрная быль» — маш. з аўт. праўкай (1971), «Пікет за пікетам» — маш. (1978), «Запозненае прасвятленне» і «Таймыр» (1990); вершы (1958–1992); падборкі вершаў да зб-каў: «Час майго нараджэння» (1968), «Прысады» — маш. (1979), «Мая магістраль» — маш. з аўт. праўкай (1981), «Заасцёр'е» — маш. з нязн. аўт. праўкай, маш. (1986), «Познія ягады» — маш. з аўт. праўкай, маш. (1990), «Крыніцы» — маш. з аўт. праўкай, маш. (1991); нарысы, прысвеч. К. Л. Грыневічу, С. Ракіце (С. В. Законнікаву), С. П. Шуш-

кевічу і інш. (1972–1992); артыкулы і нататкі (1972–1992); рэцэнзіі і анатацыя (1978–1990); выступленні на пленумах СП БССР і СП Беларусі, жалобным мітынгу ва ўрочышчы Курапаты і інш. (1987–1994); аўтабіяграфія і біяграфічная даведка ([1981], 1985); успаміны пра З. А. Бандарыну, К. А. Пушкарэвіча, П. А. Труса, Р. М. Хацкевіча, Л. У. Шчэрбу і інш. (1977–1983); зб. успамінаў «Далёкае, але не забытае» — маш. з аўт. праўкай (1978–1983); вершы ў перакладзе на рус. і ўдм. м. (1984, 1993); аўтабібліяграфія за 1973–1985 гг. Усяго 228 рук.

Пісьмы П. І. Пруднікаву выд-ва «Мастацкая літаратура» (1973) і праўлення СП БССР (1978). Усяго 2 кар.

Дакументы да біяграфіі П. І. Пруднікава (1956–1992). Дак-ты аб рэабілітацыі (1956–1992), мандат дэлегата XI з’езда пісьменнікаў Беларусі (1994), заявы ў выд-ва «Мастацкая літаратура» (1981) і прэзідыум СП БССР (1975, 1985).

Артыкулы і нататкі пра П. І. Пруднікава (1971–1991); рэцэнзіі і водгукі на зб-кі вершаў і ўспамінаў П. І. Пруднікава (1981–1992); інтэрв’ю карэспандэнту газ. «Знамя Юности» (1991), размова з Л. У. Мараковым [кан. 1990-х] і інш.

З. Віталін (Дз. Р. Сергіевіч). Вершы са зб. «Будзем жыць!» — маш. коп. [1970-я].

Фота П. І. Пруднікава, індывідуальныя, 7 (1980 – [пач. 1990-х]) і ў групах з З. Віталіным, К. Л. Грыневічам, А. Т. Пруднікавым, А. Старавыборным і інш. 2 — коп. [1030–1931], вучнямі СШ № 150 г. Мінска [1984].

Фота К. Л. Грыневіча — коп. [1933].

## РЭЗНІК І. І.

**Ф. 490. Воп. 1, 276 адз. зах., 2578 дак., 1887–1997 гг.**

***Рэзнік Ілля Іосіфавіч*** *(нар. 1934) — кіназнавец*

Рукапісы І. І. Рэзніка. Дакументальны нарыс «Умела защищать Родину» — аўтогр., маш.; артыкулы: «Семінар школьных бібліятэкараў» (1955), «Ведаць свайго чытача і кнігапрадаўца» (1958),

«За што я люблю Дзям'яна Беднага» (1963), «И поставили ребята оперу…» (1964), «Полвека по ступенькам лет» (1967), «Такая ты была, Анюта…» (1968), «Першы беларускі гістарычны» (1969), «Другое прызванне» (1969), «История далёкая и близкая…» (1974), «Дзержинский и кино» (1975), «Есть такой фильм» (1977), «Они были первыми» (1979), «Кинокомедии — полвека» (1979), «Першы кінадырэктар» (1980), «Сны з сорак першага» (1985), «Если в титрах фильма Евгений Ганкин…» (1992), «Возвратить из небытия» (1992), «Каждый выстрел отдавался в сердце…» (1993) «В ансамбле только мужчины…» (1994) і інш. — выр. з друкав. выд.; рэцэнзіі (1954–1956); апавяданні ([1952]–1994); фельетоны (1959–1994); сцэн. тэлеперадачы «Дорогами Людмилы Зарецкой» [1969–1970]; вершы ([1970-я]–1983); п'еса «День рождения» [1970-я]; казка «Старик и золотая рыбка» [1970-я]; дзённікавыя запісы — сшыткі, блакнот (1951–1962) і інш. Усяго 552 рук.

Запісныя кніжкі І. І. Рэзніка 59 [кан. 1950-х–1990-я].

Пісьмы І. І. Рэзніка: Э.Л. Аршанскаму (1968), М. С. Данскому (1968), Р. Ю. Каганавай (1980), М. Б. Кацельнікаву (1977), Л. В. Крэсінай [1970-я ], Р. У. Рэзнік (жонцы) (1978). Усяго 28 адр.

Пісьмы І. І. Рэзніка ва ўстановы: архіў Міністэрства абароны СССР [1969], Даўгінаўскі дзіцячы дом Крывічскага р-на Маладзечанскай вобл. (1956), Міністэрства сац. забеспячэння Рэспублікі Беларусь (1993) і інш.

Пісьмы І. І. Рэзніку: М. А. Авербаха (1968), А. Г. Аляксеева 2 (1982), М. Д. Архіпавай 3 (1968–1972), М. В. Багілдз 3 (1968–1969), Э. Л. Аршанскага 20 (1968–1974), Т. Д. Булах-Гардзінай 30 (1968–1973), Л. Данілава 3 [1970-я], Т. І. Джаціева (1970), А. Н. Іеўскай [1981], Р. Ю. Каганавай [1980], М. Б. Кацельнікава 13 (1968–1977), Г. С. Краўчанкі 5 (1974–1976), Х. М. Крамнік 6 (1960–1975), М. А. Калініна 4 (1968–1969), М. М. Казіцкай [1969], Г. Ф. Кеймах 35 (1969–1982), Л. В. Крэсінай 38 (1969–1983), М. Б. Пруднікава 7 (1970–1973), М. І. Рома 2 (1971), Р. М. Свярдловай 8(1969–1985), М. І. Таўбэ 19 (1976–1982), З. Таль 2 (1969, 1971), А. М. Файнцымера (1981), Л. Ф. Фёдаравай 5 (1969), С. Ф. Шышко (1970), С. Юркевіча (1973)

і інш., пісьмы сваякоў, знаёмых, сяброў 14 (1952–1997). Усяго каля 66 кар.

Пісьмы І. І. Рэзніку ад устаноў: рэд. газ. «Сталинская молодёжь» 2 (1953, 1955), часопісаў «Крокодил» 2 (1954, 1975), «Нёман» (1976), выд-ва «Беларусь» (1976), архіва Міністэрства абароны СССР (1974), Цемрукскага гісторыка-археалагічнага дома-музея М. Ю. Лермантава ў Тамані (1982) і інш.

Дакументы да біяграфіі І. І. Рэзніка (1921–1997).

Дакументы Ю. В. Тарыча і пра яго. Праграмы спектакляў драмгуртка клуба імя Я. М. Свярдлова пры Усесаюзным Цэнтральным выканаўчым камітэце (ВЦИК) — коп.; спіс дзеючых асоб маст. фільма Ю. В. Тарыча «Лесная быль» — фотакоп. (1926); афіша маст. фільма Ю. В. Тарыча «До завтра» — фотакоп. (1929); успаміны Ю. В. Тарыча пра працу над роллю У. І. Леніна ў спектаклі «Гибель самодержавия» драмгуртка клуба імя Я. М. Свярдлова — аўтогр., маш. коп. (1924–1965); пісьмы Ю. В. Тарычу: І. М. Барашкі (1966), У. У. Корша-Сабліна (1967), Б. М. Тамарына 3 (1966); білет члена Імператарскага Рускага тэатральнага таварыства на 1911 год — коп., «Юрий Тарич» — мантажны запіс дак. фільма творчага аб'яднання «Летапіс» к/с «Беларусьфільм»; артыкулы Б. Казлова, [Н.] Ліціжынскага і інш. пра дзейнасць драмгуртка клуба імя Я. М. Свярдлова з упам. пра Ю. В. Тарыча (1924) — маш. коп.; артыкулы пра Ю. В. Тарыча: І. І. Гелера «Актёр, писатель, режиссёр» — выр. з друкав. выд. (1967), І. І. Гелера «Мой первый наставник» — выр. з друкав. выд. (1985); успаміны пра Ю. В. Тарыча Л. Я. Анцы-Палоўскага (1968), І. І. Гелера (1967), Р. М. Свярдловай [1960-я]; пісьмы Н. А. Любошыца П. П. Шамшуру з успамінамі пра Ю. В. Тарыча 2 (1976); некралог, тэлеграмы У. У. Корша-Сабліна, А. У. Сурына, Саюза кінематаграфістаў БССР са спачуваннямі сваякам у сувязі са смерцю Ю. В. Тарыча (1967). Фота кадраў і рабочых момантаў здымак фільмаў Ю. В. Тарыча «Крылья холопа»(1925), «Первые огни» (1925), «Лясная быль» (1926), «До завтра» (1929), «Нянавісць» (1930), «Одиннадцатое июля» (1938), «Белорусские новеллы» (сумесна з У. У. Коршам-Сабліным) (1942) з удзелам Л. Данілава, М. Б. Кацельнікава, І. Клюквіна, П. Ражыцкага,

Р. М. Свярдловай і інш. Фота Ю. В. Тарыча, індывідуальныя і з сям'ёй — арыгіналы, коп., 6 (1903–1965). Фота А. М. Тыдэбель (цёткі Ю. В. Тарыча) — арыгіналы, коп., 2 [1870-я].

Дакументы М. І. Таўбэ. Дакументы абмеркавання фільма «Счастье» (рэж. А. М. Файнцымер, аўт. сцэн. М. І. Таўбэ, А. М. Файнцымер) (1932); успаміны М. І. Таўбэ «Мае кінематаграфічныя ўніверсітэты…» — выр. з друкав. выд. (1979). Фота М. І. Таўбэ, індывідуальныя і з бацькамі — арыгіналы, коп., 7 ([1916]–1928), сярод супрацоўнікаў рэдакцый газет 2 (1928). Фота А. Ю. Таўбэ (маці), індывідуальныя і сярод выхаванцаў Дома юнацтва імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Віцебску, 8 (1907–[1927]).

Рукапісы. Р. Я. Кобец «Двойчы народжаны» — літ. сцэн. фільма — маш. з праўкай [1933], А. Полагаў «Красный агат» — рэж. сцэн. мастацкага фільма па літ. сцэн. У. С. Караткевіча — друкав. выд. (1973); М. А. Авербах «Начало пути. Страницы из дневника» — маш. (1974); М. С. Данскі, М. Л. Крэсін, У. У. Уладамірскі, П. П. Шамшур і інш. — успаміны пра здымкі фільмаў «Кастусь Калиновский», «Полесские робинзоны» і інш. — маш. з аўт. праўкай, выр. з друкав. выд. (1968–[1970-я]); артыкулы Б. І. Волчака (1970), Ю. І. Каюрава (1980), С. Юткевіча (1980) і інш. аб здымках фільмаў пра У. І. Леніна — выр. з друкав. выд.; Б. Гусева (1969), К. Лапушанскага (1989), К. М. Сіманава (1966), А. Ямпольскай (1994) і інш. пра акцёраў — выр. з друкав. выд.; Е. Л. Бондаравай (1972), І. М. Дабралюбава (1974), А. В. Красінскага (1975), С. Фрэйліха (1978) і інш. пра развіццё беларускага кінематографа — выр. з друкав. выд.; рэцэнзіі і інш. на маст. фільмы к/с «Беларусьфільм» — маш., выр. з друкав. выд. (1965–1997).

М. М. Рошчын «Воспоминание» — урывак з аповесці (1988), апавяданні У. Ф. Цендракова, Н. Я. Цыпіса (1988), вершы Б. Ш. Акуджавы, Б. С. Вайханскага, А. Т. Твардоўскага і інш. (1967–1997), артыкулы (1942–1997), успаміны (1972–1995) — маш., выр. з друкав. выд.; часоп «Кино» (1922), газ. «Рабочий Кронштадт» (1936), газ. «Вечерняя Москва» (1941).

Артыкулы І. Аграчовай, Р. Гурэвіч, І. Зільбермана, М. Мірскага, А. Рыжыкава, Л. Смілавіцкага і інш. пра жыццё ў Ізралі (1989–

1997) — выр. з друкав. выд.; выпіскі па гісторыі яўрэйскага народа (1990–[1990 –я ]).

Пісьмы: Л. М. Андрэева да М. Ф. Казлоўскага (1909), М. Ф. Казлоўскага да Л. М. Талстога — коп. (1910), А. В. Дранкова да Т. Л. Талстой-Сухоцінай (дачкі Л. М. Талстога) 6 — коп. (1910–1911).

Дакументы М. В. Кацельнікава — фотакоп. (1918–1933), творчая картка М. З. Берава (1968).

Фота І. І. Рэзніка, індывідуальныя і з калегамі па працы, 8 ([1970-я ]–1994).

Фота Т. І. і Г. І. Рэзнік (дачок), індывідуальныя, і інш. сваякоў 18 ([1950-я]–1986).

Фота кадраў і рабочых момантаў здымак фільмаў: В. Кубліцкага «Грышка-свінапас» 2 [1926], У. Г. Гардзіна «Кастусь Каліноўскі» (1927), «Чатырыста мільёнаў» (1928), Л. М. Малчанава «Сосны шумят» 2 (1929), А. В. Іваноўскага «Кавказский пленник» (1930), А. Гаўронскага, В. Уліцкай «Сапраўднае жыццё» (1930), А. М. Файнцымера «Счастье» (1932), Л. Я. Анцы-Палоўскага «Враг у порога» (1931), Р. Мільман-Крымера, Б. Шпіса «Земля впереди» (1935), У. У. Корша-Сабліна, А. У. Спешнева «Москва — Генуя» (1964), У. У. Корша-Сабліна «Крушение империи» (1964), І. А. Шульмана «Чужое имя» (1966), Б. І. Волчака «Обвиняются в убийстве» (1969), Ю. М. Сурыкава «Озадаченный Савка» (1971), В. Д. Рубінчыка «Последнее лето детства» (1974), Э. Г. Клімава «Иди и смотри» (1985) з удзелам Т. Д. Булах, Л. Данілава, М. Ф. Казлоўскага, Л. М. Малчанава, С. Паначэўнага, В. М. Полы, А. Г. Ягоравай і інш.

Фота кадраў фільмаў пра У. І. Леніна: С. В. Васільева «В дни Октября» (1958), Е. М. Андрыканіса «Казнены на рассвете» (1964), М. С. Данскога «Сердце матери» (1965), Г. Райша «На пути к Ленину» (1969), В. С. Ардынскага «Красная площадь» 2(1970), Л. В. Вагаршана «Ссыльный № 011» і інш.

Фота І. Севяраніна [1920-я], М. Ц. Лынькова — коп., 3 [1943–1950–я ], Я. Коласа — коп. [1950-я], Л. М. Сейфулінай [1930-я]; М. Б. Кацельнікава, індывідуальныя, 2 (1917, 1923), М. Ф. Казлоўскага — коп. [1920-я], В. М. Шаталава [1970-я], С. М. Браўдэ 2 [1970-я];

П. С. Малчанава, індывідуальныя і ў групе з І. П. Дорскім, М. Ф. Шмыровым і інш., 3 (1946–[1977]); І. І. Салавейчыка, індывідуальныя і ў групе з П. У. Броўкам, Т. К. Хадкевічам і інш. [1950-я–1960-я]; Б. М. Сцяпанава, А. Ц. Аўдзеева і інш. на абмеркаванні фільма «Волчья стая» па аповесці В. У. Быкава (1975).

Фотапаштоўкі, фота краявідаў гарадоў Беларусі, Расіі, Украіны 24 (1955–1990); фота кінатэатра «Зорька» (г. Мінск) [1950-я], ансамбля народных інструментаў «Музычны момант» (1995).

## РЭЛЕС Р. Л.

**Ф. 179. Воп. 2, 28 адз. зах. 195 дак., [1920-я]–1997 гг.**

***Рэлес Рыгор Львовіч (Гірш Саламонавіч)*** *(1913–2004) — паэт, празаік*

Рукапісы Р. Л. Рэлеса. Апавяданні да зб. «Первая четверть» (1980), дак. аповесць «Вокруг событий в Лахвинском гетто» [1980-я]; паэмы і вершы на мове ідыш (1936–[1990-я]), падборка вершаў да зб. «אין פשין» («У адлюстраванні») на мове ідыш (1997); артыкулы ([1970-я]–1997); успаміны пра М. М. Грубіяна, Ц. Л. Даўгапольскага, С. Р. Каган, М. С. Тэйфа і інш. на мове ідыш — маш. [1980-я–1990-я].

Пераклады вершаў Р. Л. Рэлеса неўст. аўтарам з мовы ідыш на рус. м. [1970-я–1970-я] і інш. Усяго 725 рук.

Фота Р. Л. Рэлеса, індывідуальныя, у групах з З. І. Азгурам, Ю. С. Арончык, А. І. Вярцінскім, В. С. Гарбуком, Ю. П. Гаўруком, П. С. Пестраком, І. Х. Платнерам, М. І. Плаўнік, А. Я. Трэпелем, Дз. З. Харык і інш.— арыгіналы і коп., 9 (1929–1978).

Фота трупы артыстаў яўрэйскага перасоўнага тэатра БССР А. З. Бродкіна, В. Я. Галаўчынера, З. М. Камінскага, Л. М. Літвінава, М. Б. Сокала і інш. — коп., 2 (1928, 1933); яўрэйскіх паэтаў і пісьменнікаў Ц. Л. Даўгапольскага, С. Р. Каган, М. С. Тэйфа, І. Д. Харыка і інш. — арыгіналы і коп., 7 [1920-я–1950-я] і інш.

## САБАЛЕНКА Р. К.

**Ф. 60. Воп. 3, 229 адз. зах., 1891 дак., 1930–1992 гг.**[20]

***Сабаленка Раман Карпавіч*** *(1907–1975) — празаік, паэт, публіцыст*

Рукапісы Р. К. Сабаленкі. Зб-кі аповесцей і апавяданняў: «Спатканне пасля разлукі» — маш. з аўт. праўкай (1971), «Роздум у дарозе» — маш. з аўт. праўкай (1973), «Жывое рэха» — маш. з праўкай (1974); кніга аповесцей «Незамужняя ўдава. Былое застаецца ў сэрцы» — аўтогр., аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, маш. (1965), аповесці: «Юнацтва ў дарозе» — аўтогр., аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, выр. з часоп. (1960), «Былое застаецца ў сэрцы» — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, выр. з часоп. (1960–1961, 1963), «Незамужняя ўдава» — выр. з часоп. (1963–1964), «Трэці не лішні» — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай, выр. з часоп. (1969, 1970), «Падарожжа ў Рослікі» — выр. з часоп. і газ. (1970–1971), «Споведзь мужнасці» — аўтогр., маш з аўт. праўкай, выр з часоп. ([пач. 1970-х]–1977), «Мохарты» — аўтогр., аўтарыз. маш. з аўт. праўкай (1973–1975); зб-кі апавяданняў: «Святло ў вокны» — маш. (1962), «Паляўнічыя боты» — маш. (1962), «Пад дажджом і сонцам» — аўтарыз. маш. з аўт. праўкай (1966), апавяданні (1955–1975); нарысы (1964–[1974]); паэмы (1932–1950); падборкі вершаў да зб-каў: «Пачатак вясны» — маш. з аўт. праўкай [1946], «Мая эстафета» — маш. з аўт. праўкай (1953), «Дарункі маладосці» — маш. з аўт. праўкай (1970); вершы (1930–[1950-я]); артыкулы ([1945]–1975); рэцэнзіі на творы В. У. Адамчыка, А. П. Бялевіча, С. І. Грахоўскага, В. С. Палтаран, Т. К. Хадкевіча і інш. (1951–1975); выступленні (1965–1971); аўтабіяграфіі (1962); пераклады вершаў М. М. Асеева, Дз. Беднага, К. Бінкіса, Дз. М. Кавалёва, А. Рэграціса, Р. Л. Рэлеса і інш. на беларус. м. (1953–[1960-я]), нарыса Г. В. Мяцельскага «Літва ў сонечных промнях» — маш., выр. з друкав. выд. (1963). Усяго каля 1200 рук.

Запісныя кніжкі Р. К. Сабаленкі 16 (1952–[1960-я]).

[20]Анатацыю на воп. 1, 2 (1943–197) гл. Вып. 1. С. 221.

## ШКОЛЬНІКАЎ С. П., САГАЛЬЧЫК А. С.

**Ф. 389. Воп. 1, 68 адз. зах., 196 дак., [пач. XX ст.], 1949–1978 гг.**

***Школьнікаў Сямён Пейсахавіч*** *(1901–1977) — мастак-грымёр, заслужаны дзеяч культуры БССР (1966); яго зяць —* ***Сагальчык Аляксандр Самуілавіч*** *(1914–1998) — памочнік рэжысёра, загадчык мастацка-пастановачнай часткі тэатраў г. Мінска*

Дакументы творчай дзейнасці С. П. Школьнікава. Фота акцёраў у грыме, створаным С. П. Школьнікавым, 2 (1962–[1970-я]); фота С. П. Школьнікава ў час накладання грыму І. У. Ільінскаму для ролі Акіма 3 («Власть тьмы» (1963)), І. Б. Шацілу для ролі У. І. Леніна («Цветы живые» М. Ф. Пагодзіна) [1960-я] і М. Ф. Астангаву для ролі Пераразвонава 2 («Чёрные птицы» М. Ф. Пагодзіна) у Дзярж. рус. драм. тэатры БССР імя М. Горкага [1970-я], А. М. Генералаву для ролі У. І. Леніна («Октябрь» В. І. Мурадэлі) у ДАВТ БССР (1965) і інш.; фота яго скульптурных работ 4 (1965–1975). Усяго 13 фота.

«Як самому зрабіць парык, бараду і вусы» — адказ С. П. Школьнікава на пісьмо чытача ў газету — выр. з газ. [да 1971].

Дакументы ўкладальніцкай дзейнасці С. П. Школьнікава. «Учебные альбомы» № 1–3 з уклеенымі фота эскізаў тэатральных лялек С. П. Школьнікава 31, фота інш. лялек, батлеек, схем па тэхналогіі лялькі і інш. 444 [1975–1977].

Пісьмо С. П. Школьнікаву ад акцёраў маладзёжнай драмстудыі (1969), пісьмо і ксеракоп. дароўнага надпісу С. П. Школьнікаву ад І. У. Ільінскага (Расія) (1962, 1966).

Дакументы да біяграфіі С. П. Школьнікава (1955–1976). Брашура, прысвеч. Дзярж. рускаму драм. тэатру БССР імя М. Горкага (1959); афіша спектакля «Шестое июля» Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага (1966); каталог і афіша выставак самадзейных скульптараў (1967, 1971); дак-ты да юбілеяў С. П. Школьнікава: віншавальныя адрасы БДТМІ, БТА, Міністэрства культуры БССР і інш. (1951–1976), віншавальная тэлеграма калектыву Гомельскага аблас-

нога драм. тэатра (1976), ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР (1976) і інш. 45 [1976].

Артыкулы і нататкі пра і з упам. С. П. Школьнікава — выр. з газ. (1962–1970).

Дакументы, сабраныя С. П. Школьнікавым. «Парикмахеръ И. Андреев и Ко.». Ілюстраваны каталог прычосак — друкав. выд. [пач. XX ст.]; «Фабрика волосяных изделий». Ілюстраваны прэйскурант на 1912–1913 гг. — друкав. выд.; рэкламныя ўлёткі парыкоў, манікенаў і інш. (1914, [да 1917]); праграмы спектакляў «Иркутская история» А. М. Арбузава Дзярж. акадэмічнага тэатра імя Я. Вахтангава і «Братья Карамазовы» паводле М. Ф. Дастаеўскага Маскоўскага мастацкага тэатра СССР імя М. Горкага ([1959], 1962/1963); артыкулы пра жаночыя і мужчынскія прычоскі на пол. і рус. мовах — выр. з газ. і часоп. (1961–1969).

Экслібрыс С. П. Школьнікава неўст. аўтара — [дрэварыт] [1960-я–1970-я].

Фота С. П. Школьнікава, індывідуальнае [1960-я] і ў групах з Я. А. Громавым, К. В. Мамацюком і інш. выкладчыкамі і выпускнікамі БДТМІ, 4 (1975).

Дакументы А. С. Сагальчыка. «Грым — сур'ёзны, грым — кур'ёзны» = «Актёр и гримёр», «Што бачыць і чаго не бачыць глядач». Артыкулы і нататка — аўтарыз. маш., маш. з нязначным допісам А. С. Сагальчыка, выр. з газ. (1963 – [да 1975], аўтабіяграфія (1971). Усяго 7 рук.

Пісьмы А. С. Сагальчыку: віншавальная паштоўка А. В. Вольскага, [Ю. М. Турко], М. А. Шымко і інш. [1972–1975], пісьмы Дзярж. інстытута па праектаванні тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў «ГИПРОТЕАТР» 2 (1967). Усяго 3 кар.

Дакументы да біяграфіі А. С. Сагальчыка (1949–1978). Даведка аддзела кадраў аб працы ў ТЮГ БССР (1950); характарыстыкі (1962, 1978); праграмы спектакляў Дзярж. рускага драм. тэатра БССР імя М. Горкага «Варвары» М. Горкага, «Вторая любовь» па раману Е. Мальцава, «Дядя Ваня» А. П. Чэхава, «За Вторым фронтом» В. М. Сабко і інш. (1949–1962), праграмы спектакляў ТЮГ БССР «З любімымі не расставайцеся» А. М. Валодзіна, «Прыгоды Бураціна»

па А. М. Талстому і інш. (1966–1975); праграма спектакля тэатра імя Я. Купалы «Навальніца» А. М. Астроўскага (1975); ганаровыя граматы Прэзідыумаў Вярхоўнага Савета БССР і Азербайджанскай ССР, Міністэрства культуры БССР і інш. (1955–1974).

Б. І. Бур'ян. «Начальнік тылу» — артыкул пра А. С. Сагальчыка — выр. з газ. (1970).

Г. І. Барышаў. «Техника сцены и художественное оформление спектакля». Тэматычны план і праграма курса для спецыяльнасці «Кіраўнік самадзейнага тэатральнага калектыва» — аўтогр., маш. (1977, 1978).

Фота А. С. Сагальчыка, індывідуальныя, 2 (1967/1968, 1970).

## ШМАКАЎ Ф. І.

**Ф. 285. Воп. 1, 61 адз. зах., 126 дак., 1939–1981 гг.**

***Шмакаў Фёдар Іванавіч*** *(1917–2009) — акцёр, рэжысёр, народны артыст БССР (1959), народны артыст СССР (1975)*

Дакументы артыстычнай дзейнасці. Тэксты роляў, сыграных у тэатры імя Я. Коласа (1961, 1964). Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў: Дзярж. рускага драм. тэатра БССР — Вожеватова («Бесприданница» А. М. Астроўскага), Беспризорника («Кремлёвские куранты» М. Ф. Пагодзіна), Васи («Таланты и поклонники» А. М. Астроўскага) 4 (1939–1940); тэатра імя Я. Коласа — Авадзеня («Авадзень» Э. Л. Войніч), Аляксея Жмакіна («Адзін год» па раману Ю. П. Германа), Леніна («Вечная крыніца» Дз. І. Зорына), Пісьменніка («Выгнанне блудніцы» І. П. Шамякіна), Гарацыо («Гамлет» У. Шэкспіра), Сяргея («Іркуцкая гісторыя» А. Ф. Арбузава), Эдгара («Кароль Лір» У. Шэкспіра), Леніна («Сям'я» І. С. Папова), Пэпі («Тры салаў'і, д.17» Д. Дабрычаніна), Фёдара Галая («Разбуджанае сумленне» В. Шаўрына), Канстанціна («У бэзавым садзе» Ц. С. Саладара), Пеці Гарамыкіна («Цудоўны сплаў» У. М. Кіршона), («Чатыры крыжы на сонцы» А. А. Дзялендзіка), Андрэя Лабанава («Шукальнікі» Д. А. Граніна) і інш., індывідуальныя і ў групах з Г. А. Арловай, М. І. Бабок, М. С. Бялінскай, З. С. Вялікім, А. К. Ільінскім, З. І. Канапелькай, А. М. Лапо, Г. П. Маркінай, І. А. Матусевічам,

А. П. Радзілоўскай, В. Ф. Рубанам, А. М. Трусам, А. С. Цвятковай, А. Р. Шэлегам і інш., 57 (1946–1981); фота ў ролях з мастацкіх фільмаў: «Бессмертная песня» М. Валадарскага (1957), «Балтийское небо» У. Вянгерава (1961), «Поднятая целина» А. Г. Іванова (1961) і інш., індывідуальныя і ў групах з П. П. Глебавым, Я. С. Матвеевым, 3 (1957–1961).

Дакументы да біяграфіі Ф. І. Шмакава і пра яго (1939–1979).

Фота Ф. І. Шмакава, індывідуальныя і ў групах з А. К. Ільінскім, З. І. Канапелькай, Л. Р. Лагун, Б. М. Левіным, Ю. Б. Шчарбаковым, А. Р. Шэлегам, М. М. Яроменкам, і інш., 18 [1930-я–1970-я гг.].

## ШЫЛОВІЧ Г. У.

**Ф. 186. Воп. 1, 17 адз. зах., 29 дак., 1961–1977 гг.**
***Шыловіч Георгій Уладзіміравіч*** *(1924–2011) — пісьменнік*

Рукапісы Г. У. Шыловіча. Аповесць «Чарапаха без панцыра» (1965); падборка апавяданняў да мяркуемага выдання — аўтарыз. маш. (1963), апавяданні: «Крокі на граніцы», «Пачастунак» — маш., аўтарыз. маш. (1967, [1960-я]). Усяго 4 рук.

Пераклад [М. В. Гарбачова] аповесці Г. У. Шыловіча «Школа у крепости» на рус. м. — аўтарыз. Г. У. Шыловічам, маш. з рэд. праўкай (1961) і аўтарскі пераклад (1961).

Пісьмо Г. У. Шыловічу гал. рэд. БелСЭ (1971).

Дакументы да біяграфіі Г. У. Шыловіча. Даведка Мінскай кінастудыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў аб выплаце грошай у сувязі з запускам у падрыхтоўчы перыяд фільма «Кім быць» [1963–1965], дагавор з выд-вам «Мастацкая літаратура» на выд. аповесці «Святло далёкага Алькора» (1973).

Фота Г. У. Шыловіча, індывідуальныя, 6 (1964–1974), у групах з супрацоўнікамі часоп. «Беларусь» (1968), А. Х. Асіпенкам і інш. 4 [1968–1969], былымі партызанамі брыгады «Жалязняк» 2 (1975), М. П. Гродневым, У. І. Ляпёшкіным (1976) і інш.

Фота надпісаў на помніку Пятру I ў Карлавых Варах, Чэхія [1968–1969].

## ЯНКОЎСКІ Ф. М.

**Ф. 462. Воп. 1, 1290 адз. зах., 4798 дак., 1862–1997 гг.**

***Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч*** *(1918–1989) — вучоны-лінгвіст, празаік*

Рукапісы Ф. М. Янкоўскага. Аўтарэферат кандыдацкай дысертацыі «Глусские говоры» — карэктура з аўт. і карэкт. праўкай (1954), дысертацыя на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук «Беларуская народная фразеалогія» — маш. у пераплёце (1969); вучэбныя дапаможнікі: «Беларуская фразеалогія» — друкав. выд. (1981), «Беларускае літаратурнае вымаўленне» — расклейка з аўт. і рэд. праўкай і паметамі [1985], «Гістарычная граматыка беларускай мовы» — карэктура (1988) і інш.; слоўнікі: «Беларуская фразеалогія» — друкав. выд. з аўт. праўкай і ўстаўкамі (1969), «Беларускія народныя параўнанні» — маш. з аўт. праўкай і ўстаўкамі (1973) і інш.; падборкі апавяданняў, абразкоў, эцюдаў да кніг «Радасць і боль» — маш. [1984], «З нялёгкіх дарог» — расклейка з аўт. праўкай і паметамі, маш. з аўт. праўкай (1986), «Само слова гаворыць» — маш. з аўт. праўкай (1986) і інш.; апавяданні, абразкі, эсэ, філалагічныя эцюды (1944–1989); нарысы (1976–1981); артыкулы ([1953]–1989); рэцэнзіі і адказы на рэцэнзіі (1957–[1987]); тэзісы дакладаў, выступленні, адказы на пытанні (1961–[1980-я]); успаміны ([1970]–1986); пераклады (1970–[1980-я]); запісныя кніжкі (24) з накідамі твораў, запісамі, выпіскамі (1952–1988); дыялекталагічныя запісы (1948–1959); картатэкі: беларускага літаратурнага вымаўлення [кан. 1950-х], беларускіх народных прыказак, прымавак, фразеалагізмаў [пач. 1960-х–1980], народных прыказак, прымавак і інш. з твораў беларускіх пісьменнікаў [пач. 1960-х–1989], фразеалагізмаў да слоўніка «Беларуская фразеалогія» [1960-я], фразеалагізмаў, выслоўяў (на рус. м.) [1960-я], дыялектных слоў [1960-я], прозвішчаў жыхароў вёсак Глускага раёна Магілёўскай вобласці [1960-я], лексікі, фразеалагізмаў, урыўкаў для дапаможніка «Гістарычная граматыка беларускай мовы» [1970-я] і інш. Усяго каля 1160 рук.

Пісьмы Ф. М. Янкоўскага: Я. Брылю [1966], М. А. Даніловічу (1983), М. А. Жаўтабруху (1983), Э. М. Карпачову 5 (1982–1983), Г. М. Малажай [1970-я ], В. А. Ніжанкоўскай (1986), У. П. Някляеву 3 [1977], Т. Р. Раеўскай (1986), Т. А. Смалянскай (1981), В. В. Шуру 3 (1980–[1981]) і інш. Усяго 18 адр.

Пісьмы Ф. М. Янкоўскага ва ўстановы: рэд. газ. «Звязда» [1964], часоп. «Народная асвета» (1979), выд-вы «Вышэйшая школа» (1986), «Народная асвета» (1988), «Советский писатель» (1980), Міністэрства асветы РСФСР (1981), Міністэрства вышэйшай адукацыі БССР [1980-я], Дзяржкамітэт БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі, кніжнага гандлю (1987) і інш.

Пісьмы Ф. М. Янкоўскаму: з Беларусі — Я. К. Адамовіча (1965), У. А. Арлова (1986), А. Я. Баханькова (1972), П. І. Бітэля [1982], Д. І. Бічэль-Загнетавай (1982), Я. Брыля 7 (1967–1989), Н. В. Гаўрош 6 (1980–1989), Н. С. Гілевіча 3 (1978–1989), Л. В. Жураўскага 3 (1980–1989), У. А. Калесніка 3 (1981–1989), І. Я. Лепешава 8 (1980–1989), А. А. Лойкі (1961), В. Я. Ляшук 6 (1981–1986), А. В Мальдзіса (1981), С. С. Панізніка (1979), К. М. Панюціч 3 (1984–1985), А. А. Петрашкевіча (1985), В. П. Рагойшы (1981), М. Ф. Раманюка (1979), І. У. Саламевіча (1984), Я. Семяжона (1981), Э. М. Скобелева (1984), А. П. Цыхуна (1981), Р. В. Шкрабы 2 (1989) і інш.; з рэспублік СССР — Арменіі — М. Тавердзяна (1988), Казахстана — Г. К. Бельгера 2 (1987, 1988), А. І. Брагіна (1985), М. К. Кармысавай (1989), Літвы — А. К. Антановіча (1972), З. Верас (Л. А. Войцік) 52 (1977–1988), С. А. Лазуткі 4 (1986–1987), Л. А. Луцкевіча (1984) і інш, Расіі — В. Д. Аскоцкага (1980), В. І. Баркоўскага 2 (1977, 1981), В. П. Жукава 2 (1984), А. А. Івашкі 3 (1981–1988), Э. М. Карпачова 6 (1981–[1983]), А. А. Крэменскага (1981), У. А. Макарава (1984), В. М. Макіенкі (1984), Ю. М. Нагібіна (1975), В. Я. Субоціна (1984), М. М. Улашчыка 14 (1974–1986), В. В. Фралова (1987) і інш., Таджыкістана — У. П. Дзямідчыка 2 (1982, 1984), Узбекістана — А. М. Бушуя 7 (1983–1985), Украіны — І. А. Алійніка 2 (1983–1989), А. Я. Вінерава 2 (1984, 1989), І. Ф. Гнацюка 2 (1981), М. А. Жаўтабруха 14 (1982–1989), П. К. Кучарэнкі 3 (1983–1986), В. М. Лесіна 2 (1979, 1989), Г. П. Півторака (1985), А. П. Сінічэнкі 3

(1983–1989), Н. В. Суровага 4 (1985–1989), А. Б. Ткачэнкі 4 (198 – 1987), К. К. Трафімовіч 2 (1988, 1989), Р. М. Фёдарава 4 (1985), А. С. Юрчанкі (1987) і інш.; з замежных краін — Балгарыі — Л. Лашковай (1983), Германіі — К. Гутшміта 14 (1971–1984), Польшчы — А. Абрэмбскай-Яблонскай (1985), М. Гайдука 13 (1979–1981), Б. Манкевіча 14 (1983–1988), Б. Панасюка [1970-я], М. Чурко 2 (1986), С. Яновіча 2 (1976, 1983), М. Яцкевіча (1987), Чэхаславакіі — Э. Гашынца 24 (1975–1989), М. Затаўканюка 4 (1981–1985); былых студэнтаў, настаўнікаў 169 (1958–1989); былых партызан 61 (1979–1989); сваякоў і знаёмых 32 (1959–1989). Усяго каля 200 кар.

Пісьмы Ф. М. Янкоўскаму ад устаноў: выд-ваў «Советский писатель» 2 (1980, 1982), «Политиздат» (1985), «Вышэйшая школа» 2 (1984, 1985), «Народная асвета» 6 (1984–1988), «Дніпро» (1977), рэд. газ. «Радяньска освіта» (1984), рэд. часоп. «Беларуская мова і літаратура ў школе» (1987), «Маладосць» [1980-я], рэд. «Роднае слова» Белтэлерадыё 2 (1978, 1989), Інстытута славянскай філалогіі 3 (1982), Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага (1985), Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэкі (Масква) (1986) і інш.

Дакументы да біяграфіі Ф. М. Янкоўскага. Асабістыя дак-ты: дыплом Гродзенскага педагагічнага інстытута (1948), дыпломы кандыдата, доктара філалагічных навук (1955, 1970), пасведчанне засл. дзеяча навукі БССР (1972), членскі білет СП СССР (1979) і інш.; дак-ты службовай і навуковай дзейнасці (1961–1989); дак-ты аб рабоце з аспірантамі [1959–1987]; водгукі Ф. М. Янкоўскага на доктарскія дысертацыі А. С. Аксамітава, М. В. Анышкевіча, А. М. Бушуя, М. С. Васілеўскага, М. П. Качаргана, А. Я. Супруна, кандыдацкія дысертацыі С. А. Байцова, Г. А. Каханоўскага, М. І. Лаўрова і інш. (1969–1989); накіды да лекцый і спецкурсаў (1954–[1980-я]); ганаровыя граматы і граматы Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, Міністэрства асветы БССР, Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, СП БССР, Літаратурнага фонду СССР, Прэзідыўма Вярхоўнага Савета БССР і інш. (1961–1987).

Дакументы да юбілеяў Ф. М. Янкоўскага. Віншавальныя адрасы, артыкулы С. Х. Александровіча, Я. Брыля, Н. В. Гаўрош, Э. Гашынца,

В. А. Жуковіча, Н. М. Нямковіч, Л. П. Падгайскага і інш. да 50-, 60-, 70- і 75-годдзяў з дня нараджэння, цыкл радыёперадач М. Тондзеля «Рупліўцы нацыянальнай нівы» да 75-годдзя з дня нараджэння Ф. М. Янкоўскага (1993) і інш.

Вершы М. М. Арочкі, С. І. Грахоўскага, Р. Я. Тармолы і інш., прысвеч. Ф. М. Янкоўскаму (1959–[1993]); артыкулы Д. І. Вадзінскага, В. Лаўрыновіча, І. Р. Новікава, Н. М. Нямковіч, С. Пашкевіча, А. Рудко, І. Фёдарава і інш. пра Ф. М. Янкоўскага і з упам. (1958–1995); рэцэнзіі М. М. Аляхновіча, Э. Д. Блінавай, Н. В. Гаўрош, У. А. Калесніка, А. А. Каўруса, І. Я. Лепешава, Г. М. Малажай, А. І. Падлужнага, З. К. Прыгодзіча , С. Сланеўскай, М. А. Тычыны і інш. на зборнікі, вучэбныя дапаможнікі, кнігі Ф. М. Янкоўскага (1957–1988); сцэн. тэлеперадачы часоп. «Роднае слова» з удзелам Ф. М. Янкоўскага — маш. з рэд. праўкай [1980-я]. Некралогі Ф. М. Янкоўскага — выр. з газ. (1989), афіша вечара памяці Ф. М. Янкоўскага ў Доме літаратара [1990] і інш.

Дакументы, сабраныя Ф. М. Янкоўскім. Аўтарэфераты дысертацый на суісканне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук С. К. Бердніка (1985), І. І. Крука (1985), М. Н. Крыўко (1985), Н. І. Ратнікавай (1980), Л. В. Чарнышовай (1989), М. С. Яўневіча (1981) і інш. — брашуры (1958–1990); артыкулы па мовазнаўчых і іншых тэмах ([1957]–1989); урыўкі з раманаў В. У. Адамчыка, В. С. Гігевіча, Л. М. Дайнекі, Г. В. Далідовіча, І. П. Мележа, П. А. Місько, І. П. Шамякіна — выр. з часоп., карэктура (1976 – [кан. 1980-х]), аповесці В. У. Быкава, А. А. Жука, І. Я. Навуменкі, М. П. Парахневіча і інш. — выр. з газ. і часоп. (1973–[1980-я]); п’есы У. С. Караткевіча «Калыска чатырох чараўніц» (1982), К. Крапівы «Брама неўміручасці» (1973), «На вастрыі» (1982), І. П. Шамякіна «І змоўклі птушкі» (1977) і інш. — маш., выр. з часоп. і газ.; апавяданні У. А. Арлова, Я. Брыля, А. П. Кудраўца, Б. І. Сачанкі, В. Ф. Хомчанкі і інш. — друкав. выд., выр. з часоп. і газ. (1972–1989); дак-ты па беларускай культуры: асобныя нумары газ. «Мужыцкая праўда» (1862) — фотакоп., маніфест часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага савецкага ўраду Беларусі, падпісаны Дз. Ф. Жылуновічам (1919) — ксеракоп. аўтогр., часоп. «Праваслаўны беларус» — друкав. выд. (1925) і інш.

Альбомы з фота Ф. М. Янкоўскага, індывідуальнымі і з супрацоўнікамі і студэнтамі Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, сябрамі, роднымі, знаёмымі, у час сустрэч з настаўнікамі і вучнямі і інш., 5 ([кан. 1960-х]–1988); фота Ф. М. Янкоўскага, індывідуальныя, 5 (1957 – [пач. 1980-х]), з С. А. Янкоўскай (жонкай), І. Ф. Янкоўскай (дачкой), унукам Юрыем 7 [1948–1980]; фота Ф. М. Янкоўскага ў групах з У. А. і С. М. Калеснікамі, М. С. Яўневічам і інш. 9 (1947–[1980-я]), з Р. Вінеравым (партызанскім сябрам) 2 [1960-я].

Фота А. А. Куляшова [кан. 1960-х], В. А. Ніжанкоўскай (1924), індывідуальныя, С. П. Шушкевіча з унукам Сяргеем 2 (1989) і інш.

Дакументы С. А. Янкоўскай (жонкі): пісьмы Н. С. Гілевічу, супрацоўнікам Белтэлерадыё з падзякай за радыёперадачы пра мужа (1991), пісьмы, паштоўкі М. М. Аляхновіча 5(1994–1997), Э. Д. Блінавай (1989), Я. Брыля 3(1989–1991), М. А. Жаўтабруха (1993), У. А. Калесніка (1989), Н. І. Мацяш (1990), І. Г. Чыгрынава [1990], сваякоў, знаёмых і інш. 27(1985–1997); заява дырэктару выд-ва «Мастацкая літаратура» адносна выдання «Выбраных твораў» Ф. М. Янкоўскага (1992); успаміны пра знаёмства з Ф. М. Янкоўскім [1994] і інш.

## ЯНОВІЧ С.

**Ф. 294. Воп. 2, 344 адз. зах., 8512 дак., 1938–2007, асобн. дак. 1903, 1928–[1930-я] гг.[29]**

***Яновіч Сакрат** (1936–2013) — празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч; жыў на Беласточчыне (Польшча)*

Рукапісы С. Яновіча. Зб. «Апавяданні, аповесці» — маш. з аўт. праўкай (1982); кнігі-аповесці: «Dolina pełna losu» — газ. выр. (1992–1994), «Duch hetmanow» — маш. з аўт. праўкай (1996), «Быць сабою» — маш. з аўт. праўкай (1997–2006), «Bycie sobą» — маш. з аўт. праўкай, ксеракоп. газ. выр. (1997–2006); кнігі-ўспаміны: «Запісы веку» — вёрстка з аўт. праўкай, газ. выр. (1999–2002),

[29]Анатацыю на воп. 1 (1944–1994) гл. Вып. 2. С. 198–202.

«Не жаль пражытага» — маш. з аўт. праўкай, газ. выр., карэктура з аўт. праўкай, «Было — як учора» — аўтогр., маш. з аўт. праўкай, газ. выр. (2003); аповесць «Хатняе стагоддзе» — маш. з аўт. праўкай (2004–2005); п'еса «Арышт» — маш. з рэд. праўкай (1978–1983); вершы (1992–1996); эсэ, артыкулы (1981–2007); рэцэнзіі (1997–2006); выступленні (1994–2004); інтэрв'ю (1988–2007); адказы на пытанні, бібліяграфіі твораў (1972–[2006]); цыкл радыёгутарак (1994–1997); успаміны пра Я. Александровіча, В. У. Быкава (2004); дзённікі — аўт. і ксеракоп. сшыткаў 28 (1951–2007); пераклады вершаў П. М. Макаля, А. Ц. Сыса, А. Ф. Чобата на пол. м., апавяданняў І. А. Бабеля, Р. Г. Гамзатава на беларус. м. і інш . Усяго 444 рук.

Дакументы рэдактарскай і літаратурна-грамадскай дзейнасці С. Яновіча. Літ. с. газ. «Ніва» — «Белавежа»: апавяданні С. Яновіча «Адзін я ў вечар калядны», «Даўганогая лань», «Шанц дачкі Поўха», эсэ «Мой малы генезіс» і інш., вершы М. Андрасюка, Ю. Каралько, Б. Руско, М. Тамчука і інш. (1993–1998). Штомесячны беларускі «Czasopis»: дак. аповесці А. Ф. Чобата «Зямля св. Лукі», «Легенда пра чатырох мушкецёраў», праграмная канцэпцыя «Czasopisa» і інш. (1998–2000). Беларускае літ. аб'яднанне «Villa Sokrates»: статут аб'яднання, перапіска С. Яновіча, падборкі артыкулаў да зб. «Annus Albaruthenicus» (1999–2007).

Пісьмы С. Яновіча (копіі): У. В. Гніламёдаву (1997), М. Давідзюку (2002), Я. Жамойціну 2 (1993, 1996), В. Карнялюку (2003), І. А. Карпюк (1993), У. М. Конану 2 (1993), А. Латышонку (1997), Я. Р. Лецку 3 (1993–1997), Ю. Літвінюку (1995), Х. А. Лялько (1990), А. В. Мальдзісу 3 (1982–1997), А. Раманчуку 2 (1997), У. Я. Рубанаву 6 (1988–1993), К. А. Цвірку 2 (1997), А. Ф. Чобату 5 (1997–2003), Я. А. Чыквіну 9 (1995–2001), Я. Я. Янушкевічу (1997), М. А. Яцкову (1995–2004) і інш. Усяго 130 адр.

Пісьмы С. Яновіча на беларус. і пол. м.: выд-вам «Чытэльнік» 3 (1978), «Паазер'е» 4 (1978), Міністэрству культуры і мастацтва ў Варшаве (1978), у Беларускую бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане 3 (1982–1984) і інш.

Пісьмы С. Яновічу: Т. Агатоўскага 25 (2000–2004), М. Андрасюка 6 (1993–1994), Г. Анішэўскай 8 (1997), Н. Е. Артымовіч 15 (1994–2006),

Я. Багінскага 10 (2002–2003), Ю. Бажышкоўскага 11 (1993–2006), К. Балінскага 17 (1999–2004), А. Я. Белага (2005), В. Важняковіча 12 (1995–2003), Ф. Валігурскага 3 (2003), Г. Валкавыцкага 5 (2002–2003), В. Варашыльскага 10 (1994–1995), М. Вроблеўскага 34 (2000–2007), А. Глагоўскай 5 (1997–2005), М. Давідзюка 12 (1993–2004), Я. Жамойціна 5 (1996–2000), Т. Занеўскай 37 (1994–2007), Э. Кабатца 13 (1998–2007), М. Канапацкага 27 (2000–2007), Э. Кужавы 26 (1993–2006), М. Пілята 22 (1993–2007), Р. Радзіка 12 (2001–2007), А. Струмілы 9 (1997–2006), Г. Суднік-Матусевіч 21 (2000–2006), Ч. Сэнюха 18 (1995–2006), Г. П. Тварановіч 5 (2002–2007), Ю. Хмялеўскага 34 (1994–2007), К. Чыжэўскага 8 (1993–2003), Я. А. Чыквіна 79 (1993–2007), К. Ясевіча 10 (1998–2004) і інш. Усяго 355 кар.

Пісьмы С. Яновічу ад устаноў: Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, яго аддзелаў у Беластоку, Ольштыне і інш. 70 (1975–2005), выд-ваў «Паазер’е», «Чытэльнік» і інш. 113 (1976–2006), польска-беларускіх таварыстваў, клубаў, суполак 31 (1982–2005) і інш.

Дакументы да біяграфіі С. Яновіча (1972–2007). Даведкі аб працы, падцвярджэнні стажу, налічэнні пенсіі (1976–1991), павесткі Ваяводскай камендатуры (1982), дак-ты аб паездках у Вялікабрытанію, ЗША (1987–1993), праграмы, запрашэнні (1978–2007), дагаворы з выд-вамі «Іскра», «Паазер’е», «Чытэльнік» (1976–2001), дак-ты пед. дзейнасці ([2005]–2007) і інш.

Дакументы С. Яновіча аб святкаванні юбілеяў: артыкулы, запрашэнне, афіша (1986–2006).

Дакументы С. Яновіча маёмасна-гаспадарчага і бытавога характару (1976–2006).

Артыкулы пра С. Яновіча і з упам. пра яго — газ. і часоп. выр. (1970–2007), рэцэнзіі Т. Занеўскай, Я. Мірановіча, Р. Раманюка, Я. А. Чыквіна і інш. на творы С. Яновіча — газ. выр. (1981–2007).

Рукапісы. А. Гарун — зб. вершаў у перакладзе З. Гаеўскага на пол. м. — ксеракоп. маш. (1988); Я. Колас — паэма «Новая зямля» у перакладзе Ч. Сэнюха на пол. м. — маш. (2004); Г. Б. Асвяцінскі — аповесць «Дзеці з таямнічага хутара Рудня» — маш.(1983), вершы (1957–2003); Е. Плютовіч — літ. сцэн. фільма па матывах аповесці

С. Яновіча «Самасей» на пол. м. — маш. (1993). Праграма спектакля «Шрамы» па п’есе Я. П. Шабана (тэатр імя Я. Купалы) з дароўным надпісам аўтара Л. М. Давідовіч (1977). Пісьмы Я. Жамойціна , В. Карнялюка, А. В. Мальдзіса да Ю. Хмялеўскага (1999–2006), пісьмо Ю. Хмялеўскага да А. Ф. Чобата — маш. (2003) і інш.

Фота С. Яновіча, індывідуальныя і ў групе з А. Яновіч (маці), Т. Яновіч (жонкай), В. і Я. Яновічамі (сынамі) і інш. роднымі, 143 (1938–2007).

Фота Т. Яновіч (жонкі), індывідуальныя і ў групе з В. Волкавым, Я. Мурынай, Г. Сабэцкай, В. і Я. Яновічамі (сынамі) і інш., 104 (1954–2007), Я. Яновіча (сына), індывідуальныя і з М. Яновіч (жонкай сына), 42 (1961–1994), В. Яновіча (сына), індывідуальныя і з сям’ёй, 11 (1964–2004), В. і Я. Яновічаў (сыноў) 9 (1964–1971) і інш.

Фота С. і Т. Яновічаў у час падарожжаў у Вялікабрытанію, Італію, ЗША, Канаду 86 (1980–2005).

Фота С. Яновіча на творчых сустрэчах, семінарах, канферэнцыях з Б. Андрусішыным (Данчыкам), Б. Бурачэўскай, В. Казанецкім, М. Лукшай, Я. Мірановічам, М. В. Нікалаевым, В. Петручуком, Л. Тарасэвічам, Я. А. Чыквіным, Ю. Хмялеўскім і інш. 207 (1962–2007).

Фота ў групах: Г. М. Бураўкіна з Г. А. Дзягілевай, Л. І. Рублеўскай, В. А. Шніпам і інш. 2 (1996), Л. Тарасэвіча з Г. Кардацца 4 (1996).

Фота дэманстрацыі Беларускага аб’яднання студэнтаў (БАС) каля беларускай амбасады ў Варшаве і інш. 5 (1992).

Фота Беларускага музея ў Гайнаўцы (1966).

Фота дома С. Яновіча ў Крынках 2 (1995, 2001).

М. Давідзюк — малюнкі — алов., фламастэр, фотакоп. малюнкаў 21 (1984–1994).

## ЗБОР ДАКУМЕНТАЎ ДЗЕЯЧАЎ ЛІТАРАТУРЫ

**Ф. 55. Воп. 2, 343 адз. зах., 1165 дак., 1900–2013 гг.[30]**

*У збор увайшлі малакалькасныя паступленні дакументаў беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, публіцыстаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і інш., перададзеныя спадчыннікамі, даследчыкамі, з рэдакцый літаратурна-мастацкіх выданняў і інш.*

***Адамовіч Славамір Генрыхавіч*** (нар. 1962) — паэт, празаік, публіцыст.

Вершы (1995–2001); артыкулы (1993–2001); нарысы: «Дабро і зло эміграцыі», «Турэмны дзённік» — аўтогр., выр. з газ. (2000); аўтабіяграфія [2001]; дак-ты Беларускай Партыі Свабоды (дэкларацыя, праграма, структура і інш.) (2001); артыкул С. І. Дубаўца «Сьведчанне журналіста» пра С. Г. Адамовіча (1996); «Протест. Писатели России в защиту С. Г. Адамовича» — рук. коп. С. Г. Адамовіча (1997); інтэрв'ю карэспандэнта газ. «Молодёжный проспект» (2000); пераклад верша Чэслава Сэнюха «Славаміру А.» (2000) і інш. Усяго 29 адз. зах.

***Бергман Аляксандра Рыгораўна*** (Хава Гіршаўна Кучкоўская) (1906–2005) — польскі гісторык, журналіст, публіцыст, дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

Фотакопіі дакументаў Б. А. Тарашкевіча да кнігі А. Р. Бергман «Rzecz o Bronislawie Taraszkiewiczu»: пісьмы Б. А. Тарашкевіча 4 (1916–1932); паштоўкі В. А. Тарашкевіч (жонкі) і пісьмо Цёткі (Алаізы Пашкевіч) да Б. А. Тарашкевіча 3 (1914–1933); дак-ты да біяграфіі Б. А. Тарашкевіча (1917–1936) — фотакоп.; фота Б. А. Тарашкевіча, індывідуальныя, сваякоў і інш., 10 [1911–1925]; фота М. Брусевіча, П. П. Валошына, З. Верас, Ю. Вітан-Дубейкаўскай (Мэнке), Я. Гурыновіч, А. Канчэўскага, П. Мятлы і інш. 11 ([1913, 1920-я–1930-я], 1988) — коп. Усяго 7 адз. зах.

***Броўка Пятрусь*** (Пётр Усцінавіч) (1905–1980) — паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР.

---

[30] Анатацыю на воп. 1 (1888–2000) гл. Вып. 2. С. 214–221.

Паэма «Беларусь» = «Штрыхі да партрэта» [1943]; вершы (1920–1940, 1959, 1974–1975); артыкулы: «Выдатны твор нашага сярэдня-вякоўя», «О книге В. Сафронова» і інш. (1961, [1968, кан. 1970-х]); пісьмы і віншавальныя паштоўкі П. У. Броўкі К. Т. Мазураву і яго сям'і 45 (1961–1979); пісьмы П. У. Броўкі ў рэд. часоп. «Полымя», газ. «Звязда» 3 (1971, 1980); пісьмы П. У. Броўку: С. Фуэнтэс-Суараса 2 (1978), М. С. Ціханава (1978); біяграфічная даведка [1976–1977]; нататкі пра П. У. Броўку [1980-я]; фота, індывідуальныя, 36 [пач. 1950-х–1970-я], у групах з Р. І. Барадуліным, З. І. Азгурам, І. Д. Казекам, Я. Коласам, К. Крапівой, А. А. Куляшовым, М. Лужаніным, І. П. Мележам, П. Е. Панчанкам, А. Л. Петрашкевічам, Я. Скрыганам, М. Танкам, І. П. Шамякіным (пач. 1950-х–[1970-я]), з літоўскімі паэтамі Э. Б. Межэлайцісам і А. Венцловам у Вільнюсе 2 (1958), з А. А. Пракоф'евым, М. А. Стэльмахам, П. Р. Тычынам, М. С. Ціханавым і інш. на Шаўчэнкаўскім пленуме ў Кіеве 4 (1964) і інш.; фота да збору твораў выд-ва «Беларусь» 17 (1925–1964), «Мастацкая літаратура» 30 (1974–1978); фота кадраў з дак. фільма «Пятрусь Броўка. Голас сэрца» 3 [1985]; фота К. Т. Мазурава [1974] і інш. Усяго 45 адз. зах.

***Гадлеўскі Вінцэнт*** (1888–1942) — каталіцкі святар, публіцыст, грамадскі дзеяч.

Дакументы з крымінальнай справы пра забойства ксяндза В. Гадлеўскага — маш. коп. (1963) і інш. Усяго 1 адз. зах.

***Гарох Янка*** (Іван Іванавіч) (1908 – [пасля 1940]) — паэт, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі.

С. Галоўка. «Некалькі штрыхоў да біяграфіі Янкі Гароха», «Пагранатрад хадатайнічаў» — артыкулы — ксеракоп. выр. з газ., маш. (1993–1994). Фота ў группе з сябрамі 3 (1929, 1935) — коп. Усяго 2 адз. зах. .

***Гуцаў Янка*** (1905–1987) — паэт, журналіст.

«Марыя Паўлаўна Гуцава — пра Янку Гуцава» — успаміны — маш. (1994); бібліяграфія твораў Я. Гуцава — склаў Ю. Васілеўскі і В. М. Лебедзева — маш. [1994]; фота, індывідуальныя, 3 (1925–[1944]) — коп. Усяго 3 адз. зах.

***Казлоўскі Уладзіслаў Юзэфавіч*** (псеўд. Уладзіслаў Казлоўшчык) (1903–1937) — публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч.

А. Глагоўская. «Вяртаючыся да Казлоўшчыка» — артыкул — ксеракоп. выр. з газ. (1996); фота, індывідуальныя, 2 (1916–1934) — коп., фота сваякоў і знаёмых 3 (1910-я–1930-я), фота дома, у якім нарадзіўся У. Ю. Казлоўскі, касцёла, у якім хрысцілі, 2 (1996), фота магілы Ю. Казлоўскага (бацькі) (1996). Усяго 6 адз. зах.

***Кляшторны Тодар Тодаравіч*** (1903–1937) — паэт, перакладчык.

Вершы (1926–1935) — ксеракоп. аўтогр., ксеракоп. выр з часоп., пераклады вершаў У. У. Маякоўскага, тэкстаў песень на сл. І. Васілеўскага, С. Гусева, І. Д. Харыка, А. Шарапава да зб. С. У. Палонскага «Дзесяць песень» (1930, 1935) — ксеракоп; дак-ты аб удзеле ў аб'яднанні «Маладняк» (спіс членаў Калінінскай філіі, анкета дэлегата І Усебеларускага з'езду паэтаў і пісьменнікаў і інш.), аб рэабілітацыі (характарыстыка, даведка, выпіска з пратакола пасяджэння Прэзідыума СП БССР і інш.) (1926–1958) — ксеракоп.; нарысы і артыкулы І. Э. Багдановіча, С. І. Грахоўскага, А. Звонака, Т. Т. Кляшторнай, С. Левіна, Я. Р. Лецкі, М. І. Мішчанчука, І. Плашчынскага, С. П. Шушкевіча і інш. пра Т. Т. Кляшторнага (1929–2003) — ксеракоп. аўтогр., выр. з газ. і часоп.; рэцэнзіі А. С. Вялюгіна, А. Гароднага, С. Ф. Куніцкага (1928–[1960]) — ксеракоп. выр. з часоп.; пісьмо Т. Р. Цулукідзе ў рэд. прапаганды Беларускага тэлебачання (1983); брашура «У вянок памяці Т. Кляшторнага» (2003); шарж Т. Т. Кляшторнага (1934); фота, індывідуальныя — коп. [кан.1920-х–1930], у групе з сябрамі Аршанскай філіі «Маладняка» 4 (1925–1936), сваякоў 7 [1930-я – кан. 1950-х, 1993) — коп., фота в. Парэчча, дзе нарадзіўся Т. Т. Кляшторны — ксеракоп. [1980-я–1990-я]. Усяго 26 адз. зах.

***Новік-Пяюн Сяргей Міхайлавіч*** (Новік Сяргей Міхайлавіч) (1906–1994) — паэт, празаік.

Вершы (1956–1958) — ксеракоп. выр. з якуцкіх газ.; артыкулы, водгукі, нататкі (1956–1958) — ксеракоп. выр. з якуцкіх газ.; нататкі і ўспаміны пра С. М. Новіка-Пяюна (1957–1958, 1995, 2001); фота, індывідуальнае [1940]. Усяго 10 адз. зах.

***Савікоўскі Ілля Якаўлевіч*** (1893–1959) — яўрэйскі паэт, драматург, кампазітар.

Вершы (1920–1946) — сшытак; зб. вершаў «Фарместэніш» («Состязание») — на м. ідыш — друкав. выд. (1923); падборкі вершаў [1940-я] — на м. ідыш — аўтогр., ксеракоп. аўтогр., маш.; зб. песень «Для маладых спевакоў» (тэксты і ноты) (1928) — на мове ідыш — друкав. выд.; песня «Колыбельная» — ноты [1940-я–1950-я]; п'есы: «Эрозлінг» («Целина») (1929), «Папирене тойбн» («Бумажные голуби») (1934) — на м. ідыш — ксеракоп.; апавяданні: «Барын і яўрэй», «Жывы нябожчык», «З таго свету», «Спявак Ізраіль» [1940-я–1950-я]; пераклады І. Я. Савікоўскага на м. ідыш вершаў А. С. Пушкіна «Утопленник» [1940-я–1950-я], М. В. Ісакоўскага «Гармония», К. М. Сіманава «Мои песни», тэкстаў рускіх народных песень [1940-я–1950-я] — аўтогр., сшытак, ксеракоп.; дак-ты да біяграфіі (1941, [кан. 1990-х–2000]) — ксеракоп.; артыкулы Р. Л. Рэлеса «Илья Савиковский», «Он был среди первых» (1973, [1990-я]) — на м. ідыш і рус. м. — ксеракоп. выр. з часоп., маш.; фота ў групе з І. Д. Харыкам і інш. [кан. 1920-х–1930-я]. Усяго 19 адз. зах.

***Стэповіч (Стаповіч) Альбін Мацвеевіч*** (1894–1934) — паэт, музыкант, грамадска-палітычны дзеяч.

Соймавыя прамовы (1928–1930) — на пол. м., ксеракоп. маш.; паштоўкі А. М. Стэповіча да Яна, Канстанціна і Матэвуша Стэповічаў 12 (1913–1921), К. М. Стэповіча да А. М. Стэповіча 7 (1913–1924); фота ў групе з А. Станкевічам, П. Карузам, хорам касцёла св. Мікалая ў Вільні 4 (1928–1930), роднымі 4 (1913–1928), фота сваякоў 5 [1910-я–1920-я]. Усяго 8 адз. зах.

***Улашчык Мікалай Мікалаевіч*** (1906–1986) — гісторык, археограф, празаік, перакладчык, мемуарыст.

Успаміны С. С. Бергмана пра М. М. Улашчыка (1983); вокладкі кніг М. М. Улашчыка «Сборник о крестьянском движении в Белоруссии», «Советское славяноведение» (1960, 1966) з дароўным надпісам С. С. Бергману (1973) — ксеракоп. Усяго 2 адз. зах.

***Шукайла Паўлюк*** (Паўла Захаравіч) (1905–1939) — паэт, празаік, крытык.

Вершы [1920-я – сяр. 1930-х]; апавяданне «Кветкі жыцця» (1929) — ксеракоп. выр з газ.; артыкулы: «Сильный огонь по враждебным позициям кинофронта» (1930), «О «болтающих в толпе» (1931), «Современный Белорусский театр» [1930] і фрагменты артыкулаў па праблемах тэатра, літаратуры, кіно [кан. 1920-х – пач. 1930-х]; цытаты з выступленняў на пленуме Цэнтральнага Бюро «Маладняка», на першым Усебеларускім з’ездзе абъяднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» (1925); пісьмо П. З. Шукайлы ў Бюро ячэйкі ВКП(б) і Савет літаратурнага аддзялення інстытута чырвонай прафесуры (1929) — ксеракоп.; пісьмы П. З. Шукайлу ад П. У. Броўкі (1927), Янкі Відука (Скрыгана) (1927) — ксеракоп.; дак-ты аб працы ў «Беларускай літаратурна-мастацкай камуне» (1927–1928); рэзалюцыя агульнага сходу Усесаюзнага дзярж. Інстытута кінематаграфіі (1931); стэнаграмы «Дискуссия об актёре в звуковом кино», «Дискуссия об актёре в немом и звуковом фильме» (1933); дак-ты дзейнасці ў Дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства (1933–1934); даведкі: камісіі па прызначэнні персанальных і акадэмічных пенсій пры Савнаркаме РСФСР, Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР (1936, 1937, 1959) — ксеракоп.; стэнаграма «Пленума, посвящённого памяти В. И. Ленина» (1934); фота, індывідуальнае, [1930-я], разам з жонкай і дочкамі 6 (1927–1940), Я. Будзько (1925), японскім пісьменнікам Удзяка Акіта 2 (1928), сваякоў 6 (1949–2004) і інш. Усяго 35 адз. зах.

***Шутовіч Віктар Іванавіч*** (1890–1960) — публіцыст, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, каталіцкі святар.

Казанні «Кардынальные Цноты», «Законы» і інш. — аўтогр., сшытак (1959–1960); пісьмо М. Шутовіч (пляменніцы) да неўст. асобы (1951). Усяго 2 адз. зах.

***Дакументы пісьменнікаў, якія паступілі з газеты «ЛіМ» і часопісаў «Маладосць», «Тэатральная творчасць» і інш.***

***Глебка Пётр Фёдаравіч*** (1905–1969) — паэт, драматург, перакладчык.

Пісьмы П. Ф. Глебкі ўнукам 3 (1957–1965) — ксеракоп. аўт.; фота П. Ф. Глебкі ў групе з П. У. Броўкам, Н. І. Глебкай, К. Крапівой і інш.

4 (1955–1968); фота вечара, прысвеч. памяці П. Ф. Глебкі з удзелам А. В. Багатырова, Н. І. Глебкі, І. П. Шамякіна і інш. (1969), фота М. Я. Аўрамчыка, А. С. Грачанікава, П. М. Макаля і інш. на радзіме П. Ф. Глебкі (1975). Усяго 4 адз. зах.

***Голуб Юрка*** (Юрый Уладзіміравіч) (1947–2020 ) — паэт, празаік, перакладчык.

Вершы — выр. з часоп. (1989); фота, індывідуальныя, 8 [1965–1980-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Грамовіч Іван Іванавіч*** (1918–1986) — празаік.

Аўтабіяграфія (1970); фота, індывідуальныя, 3 [1970-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Грамыка Міхайла*** (Міхаіл Аляксандравіч) (1885–1969) — празаік, паэт, геолаг, педагог.

«Аўтабіяграфія 1921–1930 гг.» — аўтогр., чарн. аўт. (1966, 1967); фота, індывідуальныя, 2 (1966, 1968). Усяго 2 адз. зах.

***Гроднеў Мікалай Пятровіч*** (нар. 1929) — пісьменік.

«Сватаўство» — апавяданне — аўтарыз. маш. (1972); фота, індывідуальныя, 3 [1960-я–1980-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Даніленка Міхась*** (Міхаіл Пятровіч) (1922–2019) — пісьменнік, журналіст.

«Новая кватэра» — апавяданне (1974); фота, індывідальныя, 6 ([1950-я]–1981). Усяго 2 адз. зах.

***Іверс Анатоль*** (Міско Іван Дарафеевіч) (1912–1999) — паэт, рэдактар, грамадскі дзеяч.

Вершы [1970-я]; буклет «Паэт Слонімскай зямлі», прысвеч. А. Іверсу (1982); фота, індывідуальныя, 2 [1970-я–1990-я]. Усяго 3 адз. зах.

***Крапіва Кандрат*** (Атраховіч Кандрат Кандратавіч) (1896–1991) — драматург, паэт, літаратуразнавец, перакладчык. Народны пісьменнік БССР.

Успаміны К. Крапівы — рук. коп. (1924); дак-ты да біяграфіі (коп.) (1925); віншавальны адрас тэатра імя Я. Купалы (1956); «Як жыве наш паэт Крапіва» — артыкул — рук. коп. (1924); фота, індывідуальныя, 5 [1950-я–1980-я] і разам з А. І. Атраховіч (унучкай) (1958),

Л. П. Александроўскай (1942), В. Я. Мазынскім, Л. Р. Рахленкам 3 [1960-я–1983], з удзельнікамі спектакля «Хто смяецца апошнім» (1975), П. У. Броўкам, Г. М. Бураўкіным, А. М. Кулакоўскім і інш. 9 (1976–1981) — арыгіналы і коп. Усяго 15 адз. зах.

***Крупенька Яўген Міхайлавіч*** (1936–1990) — паэт, перакладчык.

«Ночы на граніцы» — верш [1958]; фота, індывідуальныя, 2 [1970-я–1980-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Куляшоў Фёдар Іванавіч*** (1913–1993) — літаратуразнавец, крытык, журналіст, педагог.

Пісьмо да В. Е. Бурносава (1956); фота, індывідуальнае [1960-я] — коп. Усяго 2 адз. зах.

***Лёсік Язэп Юр'евіч*** (1883–1940) — пісьменнік, публіцыст, мовазнавец, педагог, акадэмік, грамадска-палітычны дзеяч.

Справа Я. Ю. Лёсіка Іркуцкай губернскай турэмнай інспекцыі — фотакоп. з Дзярж. архіва Іркуцкай вобласці (1913–1914); фота, індывідуальныя, 3 (1913). Пісьмо Цэнтральнага дзярж. гістарычнага архіва УССР у БДАМЛМ па судовай справе Я. Ю. Лёсіка (1991). Усяго 3 адз. зах.

***Лукша Валянцін Антонавіч*** (1937–2012) — паэт, драматург, публіцыст, перакладчык.

Вершы (1960–1961); фота, індывідуальныя, 2 [1970-я–1980-я] — арыгінал і коп. Усяго 2 адз. зах.

***Мадзалеўскі Ілля Андрэевіч*** (1888–1970) — паэт, публіцыст, рэдактар.

Дакументы аб працы ў Пінскім гаркаме КПБ (1914–1916, 1947) — ксеракоп.; архіўная даведка партархіва Брэсцкага абласнога камітэта КПБ (1989); фота, індывідуальнае (1914). Усяго 3 адз. зах.

***Матэвушаў Васіль Іванавіч*** (1915–1974) — паэт.

Вершы [1950-я–1960-я]; фота, індывідуальнае [1960-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Мікула Сяргей Кірылавіч*** (1914 –?)

«Сцэнкі з вясковага жыцця» — драматычны эцюд — маш. з рэд. праўкай [1991], «Добрая душа» — сатырычна-камедыйная

сцэнка — маш. (1992); пісьмо ў рэд. часоп. «Тэатральная творчасць» і аўтабіяграфічная даведка (1992); фота, індывідуальнае (1993). Усяго 3 адз. зах.

***Міронаў Аляксандр Яўгенавіч*** (1910–1992) — празаік, перакладчык.

«Чалавек — чалавеку» = «Раздумья» — нарыс — аўтарыз. маш. [пасля 1961]; фота, індывідуальныя, 2 [1970-я–1980-я], з удзельнікамі конкурсу «Моя милиция» (1975). Усяго 3 адз. зах.

***Новік Ганна Аляксееўна*** (1914–1997) — паэтэса, удзельніца нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

«Героі побач з намі» — нарыс (1961); фота, індывідуальнае [1970-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Парахневіч Міхаіл Прохаравіч*** (1934–2001) — паэт, празаік, публіцыст.

«Крыўда» — апавяданне — аўтарыз. маш. [1973]; фота, індывідуальныя, 6 [1970-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч*** (1924–2003) — крытык, літаратуразнавец.

Рэцэнзія на раман С. Прошына «Я забыўся пра цішыню» — маш. з рэд. праўкай [1960-я]; фота, індывідуальнае [1960-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Уласаў Аляксандр Мікітавіч*** (1874–1941) — выдавец, публіцыст, мемуарыст, грамадскі і культурна-асветніцкі дзеяч.

Падборка дакументаў, падрыхт. да публікацыі А. П. Уласавай: А. М. Уласаў «Якуб Колас і «Наша Ніва» (1936), Ф. Стацкевіч «Успаміны аб А. М. Уласаве», пісьмы Я. Журбы, П. С. Пестрака, Я. К. Шнаркевіча і інш. да А. П. Уласавай (жонкі) з упам. пра яго — маш. (1961–1962); водгук М. Г. Матусевіча на эканамічны нарыс — маш. (1961); артыкул Я. Шутовіча пра А. М. Уласава — маш. (1964); пісьмо А. П. Уласавай да Я. Семяжона (прыкладзена біяграфія А. М. Уласава) (1967); фота А. М. Уласава, індывідуальнае (1926) і неўст. асоб, 2 [1920-я] — арыгіналы і коп. Усяго 8 адз. зах.

***Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч*** (1912–1975) — пісьменнік, паэт, перакладчык, публіцыст.

Пастанова Савета Міністраў БССР № 162 аб прысваенні Верхнядзвінскай раённай бібліятэцы імя Т. К. Хадкевіча (1977); фота, індывідуальныя, 2 [1960-я–1970-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Хадыка Уладзімір Марцінавіч*** (1905–1940) — паэт, перакладчык.

Пісьмо-адносіна К. А. Цвірку за подпісам Н С. Гілевіча на працу ў архіве КДБ з дакументамі рэпрэсаваных беларус. пісьменнікаў, у т. л. У. М. Хадыкі, адказ старшыні КДБ Э. І. Шыркоўскага 2 (1989) — ксеракоп.; фота У. М. Хадыкі, індывідуальнае [1930-я] — коп. Усяго 2 адз. зах.

***Хомчанка Васіль Фёдаравіч*** (1919–1992) — празаік.

«На цёмнай вуліцы» = «Грабёж на цёмнай вуліцы» — гумарэска — маш. (1969); фота, індывідуальныя, 4 [1960-я–1970-я]. Усяго 2 адз. зах.

***Ярош Міхась*** (Міхаіл Рыгоравіч) (1929–1987) — літаратуразнавец, крытык.

Рэцэнзія А. А. Есакова на кнігу М. Р. Яроша «Міхась Чарот. Нарыс жыцця і творчасці» (1963); фота, індывідуальнае [1980-я]. Усяго 2 адз. зах.

**Рукапісы пісьменнікаў.** Ю. П. Гаўрук «Якубу Коласу» — верш [1960-я–1970-я]; У. Л. Місун — вершы — маш. (1959), А. М. Міхайлаў «Подарок» — п’еса-казка — маш. (1941–1946); А. Мрый «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну» — зварот [1940] — маш. коп.; У. А. Навумовіч «Абітурыенты» — п’еса (1990); М. А. Скрыпка «Не тая літара» — камедыя [1960-я–1970-я]; Леся Украінка «Лясная песня» — драма-феерыя ў перакладзе С. Я. Лавейкінай з укр. м. (1996).

**Фота:** З. М. Аксельрода [1930-я], І. А. Аношкіна 2 (1975–[1990]), У. І. Анісковіча 3 [1970-я–1980], І. С. Арабейкі 4 ([1970-я]–1990), П. П. Ахрыменкі 5 [1980-я], С. М. Басуматравай 3 [1970-я], Р. А. Баравіковай 6 ([кан.1960-х]–1990), В. В. Барысенкі 3 [1970-я, пач. 1980-х], Б. П. Беляжэнкі 2 [1980-я], В. Блакіта 2 [1980-я], М. Блісцінава 3 [1970-я], Т. М. Бондар 6 [кан. 1970-х–1980-я], В. Е. Бурносава [1970-я], Н. Б. Ватацы [1980-я], У. М. Верамейчыка [1970-я–1980-я],

А. С. Вечара 4 [1960-я–1970-я], М. А. Вішнеўскага [1970-я], Л. М. Галубовіча [1980-я], В. С. Гарбацэвіча [1980-я], Н. С. Гілевіча [кан. 1970-х–1980-я], М. Гіля [1960-я–1970-я], М. Н. Герчыка 3 [др. пал. 1960-х–1980-я], І. С. Дварчаніна з дзеячамі беларускага руху ў Заходняй Беларусі І. Е. Гаўрылікам, Ф. І. Валынцом і інш. 2 ([1926]–1928), М. Ф. Дубянецкага з Р. І. Барадуліным, Н. С. Гілевічам, В. В. Зуёнкам і інш. [1979–1986]; А. А. Дударава, індывідуальная і з В. Д. Рубінчыкам, 2 [1970-я, 1995], П. К. Дзюбайлы 3 [1980-я], М. І. Дзягцяра [1930-я] — коп., С. Знаёмага [1930-я] — коп., В. Каваля [1930-я] — коп.; С. М. Крыўца [1930-я] — коп., С. Ф. Куніцкага [1930-я] — коп., А. А. Жука [пач. 1970-х – др. пал. 1980-я], В. А. Жуковіча [1980-я], Я. Зазекі [1960-я–1970-я], В. А. Каваленкі [1980-я], Дз. М. Кавалёва [1970-я], Л. Т. Калодзежнага [др. пал. 1970-х–1980-я], А. Л. Кандрусевіча [1970-я–1980-я], І. І. Капыловіча [1980-я], М. Ф. Капыловіча [1960-я–1990-я], А. Крыгі [1970-я], І. Ф. Кудраўцава [1980-я–1990-я], І. І. Мялы [1970-я], Г. Леўчыка [1910-я], А. Ліпнёвага [1930-я], В. С. Лютавай [пач. 1950-х], У. Н. Мяжэвіча 4 [1950-я–1970-я], Я. Нёманскага [1920-я], М. У. Нікановіча [др.пал. 1920-х–1930-я], В. С. Палтаран, індывідуальныя і з Я. Брылём, У. А. Калеснікам, А. Н. Карпюком, А. А. Шабаліным, 5 (1976, [1980-я]), І. Т. Панчанкі [1960-я–1980-я], У. А. Папковіча [1960-я–1980-я], Г. П. Пашкова 5 [1980-я], Ю. С. Пшыркова, індывідуальныя і ў групе, 4 ([1960-я]–1975), А. С. Разанава, М. Ракітнага, І. Д. Ралько 4 [1950-я–1980-я], В. А. Ракава 5 [1980-я–1990-я], Л. С. Пашкоўскага, індывідуальныя і з членамі літаратурнага аб'яднання, 3 [1960-я–1970-я], М. М. Рудкоўскага [1970-я–1980-я], А. В. Руцкай [1970-я–1980-я], А. П. Рыбака [1970-я–1980-я], Л. А. Салаўя [1960-я–1970-я], Д. Р. Сімановіча [1960-я–1970-я], Ю. М. Свіркі 3 [1970-я–1980-я], У. М. Скарынкіна 6 [1960–1990-я], Р. Я. Тармолы 5 [1960-я–1980-я], Я. К. Усікава, Л. А. Філімонавай, П. А. Харкова, С. А. Хурсіка 4 [1930-я, 1950-я–1970-я], М. М. Федзюковіча, індывідуальныя і разам з А. П. Рыбаком, 10[1960 – 1980-я], М. І. Чаргінца [1970-я–1980-я], І. І. Шальманава [1970-я–1980-я], А. А. Шаўні [1970-я–1980-я], Г. С. Шупенькі [1970-я–1980-я], М. С. Шаўчонак 2 [1980-я], Р. В. Шкрабы 2 [1960-я], А. А. Пракоф'ева [1960-я], К. М. Куксо [1980-я] — арыгіналы і коп.

## ЗБОР МАТЭРЫЯЛАЎ ЯКУБА КОЛАСА

**Ф. 9. Воп. 3, 102 адз. зах., 565 дак., [1900–я]–2007 гг.**[31]

*У вопіс увайшлі дакументы пра Я. Коласа, сабраныя ў выніку дзейнасці БДАМЛМ*

Рукапісы Я. Коласа. Верш «Маршалу Варашылаву» (1937), артыкулы і нататкі на розныя тэмы (1923–1946), рэцэнзія на раман М. Ц. Лынькова «На чырвоных лядах» (1934) — маш. коп. Усяго 22 рук.

Пісьмы Я. Коласа: П. Ф. Глебку 4 (1935–1954), Н. В. Лёсік (1946), Я. С. Мазалькову 26 (1941–1956), выхаванцам Чавускага дзіцячага дома 4 (1951–1956) — маш. коп., фотакоп. Усяго 4 адр.

Пісьмы Я. Коласа ў рэд. газ. «Савецкая Беларусь» — маш. коп. 2 (1925).

Публікацыя пісем М. Ц. Лынькова да Я. Коласа за 1941–1951 гг., падрыхт. С. З. Лыньковай — выр. з часоп. «Полымя» (1982).

Дакументы пра Я. Коласа. Да 100-годдзя з дня нараджэння: аповесць С. Х. Александровіча «Крыжавыя дарогі»; артыкулы, нататкі, успаміны С. А. Андраюка, А. В. Багатырова, М. У. Базарэвіча, А. М. Бачылы, Ю. П. Ванага, А. С. Васілевіч, М. У. Жыгоцкага, В. М. Іпатавай, К. Крапівы, А. П. Кудраўца, М. С. Кусянкова, А. А. Лойкі, С. У. Міхалкова, М. І. Мушынскага, І. Я. Навуменкі, С. П. Пінчука, В. П. Рагойшы, В. У. Скалабана, М. Танка, І. Г. Чыгрынава, С. П. Шушкевіча і інш., праграма канцэрта і запрашэнне СП БССР, Міністэрства культуры БССР на ўрачыстае пасяджэнне ў памяшканні ДАВТ БССР (1981–1982) — выр. з часоп. і газ.; да 110-годдзя з дня нараджэння: артыкулы, нататкі, успаміны С. М. Белага, В. П. Жураўлёва, М. У. Жыгоцкага, Б. А. Зубкоўскага, А. Калубовіча, У. М. Конана, Д. К. Міцкевіча і інш. (1992–1993) — выр з часоп. і газ.; верш Ю. П. Гаўрука «Якубу Коласу» — маш. коп. (1947); апавяданне Б. А. Зубкоўскага «Чаму Загібелька лепш Парыжа» — выр. з газ. (1990); артыкулы і нататкі Ю. П. Гаўрука, М. І. Ермаловіча, М. У. Жыгоцкага і інш. пра

[31]Анатацыю на воп. 1, 2 (1902–1957) гл. Вып. 1. С. 299–300.

Я. Коласа на розныя тэмы — выр з часоп. і газ. (1983–1991); успаміны Я. Брыля, В. Касперскага, В. Г. Панамарова і інш. — выр. з часоп. і газ. (1983–1990); успаміны В. В. Лёсік-Цуранавай (стрыечная сястра Я. Коласа) — фотакоп. аўт. (1986); пісьмо П. Цярэшкі да М. Танка пра Я. Коласа — маш. коп. (1961); афіша літаратурнага вечара, прысвеч. 40-гадоваму юбілею творчай дзейнасці Я. Коласа [1946]; запрашальны білет на вечар, прысвеч. 70-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа (1952); запрашальны білет на вечар, прысвеч. 70-годдзю першага выступлення ў друку Я. Коласа (1976).

Фота Я. Коласа, індывідуальныя, 34 (1901–1955) — арыгіналы і коп., са сваякамі 5 (1917–1955) — коп.

Фота сваякоў: М. Дз. Каменскай — жонкі Я. Коласа 2 (1913) — коп., А. Ю. Міцкевіч — маці Я. Коласа (1923) — коп., І. М. Міцкевіча — брата Я. Коласа — у групах са школьнікамі і маракамі 3 (1967–[1970-я]), М. М. Бруй — сястры Я. Коласа (1978) — коп., У. І. Міцкевіча — пляменніка Я. Коласа — у час экскурсіі каля дома-музея Я. Коласа ў Смольні [1970-я].

Фота Я. Коласа ў групах з настаўнікамі і навучэнцамі Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1901) — коп., студэнтамі рабочага факультэта БДУ (1922) — коп., удзельнікамі мастацкай самадзейнасці 2 (1923, 1927) — коп., удзельнікамі настаўніцкага з’езда 1906 г. праз 20 гадоў (1926) — коп., членамі слоўнікавай камісіі Інбелкульта (1927) — коп., чыгуначнікамі і будаўнікамі 2 (1928, 1952), калгаснікамі 2 ([1930-я]–1952) — коп., удзельнікамі пасяджэння Усеславянскага антыфашысцкага камітэта ў Маскве (1944) — коп., воінамі (1945) — коп., піянерамі (1947) — коп., удзельнікамі III з’езда пісьменнікаў БССР 3 (1954); з З. І. Азгурам, П. У. Броўкам, Я. Брылём, А. С. Вялюгіным, С. М. Гарадзецкім, Ц. С. Гарбуновым, І. В. Гутаравым, П. Н. Кавалёвым, М. І. Камісаравай, М. М. Клімковічам, К. Крапівой, А. А. Куляшовым, В. Ф. Купрэвічам, М. Лужаніным, М. Ц. Лыньковым, Я. Маўрам, І. П. Мележам, Д. К. Міцкевічам, П. Е. Панчанкам, А. А. Пракоф’евым, М. Танкам, А. Т. Твардоўскім, А. А. Фадзеевым, М. С. Ціханавым, І. П. Шамякіным і інш. 18 (1947–1955) — арыг. і коп.; у час здымак дак. фільма «Народны паэт» каля вёскі Балачанка

Пухавіцкага раёна 2 (1952) — коп., на адкрыцці святочнага вечара, прысвеч. 100-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча, у тэатры оперы і балета БССР (1955) — коп.

Фота развітання з Я. Коласам у палацы Белсаўпрафа — 2 (1956) — коп.

Фота вокладак кніг Я. Коласа 4 (1922–1947).

Плакат-партрэт Я. Коласа, выпушчаны да 100-годдзя з дня нараджэння (1981).

Фота коласаўскіх мясцін і мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці Я. Коласа 17 ([1950-я]–2002).

Фота выкладчыкаў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі [1900-я] — коп.

Фота С. Самахвала — прататыпа Янкі Тукалы ў рамане Я. Коласа «На ростанях» [1900–я] — коп.

Фота А. Ю. Турсевіча — першага настаўніка Я. Коласа — коп. (1925).

Пералік фотадакументаў, выяўленых у БДАКФФД для выстаўкі, прысвеч. 125-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа — маш. (2007).

## КАЛЕКЦЫЯ ДАКУМЕНТАЎ ПА ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРЫ, САБРАНАЯ Я. Ю. РАМАНОЎСКАЙ

**Ф. 394. Воп. 2, 121 адз. зах., 715 дак., [1908]–2005 гг.[32]**

*Калекцыя ўтрымлівае дакументы пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, дакументы па гісторыі беларускай культуры. Паступіла ў БДАМЛМ у 2004 і 2005 гг. ад* ***Раманоўскай Ядвігі Юльянаўны*** *(1920–2011) — музеязнаўцы, пляменніцы Я. Купалы*

Дакументы калекцыі Я. Ю. Раманоўскай. П. І. Гарэцкі — вершы (1964), Ц. Г. Масенка «Києвлянці» — верш — аўтарыз. маш. (1954), паштоўка С. М. Новіка-Пяюна (1974); фота у групах: удзельнікаў пер-

[32] Анатацыю на воп. 1 (1812–1997, асобн. дак. 1937–2001) гл. Вып. 2. С. 225–228.

Дакументы прафсаюзнага камітэта: пратаколы справаздачна-выбарчых сходаў (1983–1986), калектыўныя дамовы арганізацый БТА (1985–1987).

Рэцэнзіі на спектаклі тэатраў Беларусі: ДАВТ оперы і балета — Г. Кузняцова («Севільскі цырульнік», «Карміна Бурана», «Сірано»); тэатра імя Я. Купалы — Г. Алісейчыка, В. А. Ракіцкага, І. І. Чэркаса і інш.; тэатра імя Я. Коласа — Т. Я. Гаробчанкі, А. А. Лабовіча, А. К. Саннікава і інш.; тэатра імя М. Горкага — Т. Дз. Арловай, А. А. Каляды, А. М. Пятровай і інш.; ТЮГ — В. В. Нікіфаровіча, Б. Сапегіна і інш.; Маладзёжнага тэатра — В. І. Забалотнай, Л. Чарнышовай і інш.; Брэсцкага, Гомельскага, Гродненскага, Магілёўскага абл. тэатраў — Т. Я. Гаробчанкі, В. І. Забалотнай, В. А. Ракіцкага , А. А. Сабалеўскага і інш. (1977–1991); на спектаклі Беларускага радыё — Ю. М. Сохара (1981–1984); тэатраў-студый кінаакцёра, «Дзе-Я», «Рух», «Верасень», «АБВ» — Л. Грамыкі, В. А. Ракіцкага, Л. Чарнышовай і інш. (1984–1991); народных тэатраў — Г. І Барышава, В. В. Дапкюнаса, Ю. М. Сохара і інш. (1983–1986); на спектаклі тэатраў Грузіі, Латвіі, Літвы, Расіі і інш. — Т. Я. Гаробчанкі, А А. Лабовіча, А. В. Сабалеўскага, Р. Б. Смольскага і інш. (1979–1990); на дыпломныя спектаклі Беларускага дзярж. тэатральна-мастацкага інстытута (1984–1989). Справаздачы тэатразнаўцаў аб фестывальных і гастрольных праглядах спектакляў (1986–1988). Артыкулы, інфармацыі аб дзейнасці СТД, тэатраў-студый, тэатральным жыцці Беларусі (1989).

### 2.8. Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларускі кнігазбор»

**Ф. 521. Воп. 1, 53 адз. зах., 1995–2018 гг.**

*Створаны як Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор» на ўстаноўчым сходзе 10.02.1995 і зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 17.03.1995 (пасведчанне № 0107). Асноўная мэта — падрыхтоўка, выданне і распаўсюджванне гісторыка-культурнага кнігазбору Беларусі, садзеянне ў рэалізацыі дзяржаўных*

*праграм па адраджэнні беларускай мовы і культуры. Фонд меў філіі: Літоўскую, Мінскую (засн. у 1995 годзе), у Санкт-Пецярбургу (засн. у 1999 годзе). Адпаведна рашэнню Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 27.07.1999 (пасведчанне № 00246) фонд быў зарэгістраваны як Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларускі кнігазбор». У сувязі са зменамі ў Законе аб грамадскіх аб'яднаннях Рашэннем Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 19.06.2006 (пасведчанне № 01456) зарэгістравана як Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Белкнігазбор». У гэты перыяд каардынавала падрыхтоўку да друку кніг серыі «Беларускі кнігазбор». Згодна з пастановай агульнага сходу ад 11.06.2018 ліквідавана.*

Загады старшыні па асноўнай дзейнасці і асабовым складзе (1995–2016).

Пратаколы: устаноўчага сходу заснавальнікаў МФ «Беларускі кнігазбор» (1995), пасяджэнняў управы (1995–2014, 2018), агульных сходаў сяброў (1999, 2003, 2007, 2012).

Статуты: Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор» (1995), Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Беларускі кнігазбор» (1999, 2003, 2006). Дакументы аб перарэгістрацыі (заява, статут, даверанасць і інш.) (1996)

Справаздачы аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1995, 1999–2006, 2008–2015, 2017–2018), тлумачальныя запіскі да балансаў (1997–1998); статыстычныя справаздачы (1997–2000, 2003); справаздачы Міністэрству юстыцыі аб дзейнасці МГА з прыкладзенымі спісамі сяброў і складу ўправы МГА (2003, 2005–2012, 2018).

Дакументы (пратаколы, спісы, заявы) аб стварэнні Літоўскай і Мінскай філій (1995), Санкт-Пецярбургскай філіі (1999).

Перапіска з установамі па пытаннях асн. дзейнасці (1995–2011, 2018).

Разлікова-плацёжныя ведамасці па налічэнні зарплаты (1997–2004), асабовыя рахункі (2004–2007).

## 3. Тэатральна-відовішчныя ўстановы

### 3.1. Дзяржаўная ўстанова «Палац Рэспублікі» Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

### Ф. 519. Воп. 1, 143 адз. зах., 1997–2007 гг.

*Створана адпаведна Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 03.10.1997 № 499 як Дзяржаўнае культурна-відовішчная ўстанова «Дырэкцыя Палаца Рэспублікі» ў сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 04.09.2000 № 293рп перададзена ў падпарадкаванне Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Загадам Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.01.2001 № 21 перайменавана ў Дзяржаўную ўстанову «Палац Рэспублікі» Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*.

Пратаколы нарад па пытаннях будаўніцтва Палаца Рэспублікі. Дакументы I–III пускавых комплексаў Палаца Рэспублікі (заключэнні, акты, перапіска і інш.) (1997–2000).

Палажэнне аб Дырэкцыі (1997); статуты: Дырэкцыі (2000), Дзяржаўнай установы «Палац Рэспублікі».

Загады дырэктара па асноўнай дзейнасці (2000–2007).

Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета (2001), тэхнічнага савета (2001). Палажэнне аб мастацкім савеце (2001)

Штатныя расклады (1997–2007).

Планы правядзення мерапрыемстваў (2003, 2005–2006); бізнэс-план і дадаткі да яго (2007).

Знешнеэканамічныя дамовы і дакументы да іх (2005–2007).

Справаздачы аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1997–2007). Статыстычныя справаздачы па кадрах, па працы (1999–2007). Справаздачы аб замежных камандзіроўках (2004–2007)

Дакументы аб правядзенні культурна-масавых мерапрыемстваў (сцэнарыі, тэматычныя планы і інш.) (2001–2005).

Дакументы Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь: пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета (2003–2007); планы кан-

цэртнай дзейнасці (2003–2005, 2007), праграмы канцэртных выступленняў (2003–2005), справаздача аб мерапрыемствах за 2006 год; перапіска з Упраўленнем справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і інш. (2003–2007).

Калектыўная дамова і дакументы аб яе дзейнасці (пратаколы камісій, канферэнцый працоўнага калектыва, перапіска і інш.) (2001, 2003, 2006–2007).

Дакументы прафсаюзнага камітэта: пратаколы агульных і справаздачна-выбарчых сходаў, прафсаюзнага камітэта, справаздачы і інш. (1998–2000, 2003–2007).

### 3.2. Дзяржаўная тэатральна-відовішчная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь»

**Ф. 20. Воп. 1, 45 адз. зах., 1995–1996, асобн. дак. за 1966–1994 гг. Воп. 6 (тэатр балета), 84 адз. зах., 1992–2008 гг. Воп. 7 (тэатр оперы), 115 адз. зах., 1996–2008 гг. Воп. 8 (творчае аб'яднанне), 89 адз. зах., 1996–2008 гг.[42]**

*Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19.06.1996 № 216 «Аб рэарганізацыі Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь» было створана Творчае аб'яднанне «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь» са стварэннем у яго структуры самастойных Дзяржаўных тэатральна-відовішчных устаноў «Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Рэспублікі Беларусь (з 05.11.2001 — Вялікі) і «Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь (з 05.11.2001—Вялікі). Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 02.09.2008 № 494 адбылася рэарганізацыя шляхам зліцця Творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь», Дзяржаўных тэатральна-відовішчных*

[42] Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1–3 (1933–1986) гл. Вып. 1. С. 326 –328; воп. 1, 2, 5 (1974–1994) гл. Вып. 2. С. 262–263

*устаноў «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы Рэспублікі Беларусь» і «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр балета Рэспублікі Беларусь» у адзіную Дзяржаўную тэатральна-відовішчную ўстанову «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь». Уваходзіць у сістэму Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

**Дакументы Дзярж. акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь (1966–1996).** Загады Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (1995–1996); загады дырэктара тэатра па асноўнай дзейнасці (1995–1996). Вытворча-фінансавы план (1995); справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1995). Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і інш. (1995–1996). Справы сцэнічнага афармлення оперных і балетных спектакляў (спіс рэквізіту, манціровачныя ведамасці, чарцяжы, акты і інш.) (1966–1995).

**Дакументы Дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установы «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр балета Рэспублікі Беларусь».** Загады Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб дзейнасці тэатра (1998–2004); загады мастацкага кіраўніка — дырэктара тэатра (1993–2008). Статут Дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установы «Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь» (2000). Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета (1994–2000). Штатныя расклады тэатра (1997–2001). Справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1994–1996, 1998, 2000–2001). Дагаворы з мастакамі, драматургамі, кампазітарамі і інш. (1997–2008). Дакументы аб правядзенні гастроляў (пагадненні, даведкі, ведамасці і інш.): у Турцыі (1992), Тайландзе (1993), Польшчы, Францыі (1994–1995), Іспаніі (1994), Тайвані (1995), Літве, Францыі, Галандыі, Японіі (1996), Кітаі (1998). Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, творчымі арганізацыямі і інш. (1997–2008).

**Дакументы Дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установы «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы Рэспублікі**

**Беларусь».** Загады Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб дзейнасці тэатра (2003– 2008); загады дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1998–1999, 2000–2008). Статуты Дзяржаўнай тэатральна-відовішчнай установы «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы Рэспублікі Беларусь» (1996, 2000, 2001). Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета тэатра (1996–2008). Штатныя расклады (1997–2008). Планы: рэпертуарныя (1997–2008), вытворча-фінансавы (2007). Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1996–2007), статыстычныя (2001–2007). Дагаворы: з мастакамі, драматургамі, кампазітарамі і інш. (1998–2008), на правядзенне канцэртаў (1999–2007). Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і інш. па пытаннях асн. дзейнасці (2000–2008). Дакументы аб правядзенні гастроляў у Германіі (2006). Праграмы спектакляў, рэкламныя буклеты (1996–2006). Справы сцэнічнага афармлення оперных спектакляў (загады, манціровачныя ведамасці, акты, пашпарты і інш.) (1998–2007). Пратаколы пасяджэнняў прафсаюзнага камітэта (1996–2008).

**Дакументы Творчага аб’яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь».** Дакументы аб рэарганізацыі тэатра оперы і балета і стварэнні Творчага аб’яднання (Указ, акт прыёма-перадачы, копіі пасведчанняў і інш.). Загады дырэктара аб’яднання па асн. дзейнасці (1996, 2002–2008). Статуты Творчага аб’яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь» (1996, 2001). Штатныя расклады аб’яднання (1997–2008). Планы: рэпертуарныя тэатра оперы і тэатра балета (1997–2008), вытворча-фінансавыя аб’яднання (199–2008). Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці аб’яднання (1997–2008), статыстычныя (1997–2008). Дагаворы на правядзенне канцэртаў (1998 – 2007). Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і інш. па пытаннях асн. дзейнасці (1997–2008). Дакументы прафсаюзнага камітэта (пратаколы, фінансавыя справаздачы, калектыўныя дамовы (2000–2007).

### 3.3. Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы»

### Ф. 126. Воп. 1, 75 адз. зах., 1995–2008 гг. Воп. 2, 14 адз. зах., 1996–2000 гг. Воп. 3, 21 адз. зах., 1990–2009 гг.[43]

*Да пачатку кастрычніка 2000 года меў назву «Тэатральна-відовішчнае прадпрыемства «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». У адпаведнасці з загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 04.10.2000 № 305 атрымаў назву «Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». З 14.03.1994 да 09.11.1995 знаходзіўся ў сістэме Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, з 10.11.1995 — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Загады Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб дзейнасці тэатра (1995–2007).

Загады дырэктара тэатра па асноўнай дзейнасці (1995–2008).

Пратаколы пасяджэнняў мастацкай рады тэатра (2002, 1999–2004).

Статуты: Тэатральна-відовішчнага прадпрыемства «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» (1997), Дзяржаўнай установы «Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы» (2002).

Штатныя расклады (1995–2008); вытворча-фінансавыя планы (1995, 2000–2001).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1995, 2004–2008), статыстычныя (1997–2008)

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам, тэатрамі і інш. (1996–2008).

Афішы, буклеты (1995, 2000, 2003–2008).

Водгукі і рэцэнзіі на спектаклі (1996–2001).

---

[43]Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1, 2 (1920–1980) гл. Вып. 1. С. 332–336; воп. 1–4 (1920–2000 (калекцыя музея тэатра), 1981–1994) гл. Вып. 2 С. 263–266.

Рукапісы п’ес, прынятых тэатрам да пастаноўкі (1996–2000): «Крывавая Мэры» Д. Бойкі (паст. А. Ф. Гарцуева), «Ромул Вялікі» Ф. Дзюрэнмата (паст. В. М. Раеўскага), «Агляніся ў гневе» Д. Осбарна (паст. Л. А. Манаковай), «Смерць Кандзіда Тарэлкіна» А. В. Сухаво-Кабыліна (паст. У. К. Савіцкага), «Карлік-нос» В. Гаўфа (паст. Н. А. Башавай), «Чароўная ноч» С. Мрожака (паст. Дз. Марыніна, Дз. Саладухі), «Касцюмер» Р. Харвуда ў пер. Г. М. Бураўкіна (паст. М. М. Пінігіна), «Гамлет» В. Шэкспіра ў пер. Ю. П. Гаўрука (паст. В. Дз. Анісенкі), «Вечны Фама» У. П. Бутрамеева (паст. У. К. Савіцкага), «Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча» (паст. Дз. Марыніна, Дз. Саладухі, В. М. Раеўскага), «Лэдзі Кронкі і мышы» Дж. Патрыка ў пер. А. А. Дзялендзіка (паст. Я. Натапава), «Піраміда Хеопса» Ю. Ломаўцава (паст. В. М. Раеўскага), «Тут жывуць людзі» А. Фугарда (паст. У. Шчэрбаня), «Вандроўнікі» А. Г. Паповай у пер. А. А. Дударава (паст. В. М. Баркоўскага).

Асабовыя справы артыстаў (выбылі ў 1990–2009 гг.): Т. Н. Аляксеевай, Г. Ф. Бальчэўскай, В. С. Белахвосціка, З. І. Браварскай, Ф. С. Варанецкага, І. І. Вашкевіча (дырэктар тэатра), Л. М. Давідовіч, Г. Б. Давыдзькі, А. П. Дзянісава, П. П. Дубашынскага, Я. А. Кавалёвай, П. В. Кармуніна, У. У. Кудрэвіча, А. В. Луцэвіча, Г. К. Макаравай, А. В. Рынковіч, С. М. Станюты, В. П. Тарасава, Б. У. Уладамірскага, В. М. Філатава, М. М. Яроменкі.

### 3.4. Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа»

**Ф. 269. Воп. 1, 62 адз. зах., 1927–[1995] гг., 200 адз. зах., 1988–2010 гг. Воп. 2, 19 адз. зах.,1992–1999 гг. Воп. 3, 29 адз. зах., 1959–2014 гг.[44]**

*Да 1992 года насіў назву «Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага сцяга акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба*

[44]Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1, 2 (1941–1978) гл. Вып. 1. С. 328–331; воп. 1, 2 (1979–1987), (1951–1991) гл. Вып. 2. С. 261–262.

*Коласа». Уваходзіў у сістэму Міністэрства культуры БССР. Да пачатку кастрычніка 2000 года тэатр меў назву «Тэатральна-відовішчнае прадпрыемства «Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа». У адпаведнасці з загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 04.10.2000 № 305 атрымаў назву Дзяржаўная ўстанова «Беларускі акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа». Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.08.2001 № 1297 тэатру нададзена званне «нацыянальны». У сувязі з гэтым атрымаў назву Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа». З 14.03.1994 да 09.11.1995 знаходзіўся ў сістэме Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, з 10.11.1995 — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Дакументы 1927–[1995] гг[45]: пастановы і загады дырэкцыі тэатра аб фарміраванні штатнага складу тэатра, пратаколы, каштарысы на пастаноўку спектакляў, дамовы з С. Заяіцкім, С. Розанавым, М. А. Міцкевічам і інш., тлумачальныя запіскі, ведамасці на выдачу зарплаты, на аплату мастацка-пастановачных прац (І. Д. Луцэвічу (Я. Купалу), М. А. Грамыку, П. В. Мядзёлцы, М. А. Керзіну і інш.), спісы работнікаў тэатра, дакладныя запіскі і інш. (1927–1929, 1933); каляндарныя планы паказаў спектакляў і рэпетыцый у эвакуацыі — г. Уральск, г. Арэхава-Зуева (1941–1944); спісы творчага і адмінстрацыйнага складу тэатра (1943–1951); каляндарныя планы працы тэатра, паказаў спектакляў і рэпетыцый з заўвагамі рэжысёраў (1945–1974); журналы ўліку занятасці артыстаў (1946–1978); планіроўка сцэн і асвятлення да спектакля «Гамлет» рэж. В. М. Бебутава (1946); кнігі рэж. запісаў аб паст. спектакляў па п’есах «Свежы вецер» В. М. Сабко, «Авадзень» Э. Войніч, «Калі зацвітаюць сады» В. П. Палескага і інш. (1948–1954); загады дырэктара тэатра па паст. спектакляў (1956–1966); планы абслугоўвання калгасаў і саўгасаў Віцебскай вобл. (1966, 1972); рэпертуар тэатра на 1961–1976 гг.;

[45] У БДАМЛМ паступілі з Дзярж. архіва Віцебскай вобл. у 2016 годзе.

спісы роляў, сыграных артыстамі Я. К. Глебаўскай, Т. А. Кокштысам, З. І. Канапелькай, І. А. Матусевічам і інш. у 1935–1976 гг.; пісьмы дырэктару і заг. літ. часткі І. А. Матусевіча (1985), Н. С. Гілевіча (1988), успаміны Г. А. Арловай «Віцебскі накірунак», «Мая дарагая студыя» [1995].

Статут Дзяржаўнай установы «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа» (2006), палажэнні аб структурных падраздзяленнях (2006).

Загады дырэктара тэатра па асноўнай дзейнасці (1988–2000).

Пратаколы мастацкага савета (1988–1989, 1991–2009).

Штатныя расклады (1988–2010).

Планы: вытворча-фінансавыя (1988–1991, 1993–2003), рэпертуарныя (1988–2011), правядзення творчых сустрэч і інш. (1998–1999); праграма развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы (1998–2001); каштарысы на пастаноўку спектакляў (1988).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1988–1991, 1995–2000, 2003–2010), статыстычныя (2000–2010);

Перапіска з Міністэрствам культуры БССР, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкама і інш. (1988–1991, 1995–1998, 2000–2004, 2007–2008).

Спіс творчых работнікаў тэатра (1996–1997).

Афішы і праграмы спектакляў (1988–2010), буклеты (1995, 2000–2002); справы спектакляў (пашпарты, эскізы касцюмаў, акты і інш. ): «Кацярына Іванаўна» па п’есе Л. М. Андрэева (рэж. Ф. С. Таліпаў, маст. С. П. Макаранка) (2001), «Люці» па п’есе А. А. Дударава (рэж. М. Д. Краснабаеў, маст С. П. Макаранка) (2003), «Бацька» па п’есе А. Стрынберга (рэж. Ю. А. Пахомаў, маст. С. П. Макаранка), «Муж і жонка» па п’есе А. Фрэда (рэж. Ю. І. Лізянгевіч, маст. Н. Аляксеева) (2004), «Дарагая Памэлла» па п’есе Дж. Патрыка «Усе любяць апал» (рэж. А. В. Грышкевіч, маст. Ю. В. Карымава), «Ён. Яна. Акно. Нябожчык» па п’есе Р. Куні (рэж. Ю. А. Пахомаў, маст. С. П. Макаранка), «Ладдзя роспачы» па матывах аповесці У. С. Караткевіча (рэж. М. Д. Краснабаеў, маст. С. П. Макаранка) і інш. (2005), «Памінальная малітва» па п’есе Р. І. Горына (рэж. Ю. А. Пахомаў, маст. С. П.

Макаранка) (2006), «Васа» па п’есе М. Горкага (рэж. Ф. С. Таліпаў, маст. С. П. Макаранка), «Позняе каханне» А. М. Астроўскага (рэж. В. М. Баркоўскі, маст. А. Касцючэнка) і інш. (2007), «Жанчыны Бергмана» па п’есе М. В. Рудкоўскага (рэж. Ю. І. Лізянгевіч, маст. А. В. Качан), «Млын» па п’се А. А. Дударава (рэж. Ю. А. Пахомаў, маст. С. П. Макаранка), «Нельга нам без сябра» па п’есе У. І. Галубка (рэж. Ю. У. Кулік, маст. С. П. Макаранка) і інш. (2008), «Апошнія сведкі» па аповесці С. А. Алексіевіч (рэж. У. К. Савіцкі, маст. В. Цімафееў), «Ветрагоны» па п’есе У. І. Галубка (рэж. У. К. Савіцкі, маст. В. Цімафееў) і інш. (2009), «Бездань» па матывах твораў Р. Брэдберы (рэж. П. Г. Адамчыкаў, маст. В. Мацкевіч), «Я буду зоркай» па матывах казкі С. В. Кавалёва (рэж. Т. Сядова, маст. С. П. Макаранка) і інш. (2010).

Дакументы аб дзейнасці Б. У. Эрына на пасадзе маст. кір. тэатра (тв. характарыстыкі, рэж. запісы і інш.) (1992); стэнаграмы рэпетыцый спектакля па п’есе М. А. Булгакава «Здурнелы Журдэн» (1993); дакументы (сцэнарыі, тэксты выступленняў, справаздачы і інш.): аб правядзенні бенефісаў н. арт. Рэспублікі Беларусь Г. С. Дубава і Я. П. Шыпілы (1993), засл. арт. Г. В. Шкуратава, П. А. Ламана, Л. І. Пісаравай (1999), акцыі «Дзецям Чарнобыля», тэатральнага марафону па збору сродкаў на аднаўленне помнікаў культуры (1993), міжнароднага фестывалю «Духоўная энэргія тэатра і форма яе ўздзеяння» (1995), 70-годдзя тэатра (1996), «Бенефіса маладых» (1996), фестывалю «Школьны тэатр» (1997–1998), 80-годдзя тэатра (2006); сцэнарыі: да 50-годдзя тв. дзейнасці засл. арт. Рэспублікі Беларусь А. Ф. Мельдзюковай (1994), 70-годдзя народнага паэта Беларусі Р. І. Барадуліна (1995). Водгукі і рэцэнзіі на спектаклі тэатра (2001–2010).

Рукапісы п’ес, прынятых тэатрам да пастаноўкі (маш. з рэж. паметамі): «Рэвізор» М. В. Гогаля (рэж. Б. У. Эрын), «Залёты» В. І. Дуніна-Марцінкевіча (рэж. Ю. І. Лізянгевіч), «Верачка» А. Я. Макаёнка (рэж. Ф. І. Шмакаў) (1992), «Здурнелы Журдэн» М. А. Булгакава (рэж. Ю. І. Лізянгевіч), «Край» А. А. Ждана (рэж. В. Я. Мазынскі), «Кошчын дом» С. Я. Маршака (рэж. Ю. І. Лізянгевіч) (1993), «Кароль Лір» У. Шэкспіра (рэж. В. В. Маслюк) (1994), «І паміраючы дрэвы стаяць»

А. Касона (рэж. Ю. І. Лізянгевіч), «Рэцэпт Макропуласа» К. Чапека (рэж. М. М. Пінігін) (1995), «Бабскія плёткі» К. Гальдоні , «Жураўлінае пяро» Д. Кінасіта (рэж. А. В. Грышкевіч), «Час быка» К. Саі (рэж. В. В. Маслюк), «Дзядзька Ваня» А. П. Чэхава (рэж. Ю. І. Лізянгевіч), «Прывітанне, Новы год!» (аўтар і рэж. Ю. І. Лізянгевіч) (1996), «Утаймаванне наравістай» У. Шэкспіра (рэж. Ю. А. Пахомаў) (1997), «Віват каханне!, альбо Помста млынара» П. дэ Аларкона (рэж. Ю. І. Лізянгевіч) (1998), «Пад сонцам» (аўтар і рэж. В. В. Маслюк), «Руслан і Людміла» А. С. Пушкіна (рэж. Ю. І. Лізянгевіч) (1999).

Асабовыя справы акцёраў, рэжысёраў, маст. кіраўнікоў тэатра: В. Дз. Анісенкі, Г. Б. Асвяцінскага, Г. С. Дубава, Л. А. Заграбельнай, З. І. Канапелькі, А. У. Каржанеўскага, С. Е. Кохана, Б. Я. Крупскага, У. А. Куляшова, А. І. Лабанка, Ю. І. Лізянгевіча, В. Я. Мазынскага, Т. Р. Мархель, В. В. Маслюка, А. Ф. Мельдзюковай, Л. А. Нісневіч, В. Ц. Петрачковай, Л. І. Пісаравай, Б. І. Сяўко, С. А. Салаўёва, Ф. С. Таліпава, Л. І. Трушко, Г. А. Трушко-Каральковай, М. П. Цішачкіна, Т. Р. Шашкінай, Г. В. Шкуратава, Ф. І. Шмакава, Я. П. Шыпілы, М. М. Яроменкі (1959–2014).

Дакументы прафсаюзнага камітэта (пратаколы, каштарысы, фін. справаздачы і інш. ) (1988–1999).

### 3.5. Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага»

**Ф. 94. Воп. 1, 55 адз. зах., 1999–2006 гг. Воп. 3, 5 адз. зах., 1984, 2004–2005 гг.**[46]

*Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10.12.1999 № 1927 Дзяржаўнаму акадэмічнаму рускаму драматычнаму тэатру імя М. Горкага было нададзена ганаровае званне «нацыянальны» і з гэтай даты ён стаў называцца «Нацыянальны акадэмічны*

[46] Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1, 2 (1940, 1944–1983) гл. Вып. 1. С. 336–339; на воп. 1–3 (1984–1998, асобныя дак. за 1945–1983 гг.) гл. Вып. 2. С. 267.

*драматычны тэатр імя М. Горкага». Рашэннем Мінгарвыканкама ад 07.09.2000 № 1030 быў зарэгістраваны як Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага». Уваходзіць у сістэму Мністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Загады дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1999–2006).

Статуты Дзяржаўнай ўстановы «Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага» (2000, 2006).

Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета тэатра (1999–2006).

Штатныя расклады (1999–2006).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1999–2006), статыстычныя (1999–2006).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам, творчымі саюзамі і інш. (1999–2006).

Афішы: рэпертуарныя (2001–2004), юбілейнага творчага вечара А. І. Клімавай (2002), гастрольная ў г. Гродна (2006); буклеты (2005)

Асабовыя справы акцёраў: В. М. Бандарэнкі, А. І. Клімавай, С. П. Кузьміной, Ю. У. Сідарава, К. А. Шышкіна (1984, 2004–2005).

**3.6. Дзяржаўная ўстанова «Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі»**

**Ф. 517. Воп. 1, 103 адз. зах., 1990-2008 гг.**

*Створаны ў адпаведнасці з пастановай СМ БССР ад 25.12.1990 № 330 загадам Міністэрства культуры БССР ад 28.02.1991 № 27 як структура Беларускага дзярж. акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 07.04.1993 № 27 быў выдзелены ў самастойнае Тэатральна-відовішчнае прадпрыемства «Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі». Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 13.09.2000 № 7 перайменаваны ў Дзяржаўную ўстанову «Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі». З 14.03.1994 да 09.11.1995 знаходзіўся ў сістэме Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, з 10.11.1995 — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Пастанова СМ БССР ад 25.12.1990, загады Міністэрства культуры БССР (1991), Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (1993, 2000). Загады і распараджэнні дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1994–2008)

Статуты: Тэатральна-відовішчнага прадпрыемства «Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі» (1993), Дзяржаўнай установы «Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі» (1999).

Пратаколы: пасяджэнняў мастацкай рады тэатра (1996–2008), агульнага сходу калектыва (1996), савета працоўнага калектыва (1997–1999, 2002).

Штатныя расклады (1993–2008).

Справаздачы статыстычныя (1998, 2001–2008)

Дамовы з мастакамі, рэжысёрамі, кампазітарамі на пастаноўку і афармленне спектакляў (1993–2000).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Белдзяржфілармоніяй, Мінгарвыканкамам і інш. па асн. дзейнасці (1994–1997, 2000–2008). Дакладныя і службовыя запіскі аб працы творчага калектыва тэатра (2002–2003).

Афішы міжнародных тэатральных фестываляў з удзелам тэатра (2000–2008). Лагатып тэатра (2000)

Асабовыя справы: Г. М. Гарбука, Ю. К. Куліка (дырэктар тэатра), В. Я. Мазынскага (2000, 2002). Дыплом Міжнароднага фестывалю «Славянскія тэатральныя сустрэчы» актрысе Л. Сідаркевіч (1999).

### 3.7. Дзяржаўная тэатральна-відовішчная ўстанова «Маладзёжны тэатр эстрады».

### Ф. 498. Воп. 1, 100 адз. зах., 1997–2007 гг.

*Тэатр узнік як творчы калектыў «Маладзёжны тэатр эстрады» Дзяржаўнага аб'яднання «Белканцэрт». Быў адчынены 19 мая 1997 г. у адпаведнасці з загадам дырэктара «Белканцэрта» ад 07.05.1997 № 33. На яго базе загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 01.08.1997 № 225 створана Тэатральна-відовішчнае прадпрыемства «Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады».*

*Знаходзіўся ў сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 19.10.2000 № 327 быў перададзены ў падпарадкаванне Беларускаму ўніверсітэту культуры і перайменаваны ў Дзяржаўную тэатральна-відовішчную ўстанову «Маладзёжны тэатр эстрады». Згодна з рэзалюцыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13.12.2006 тэатру быў нададзены статус арганізацыі рэспубліканскага падпарадкавання. Уваходзіць у сістэму Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Рэзалюцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13.12.2006 аб наданні тэатру статуса арганізацыі рэсп. падпарадкавання.

Загады дырэктара ДА «Белканцэрт» па асн. дзейнасці тэатра (1997), загады дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1997–2002, 2004–2007).

Статуты: ТВП «Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады» (1997), ДТВУ «Маладзёжны тэатр эстрады» (2000, 2007).

Пратаколы: пасяджэнняў мастацкага савета тэатра (2005–2007), сходу працоўнага калектыва (2007).

Штатныя расклады (1997–2005).

Планы: вытворча-фінансавыя (1997–2004), адкрыцця тэатра (1997); каштарысы выдаткаў (1998–2004)

Справаздачы: фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1997–2007), статыстычныя (2000–2007)

Дамовы на правядзенне канцэртаў і культурна-масавых мерапрыемстваў (1997–2000), калектыўная дамова (1997).

Перапіска з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, творчымі ўстановамі і інш. па асн. дзейнасці (1997–2007).

Рэпертуарныя афішы, афішы шоу-праграм, спектакляў, праграмы канцэртаў (2001–2007).

Граматы і дыпломы (2002–2005). Падзячныя лісты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за актыўны ўдзел у працы ініцыятыўнай групы па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2006). Фота артыстаў тэатра у групе з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам,

В. П. Раінчыкам пад час сустрэчы з таленавітай моладдзю, пад час выступлення ў Ястрабельскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот (2006).

Дакументы мюзікла (тэксты, ноты і інш.) «Очень странное «Принтипрам шоу» (рэж. В. М. Панін, камп. В. П. Раінчык, В. В. Кандрасюк, паэты У. П. Някляеў, В. Галавач) (1998).

Асабовыя справы: В. У. Зінавай (дырэктар тэатра), А. С. Кастылёвай, Г. Ф. Міронавай (дырэктар тэатра), В. І. Сергіевіча (дырэктар тэатра), У. В. Унукава (дырэктар тэатра), Э. С. Ханка, А. Б. Цівунова.

### 3.8.Установа «Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр» Ф. 453. Воп. 1–2, 174 адз. зах., 1997–2012 гг.[47]

*Рашэннем Мінгарвыканкама ад 26.05.2000 № 574 «Дзяржаўны маладзёжны тэатр Рэспублікі Беларусь» перайменаваны ў «Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр»*

Загады Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (1999).

Загады дырэктара тэатра па асноўнай дзейнасці (1997–2012).

Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета тэатра (1998–2011).

Вытворча-фінансавыя планы тэатра (2004–2012); штатныя расклады (1997–2012).

Каштарысы на пастаноўку спектакляў «Ромео и Джульета», «Ангел над крышами», «Прымакі», «Дзесьці далёка», «Женитьба Фигаро», «Бред вдвоём», «Пигмалион», «Трамвай «Желание», «Виндзорские насмешницы», «Отпуск по ранению», «Сеньор с огромными крыльями», «Свои люди — сочтёмся», «Давайте жить дружно», «Тартюф», «Зерно риса» і інш. (1997–2012).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (2002–2012); статыстычныя (1997–2012).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленнем культуры Мінгарвыканкама і інш. (1997–2012).

---

[47]Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1 (1984–1996) гл. Вып. 2. С. 267–68

Рэпертуарныя афішы і праграмы спектакляў тэатра (2000–2012).

Пратаколы пасяджэнняў прафсаюзнага камітэта (2001–2009).

Асабовыя справы: Л. К. Егаяна (дырэктар), В. А. Тарнаўскайтэ (гал. рэжысёр), С. Б. Жураўля (засл. артыст Рэспублікі Беларусь).

Справы спектакляў (партытуры, эскізы, чарцяжы і інш.): «Пигмалион» Б. Шоу (рэж. І. В. Малаў, маст. В. Грыцаеў), «Плутни Скапена» Ж. Б. Мальера (рэж. А.Фарнье, маст. З. Марголіна), «Хитроумная влюблённая» Лопэ дэ Вега (рэж. І. В. Малаў, маст. В. Цімафееў), «Гадкий утёнок» Г. Андэрсэна (аўт. і рэж. сцэн. варыянта С. Кавальчык), «Лейтенант Володька» па матывах аповесці В. Кандрацьева «Сашка» (рэж. М. М. Абрамаў, маст. А. Касцючэнка), «Стеклянный зверинец» Т. Уільямс (рэж. І. В. Малаў, маст. Дз. М. Мохаў), «Продавец дождя» Р. Нэша (рэж. М. М. Абрамаў, маст. Л. І. Рулева), «Чужое богатство» Г. В. Марчука (рэж. Я. Іўковіч, маст. Я. Волкаў), «Кукольный дом» Г. Ібсэна (рэж. І. В. Малаў, маст. А. Касцючэнка), «Полоумный Журден» М. А. Булгакава (рэж. М. М. Абрамаў, маст. А. Касцючэнка), «Сестра моя» па п'есе Г. Сенкевіча «Ганя» (рэж. К. Аверкава, маст. Л. Скітовіч) і інш. (2000–2011).

### 3.9. Установа «Беларускі дзяржаўны тэатр лялек»
### Ф. 87. Воп. 1, 121 адз. зах., 1993–2008 гг.[48]

*Рашэннем Мінгарвыканкама ад 17.05.2000 № 533 «Дзяржаўны тэатр лялек Рэспублікі Беларусь» перайменаваны ў «Беларускі дзяржаўны тэатр лялек»*

Статуты Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь (1993, 1997), Установы «Беларускі дзяржаўны тэатр лялек» (2000).

Загады дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1993–2008).

Штатныя расклады (1993–2008).

Пратаколы мастацкага савета тэатра (1993–1994, 2004–2008).

Рэпертуарныя планы (1993–2008).

[48]Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1 (1944–1983) гл. Вып.1. С. 341, воп. 1 (1984–1992) гл. Вып. 2. С. 269–270.

Вытворча-фінансавыя планы (1993–2008).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці тэатра (2004–2006, 2008); статыстычныя (1993–1995, 1999–2001, 2004–2008).

Калектыўныя дагаворы (1998–2008).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам і інш. па асн. дзейнасці (1993–1997, 2001–2008).

Справы спектакляў (эскізы лялек і дэкарацый, вопісы лялек і дэкарацый, каштарысы і інш.): «Цар Ірад» (1993, рэж. А. А. Ляляўскі), «Чараўнік смарагдавага гораду» (1997, рэж. В. Я. Растрыжэнкаў), «Гэта ты, Моцарт» (1997, рэж. І. І. Мацкевіч), «Русалачка» (1998, рэж. А. А. Жугжда), «З Парыжам скончана» (2001, рэж. А. А. Ляляўскі), «Пакінуты ўсімі», «Пух-мядзведзь» (2002, рэж. А. А. Ляляўскі), «Глупая казка» (2005, рэж. А. Б. Ярылаў).

Праграмы і афішы спектакляў (1996–1997, 1999, 2002–2003, 2006–2008).

Асабовыя справы: А. Р. Фаміной (засл. дз. маст.), У. П. Уласава (засл. артыст БССР.

### 3.10. Беларускі драматычны тэатр аддзела Генеральнага камісарыята Беларусі, г. Мінск

**Ф. 494. Воп. 1, 21 адз. зах., 1941–1944 гг.[49]**

*Вядомы як «Менскі беларускі тэатр» — гарадскі тэатр у Мінску ў гады акупацыі ў Вялікую Айчынную вайну. Працаваў два тэатральныя сезоны 1941–1942, 1942–1943 і першую палову 1944 года. Меў оперную, драматычную, балетную, эстрадную групы, хор, сімфанічны аркестр, аркестр цымбалістаў. Удзельнікамі былі акцёры і музыканты розных мінскіх тэатраў, якія не змаглі эвакуявацца.*

[49]Дакументы паступілі з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ) па акту ад 26.09.2011 № 2 паводле рашэння ЦЭМК Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 14.10.2010 № 5 «Аб перадачы фондаў НАРБ у рэспубліканскія і абл. Архівы» (У сувязі з удакладненнем профілю фондаў НАРБ).

Загады дырэктара тэатра па асабовым складзе (1941–1942, 1944)

Паведамленні аб прызначаных канцэртах і пацвярджэнні аб іх правядзенні (1943)

Ведамасці: на атрыманне харчовых картак, на выплату зарплаты, на атрыманне сутачных артыстам эстрады (1941–1944).

Спісы работнікаў тэатра, асабовыя анкеты, рабочыя табелі (1941–1944).

### 3.11. Таварыства з дадатковай адказнасцю «Хрыстафор-люкс»

**Ф. 479. Воп. 1, 58 адз. зах., 1987–2006 гг.**

*У 1986 годзе па ініцыятыве засл. артыста Рэспублікі Беларусь Я. А. Крыжаноўскага быў заснаваны аматарскі тэатр-студыя сатыры і гумару «Хрыстафор». Загадам упраўлення культуры Мінгарвыканкама ад 05.03.1988 № 16 было створана Эксперыментальна-творчае аб'яднанне «ЭТА». У яго склад у адпаведнасці з рашэннем агульнага сходу творчага калектыву ад 08.02.1988 увайшоў тэатр-студыя «Хрыстафор». У 1989 годзе «ЭТА» было ліквідавана і загадам упраўлення культуры Мінгарвыканкама ад 12.10.1989 № 90 створана канцэртна-гастрольнае аб'яднанне «Мінскканцэрт», у склад якога ўвайшоў і тэатр-студыя «Хрыстафор». Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 06.03.1992 № 27 на базе «Мінскканцэрта» была створана Рэспубліканская дырэкцыя эстрадна-цыркавога мастацтва, адным са структурных падраздзяленняў якога стаў тэатр-студыя «Хрыстафор». У пачатку 1994 года тэатр-студыя выйшаў са складу Рэсп. дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва і на яго базе ўстаноўчай дамовай ад 24.03.1994 было створана Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Хрыстафор-люкс». У 2001 годзе таварыства змяніла арганізацыйна-прававую форму і ў адпаведнасці з устаноўчай дамовай ад 28.06.2001 стала Таварыствам з дадатковай адказнасцю «Хрыстафор-люкс». ТДА «Хрыстафор-люкс» ажыццяўляла тэатральную і гастроль-*

*на-канцэртную дзейнасць, займалася падборам акцёрскага складу для кінафільмаў, тэлеперадач і тэатральных пастановак і інш. Ліквідавана 27.01.2010 «у сувязі з адсутнасцю прадпрымальніцкай дзейнасці на працягу 12 месяцаў і ненакіраванні камерцыйнай арганізацыяй падатковаму органу паведамлення аб прычынах адсутнасці такой дзейнасці».*

Загады дырэктара па асноўнай дзейнасці (1995–2003).

Статуты і дамовы аб стварэнні і дзейнасці: Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Хрыстафор-люкс» (1994); Таварыства з дадатковай адказнасцю «Хрыстафор-люкс» (2001), копія пасведчання аб рэгістрацыі (2001).

Пратаколы пасяджэнняў: Савета творчага калектыва (1988–1989), агульных сходаў творчага калектыву (1988–1989), сходаў удзельнікаў Таварыства (1995–1997).

Штатныя расклады (1995–1996, 2001–2002).

Справаздачы аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1995–2006).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам, тэатрамі і інш. па асноўнай дзейнасці (1995–2000).

Афішы і праграмы спектакляў, эстрадна-сатырычных праграм, канцэртаў (1988–1992, 2000-я); буклет Дзён культуры Беларусі на Украіне з характарыстыкай дзейнасці «Хрыстафор-люкс» (1993).

Дыпломы лаўрэатаў II Усесаюзнага конкурсу эстраднага жанру, Міжнароднага фестывалю сатыры і гумару, граматы і падзячныя лісты вайсковых частак і інш. (1989–1997); дакументы Міжнароднага фестывалю сатыры і гумару «Море смеха» у г. Сочы (запрашэнне, праграма, спіс) (1992).

Фота артыстаў тэатра С. Краўца, Я. А. Крыжаноўскага, Ю. Л. Ляснога і інш. пад час гастроляў у ГДР у групе з Я. Петрасянам і інш. (1987); А. Длускага, Я. А. Крыжаноўскага, Ю. Л. Ляснога, С. Клуннага, У. Варанкова і інш. у спектаклях «Кавалеры приглашают дамов», «Хорошо сидим», «Кто кого!» (1987–1988), «От Чижовки до Комаровки» (1991), «Постой, паровоз» (2002); афармлення сцэн у спектаклі «Говорит и показывает» (мастак — У. Маршак) (1998).

Лісты гледачоў з водгукамі на спектаклі і выступленні артыстаў (1991–1998).

### 3.12. Установа «Беларускі дзяржаўны музычны тэатр» Ф. 223. Воп. 1, 141 адз. зах. 1995–2006 гг. Воп. 2, 10 адз. зах., 2001–2006 гг.

*Да 1999 года насіў назву Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь. Рашэннем Мінгарвыканкама ад 17.12.1999 № 1366 быў перайменаваны ў Дзяржаўны музычны тэатр Рэспублікі Беларусь. Рашэннем Мінгарвыканкама ад 22.06.2000 № 718 быў зарэгістраваны пад назвай Установа «Беларускі дзяржаўны музычны тэатр». Знаходзіцца ў падпарадкаванні ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама.*

Загады ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама аб дзейнасці тэатра (1995–1996, 2000–2006); загады дырэктара тэатра па асн. дзейнасці (1995–2003), распараджэнні мастацкага кіраўніка тэатра (1998–2001)

Пратаколы пасяджэнняў мастацкага савета (1995–2006).

Рэпертуарныя планы (1995–2006).

Штатныя расклады (1996–2006).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (1995–1998, 2000–2006), статыстычныя (1995–2006); дакладныя запіскі аб дзейнасці тэатра (1995–2006)

Перапіска з упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і інш. па асн. дзейнасці (1995–2006).

Праграмы і афішы спектакляў (1995–2006).

Асабовыя справы творчага складу тэатра: Н. У. Андросавай, Р. Л. Бузука, Н. М. Дзьячэнкі, Ю. Б. Дзятко, Я. І. Ждана, В. М. Мазур, П. В. Рыдзігера, Н. А. Рэвінскай, А. П. Сасноўскага, В. Р. Фаменкі (2001–2006).

## 3.13. Дзяржаўная відовішчная ўстанова «Беларускі дзяржаўны цырк»

**Ф. 85. Воп. 1, 96 адз. зах., 2000–2008 гг.**

*Да 19.09.2000 мела назву Прадпрыемства «Беларускі дзяржаўны цырк». Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 20.09.2000 № 283 была ўдакладнена арганізацыйна-прававая форма і замацавана назва Дзяржаўная відовішчная ўстанова «Беларускі дзяржаўны цырк».*

*Да 2008 года ўваходзіла ў сістэму Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10.04.2008 № 97 рп перададзена ў падпарадкаванне Мінгарвыканкаму.*

Загады Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (2000–2008).

Загады дырэктара — мастацкага кіраўніка цырка па асн. дзейнасці (2000–2008).

Статуты Дзяржаўнай відовішчнай установы «Беларускі дзяржаўны цырк» (2000, 2005).

Пратаколы: пасяджэнняў мастацкай рады (2000–2008), вытворчых нарад (2000–2008).

Штатныя расклады (2000–2008). План працы цырка на 2005 год.

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (2000–2008), статыстычныя (2000–2008).

Акты прыёму і тэхнічнага агляду цыркавых праграм (2000–2005).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам і інш. па асн. дзейнасці (2000–2008).

Афішы, праграмы, графікі прадстаўленняў (2000–2008).

# 4. Установы адукацыі, цэнтр культур, музей

## 4.1. Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі»

### Ф. 83. Воп. 148 адз. зах., 2003–2007 гг.[50]

*З 10.11.1995 уваходзіць у сістэму Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Статут Установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі (2006).

Распараджэнні рэктара і прарэктараў па асноўнай дзейнасці (2003–2007)

Пратаколы пасяджэнняў: рэктарата акадэміі (2003–2007); савета акадэміі (2003–2004); Вучонага савета (2005–2007); Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі (2003–2007); саветаў факультэтаў і кафедраў (2003–2007).

Планы: працы савета акадэміі (2003–2007), працы кафедраў і інш. (2003–2007), прыёму аспірантаў, магістрантаў (2003).

Штатныя расклады акадэміі (2003–2007).

Справаздачы: аб навуковай, творчай, метадычнай, выхаваўчай працы (2003–2007); фінансава-гаспадарчай дзейнасці (2003–2007); статыстычныя (2003–2004).

Дакументы канцэртнай дзейнасці акадэміі (заявы, водгукі, артыкулы, праграмы) (2003–2006).

Дакументы па творчых праектах аддзела міжнародных сувязей (планы, загады, праграмы і інш.) (2003–2007).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь па пытаннях асн. дзейнасці і інш. (2003–2007).

Афішы канцэртаў выкладчыкаў і студэнтаў акадэміі (2003–2007).

[50] Гістарычную даведку і анатацыю на воп. 1–2 (1931–1936, 1944–1981) гл. Вып. 1. С. 356–357; на воп. 1 (1982–2002) — Вып. 2. С. 254–255.

Дакументы прафсаюзнага камітэта (пратаколы, каштарысы, статыстычныя справаздачы і інш.) (2003–2007).

**4.2. Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Інстытут культуры Беларусі»**

**Ф. 478. Воп. 1–2, 198 адз. зах., 1991–2007, 2010-2017 гг.**

*Папярэднікам з'яўляўся Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры, які быў створаны загадам Міністэрства культуры БССР ад 31.05.1991 № 68 на базе ліквідаваных Рэсп. інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры, Рэсп. навукова-метадычнага цэнтра работнікаў культуры і Рэсп. метад. кабінета навучальных устаноў культуры і мастацтва пад назвай Беларускі інстытут праблем культуры. Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 14.03.2001 № 97 быў перайменаваны ва Установу адукацыі «Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры». Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16.12.2007 № 1779 інстытут быў рэарганізаваны шляхам далучэння да Установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў». У адпаведнасці з пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31.08.2010 № 1263 «Аб рэарганізацыі Установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў» загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 08.09.2010 № 131 была заснавана Установа адукацыі «Інстытут культуры Беларусі», які стаў правапераемнікам былога Беларускага дзярж. інстытута праблем культуры. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15.05.2017 № 354 «Аб рэарганізацыі Установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў» загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 05.06.2017 № 123 рэарганізавана шляхам далучэння да яе Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі». Дакументы Установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры» склалі воп. 1, Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі» — воп. 2.*

**Дакументы Установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры».**

Дакументы аб стварэнні інстытута (загад, палажэнне, пратакол і інш.) (1991). Загады і рашэнні калегіі Міністэрства культуры БССР, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і інш. (1991–1995, 1998–1999).

Загады рэктара інстытута па асн. дзейнасці (1991–2007).

Пратаколы пасяджэнняў Вучонай рады (з 1998 года — Вучонага савета) (1992–2007).

Планы навукова-метадычнай і арганізацыйна-творчай працы (1992–1998, 2001–2007).

Штатныя расклады (1992–2007).

Справаздачы: аб навукова-даследчай і арганізацыйна-метадычнай працы (2001–2002, 2007); аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (2001–2007); статыстычныя справаздачы (2001–2007); аб замежных камандзіроўках (2005–2007)

Перапіска з Міністэрствам культуры БССР, Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленнямі культуры аблвыканкамаў, Мінгарвыканкамам і інш. па асн. дзейнасці (1991–2007).

Дакументы фестываляў (планы, праграмы, спісы, творчыя характарыстыкі і інш.): I беларускага народнага танца «Палескі карагод» (1991), беларускага народнага танца «Пярэзвы» (1992), I Міжнароднага фальклору (1993).

Асабовыя справы рэктараў інстытута: У. П. Скараходава (1991–2005), А. Я. Міхневіча (1995–2006).

**Дакументы Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі».**

Загад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 08.09.2010 № 131 аб стварэнні Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі».

Статуты Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі» (2010, 2016); палажэнні аб аддзелах інстытута (2011–2017); аб Вучоным савеце (2013).

Загады рэктара па асн. дзейнасці (2010–2017).

Пратаколы: Савета інстытута (2011–2013, 2016–2017); Вучонага савета інстытута (2014–2017); навукова-метадычнага савета (2012–2017); экспертна-мастацкай камісіі спецыяльнага фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі (2013–2016).

Штатныя расклады (2011–2017).

Планы: працы (2011–2017), вучэбна-тэматычныя (2011–2015).

Вучэбныя праграмы павышэння кваліфікацыі (2011), перападрыхтоўкі (2011), праграма супрацоўніцтва з абл. метадычнымі цэнтрамі народнай творчасці і культурна-асветніцкай працы (2015–2017).

Дагаворы аб міжнародным супрацоўніцтве ў галіне навукі і адукацыі з замежнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі (2015–2017).

Справаздачы: аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці (2011, 2013–2016); аб выкананні плана працы (2011–2016); справаздачы па Канвенцыях ЮНЕСКА (2011–2013).

Перапіска з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, БДУ і інш. па асн. дзейнасці (2012–2017).

Калектыўныя дамовы (2011, 2015, 2016).

Спісы кадравага рэестра (2011).

Дакументы аб падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцый, семінараў (праграмы, заявы, перапіска і інш.) (2011); аб падрыхтоўцы і правядзенні IV Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Культура Беларусі: рэаліі сучаснасці» (пратаколы, спіс удзельнікаў, заяўкі і інш.) (2015–2016).

**4.3. Дзяржаўная ўстанова «Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур» (РЦНК).**

**Ф. 523. Воп. 1, 104 адз. зах., 1994–2005 гг.**

*Створаны ў выкананне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальных меншасцях Рэспублікі Беларусь» загадам Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь ад 22.12.1994 № 29. З 10.11.1995 знаходзіцца ў сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

Загады Міністэрства культуры и друку Рэспублікі Беларусь ад 22.12.1994 № 291 аб стварэнні Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур; ад 10.03.1996 № 76 аб зацвярджэнні Статута; выпіска з пратакола пасяджэнняў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб працы РЦНК (1996).

Пратаколы пасяджэнняў савета кіраўнікоў нацыянальных аб'яднанняў (1999–2000). Дакументы савета РЦНК (палажэнне, пратаколы, перапіска) (1995–2005).

Статут Дзяржаўнай установы «Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур» (2000).

Штатныя расклады (1995–2005).

Планы працы РЦНК (1995–2005). Планы і праграмы мерапрыемстваў нацыянальных культурных аб'яднанняў (1997–1998)

Балансы выканання каштарысаў (1995–1998); каштарыс выдаткаў і справаздача аб яго выкананні (1999–2001). Справаздачы аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці РЦНК (2003–2005). Статыстычныя справаздачы па працы, асноўных накірунках дзейнасці (2000–2005).

Справаздачы: РЦНК аб праведзеных мерапрыемствах (1995); аб дзейнасці нацыянальных культурна-асветніцкіх аб'яднанняў у Рэспубліцы Беларусь і грамадскіх культурна-асветніцкіх аб'яднанняў беларусаў замежжа за 1995–2004 гг.; Беларускага згуртавання татараў-мусульман аб археаграфічных экспедыцыях (1995–1996); аб ходзе распрацоўкі канцэпцыі «Беларуская дыяспара» (1997). Інфармацыі аб працы РЦНК і нацыянальных аб'яднанняў (2002).

Палажэнні: Рэспубліканскага конкурсу польскамоўных калядных гуртоў «Нова радосць», Рэспубліканскага свята «Саламяны цуд», міжнароднага фестывалю цыганскай песні і танца «Гіля Ромэн» (1997).

Сацыяльна-творчыя заказы (даручэнні) на правядзенне нацыянальных фестываляў, канцэртаў і інш. і дакументы да іх (1995–2001). Дагаворы на правядзенне прац па сацыяльна-творчых заказах і дакументы да іх (2003–2005).

Перапіска з Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Мінстэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, грамадскімі нацыянальнымі аб'яднаннямі і інш. (1994–2005).

Дакументы Народнага ўніверсітэта нацыянальных культур (палажэнн , планы) (1997).

Дакументы да «Канцэпцыі нацыянальна-культурнага развіцця нацыянальных меншасцей Беларусі» (рэцэнзіі, заўвагі, прапановы і інш.) (1996).

Дакументы аб падрыхтоўцы і правядзенні Першага 24–26 мая 1996 г., Другога 22–24 мая 1998 г., Трэцяга 2–4 чэрвеня 2000 г., Чацвёртага 7–9 чэрвеня 2002 г., Пятага 4–6 чэрвеня 2004 г. фестываляў нацыянальных культур (пастановы, палажэнні, сцэнарыі, заявы, дагаворы і інш.);

Дакументы форуму музычных культур народаў Беларусі «Квецень сонечных промняў» 21–22.04.1997 (планы, праграмы і інш.)

Дакументы творчых вечарын (сцэнарыі, праграмы, запрашэнні) (1999–)

Сцэнарыі і сцэнарныя планы нацынальных святаў: татараў «Караван Байрам», цыганскай песні і танца (1997), Дня незалежнасці Украіны (1998), Сёмага адкрытага фестывалю нацыянальных культур «Сонечны птах» (2005).

Праграмы фестываляў, афішы, запрашэнні і інш. (1996–2005).

Заявы беларусаў замежжа на набыццё нацыянальных касцюмаў, літаратуры і інш. (1999–2001, 2003–2004).

Кніга ўліку мерапрымстваў РЦНК (1995–2002, 2004–2008).

Творчыя пашпарты і характарыстыкі самадзейных калектываў мастацкай творчасці. Карткі рэгістрацыі грамадскіх аб’яднанняў. Эскізы касцюмаў для беларус. народных танцаў. Падборка газетных публікацый, прысвеч. дзейнасці РЦНК (2001–2005).

### 4.4. Установа «Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы» Ф. 526. Воп. 1, 301 адз. зах., 1944–2009 гг.

*Створаны адпаведна пастанове ЦК КП(б) і СНК БССР ад 25.05.1944 № 268 як Літаратурны музей Янкі Купалы ў сістэме Акадэміі навук БССР. У выніку рэарганізацыі АН БССР у 1962 годзе перайшоў у падпарадкаванне Міністэрства культуры БССР. Адпа-*

